

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

2 ЧЭРВЕНЯ 2000г. № 22/4054 КОШТ 85 РУБ.

## АДВЕЧНАЯ МЕЛОДЫЯ ЖЫЦЦЯ

**Таццяна МУШЫНСКАЯ: "Што цікавіць жанчыну? Напэўна, увесь свет — вялікі і неабдымны. Але ў ім ёсць яшчэ адзін — больш камерны, утульны і цёплы. Ён называецца дом, сям'я, дзеці, каханне".**

5

## ЯК ЗАЧЫНІЦЬ "АДКРЫТУЮ КАЛІТКУ" БЯЗДАРНАСЦІ?

**У рубрыцы "Крытыка" — рэцэнзіі на кніжкі, якія выйшлі ў недзяржаўных выдавецтвах.**

6—7

## СЮЖЭТЫ

**Ніла ГІЛЕВІЧА**

8

## ПРАРОЦТВА ДАНТЭ

**У перакладзе Уладзіміра СКАРЫНКІНА**

12

## "ПЕСНІ З ТУРМЫ" НА НАШЫМ ПОЛІ

**Уладзімір КАЗБЯРУК: "Доўга мы яшчэ будзем шукаць надзейных ацэнак рэальных паводзін і творчасці кожнага пісьменніка ў час, калі няшчадны дамоклаў меч пагрозліва вісеў над галовамі не толькі дзеячаў літаратуры і мастацтва, але і любога грамадзяніна".**

15

*3 чэрвеня вядомаму паэту, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васілю ЗУЁНКУ спаўняецца 65 гадоў.*

*Матэрыялы, прысвечаныя юбіляру, чытайце на стар. 7, 9, 14—15.*



# КОЛА ДЗЁН

***У апошнія майскія дні прайшлі, нарэшце, дажджы. Сям-там, праўда, з градам і шквалістым ветрам, але ўсё ж пасля шматдзённай спякоты і катастрафічнай сухмені зямля ў рэшце рэшт хоць крыху наталіла сваю смагу, засеяныя нівы з палёгкаю ўздыхнулі. Пакуль што цяжка сказаць, ці акрыяюць па-сапраўднаму пасевы, ці пойдуць у рост і ці дадуць сякі-такі ўраджай, аднак жа хоць спадзеў на гэта ўсё ж паявіўся. Дачакаўшыся ратоўчага дажджу, павесялелі, скінулі з душы зажуранасць і людзі і яшчэ з большай ахвотаю памкнуліся на свае гароды. Аднак да радасці і ў прыродзе, і ў людскіх сэрцах малавата, і большасць намінацый лімаўскага тыдня таксама атрымалася, на жаль, не мажорнай...***

## ЛАСКА ТЫДНЯ

Нядаўняя прапанова Міністэрства эканомікі аб павелічэнні тарыфаў на электраэнергію для насельніцтва з пачатку чэрвеня ўдвая, па ўсім відаць, не будзе прынята. Праўда, ласка зроблена людзям толькі на нейкі час і таму, што гэта б вельмі моцна ўдарыла па сямейных бюджэтах пасля нядаўніх павелічэнняў іншых тарыфаў і цэн на тавары і паслугі. З цягам жа часу прапанова аб павелічэнні кошту электраэнергіі будзе, вядома, прынята...

## ПАКАЗЧЫК ТЫДНЯ

Сто гадоў назад на кожную жанчыну ў Беларусі прыпадала 7-8 родаў. Цяпер гэты паказчык складае І, 23. Гэта азначае, што чатыры жанчыны за жыццё раджаюць адзін раз, а пятая — два разы. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што нас сёння амаль столькі ж, колькі было пасля самай жахлівай за ўсю гісторыю чалавецтва вайны?

## ОДУМ ТЫДНЯ

Друк паведаміў, што летась грамадзянамі Беларусі ўсыноўлена каля 500 дзяцей-сірот. Міжволі згадваецца шчымлівая тэлевізійная рэклама з мілымі дзіцячымі тварыкамі і не надта ўцямным подпісам аб тым, што ў Беларусі "более 10 тысяч детей подлежат усыновлению". І прыходзіць горкі одум аб лёсе гэтых, "подлежащих усыновлению", дзяцей. Пры такіх, калі можна гэтак сказаць, тэмпах гэтая праблема ў нас будзе вырашана не хутка, хутчэй за ўсё — не будзе вырашана ніколі. Прычыны? Галоўная з іх, бадай што, нашая беднасць. Акурат гэтым тлумачаць многія маладыя сем'і сваё нежаданне мець двое ці трое дзяцей: маўляў, няма магчымасцей іх утрымліваць. Дзе ж тут хто наважыцца ўсынаўляць чужых...

## ГАДАВІНА ТЫДНЯ

На гэтым тыдні споўнілася гадавіна з дня трагедыі на станцыі метро "Няміга" ў Мінску 30 мая 1999 года. За гэты год мы, здаецца, нешта зразумелі. Прынамсі, пытанне "Хто вінаваты?" гучыць ужо ў іншай плоскасці — уласнага пакаяння і асэнсавання больш глыбінных прычын здарэння, чым толькі халатнасць і непрафесіяналізм. Адказнасць за трагедыю ляжыць на ўсім грамадстве і на кожным з нас. Бо мы не клапоцімся аб захаванні ў сабе і ў грамадстве духоўнасці, імкнення да дабра, супрацьстаяння злу, агрэсіўнасці і раўнадушнасці. А следства па справе, звязанай з трагедыяй на "Нямізе", усё яшчэ працягваецца...

## ІНТЭГРАЦЫЯ ТЫДНЯ

Супрацоўнікі сацыялагічнай службы "Новак" правялі чарговае рэспубліканскае апытанне грамадскай думкі, папрасіўшы людзей адказаць на такое пытанне: "Ці лічыце вы неабходным паглыбленне працэсу інтэграцыі Беларусі і Расіі?" І што? Усяго толькі 51 працэнт апытаных выказаліся за працяг інтэграцыі. У Мінску ж прыхільнікаў гэтага працэсу яшчэ менш — усяго 46 працэнтаў. 29 працэнтаў жыхароў Беларусі і 37 працэнтаў жыхароў сталіцы не бачаць неабходнасці ў паглыбленні працэсу інтэграцыі з Расіяй. Дык адкуль жа той усеагульны пафас яднання і хутчэйшага стварэння адзінай саюзнай дзяржавы, што пануе на старонках афіцыйнага друку, радыё і тэлебачання? Асаблівых падстаў для эйфарыі, аказваецца, якраз і няма...

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

90-годдзе адзначыў Мінскі хлебазавод N 2. На першы погляд, не надта вялікая, значная падзея ў маштабах дзяржавы. Аднак жа інфармацыя аб гэтым прыцягвае ўвагу і нават чымсьці хвалюе. Напэўна, таму, што юбіляр усё ж не звычайны завод, а — хлебазавод. А хлеб ён і ёсць хлеб. А ў дадатак, калі гаворка ідзе акурат пра гэты завод, такі хлеб, як "Нарачанскі", "Траецкі", "Старажоўскі", "Сучасны" і самы апошні — "Юбілейны". Не залежваецца хлеб гэтых гатункаў на прылаўках, смачны ён і карысны. Таму і цёпла неяк на душы ад такіх юбілеяў...

## ЗАРОБКІ ТЫДНЯ

Прыкладна 1,5 мільярда рублёў складае запазычанасць па выплаце заробкаў у калгасах і саўгасах Мінскай вобласці, аб чым паведамляе газета "Белорусская нива". Найбольш цяжкая сітуацыя ў Крупскім, Чэрвеньскім, Лагойскім, Барысаўскім раёнах. Напрыклад, у Крупскім раёне ў 7 гаспадарках яшчэ не выплачаны заробак за студзень, у 17 — за люты, і нідзе яшчэ не разлічыліся з людзьмі за сакавік. У колісь багацейшым на ўсю Беларусь Слуцкім раёне за люты заробак не выплачаны ў 6 гаспадарках, за сакавік грошы выдалі толькі ў 11 гаспадарках, за красавік — толькі ў дзвюх. Бедная, гаротная наша вёска! Колькі ўжо дзесяцігоддзяў яна няшчадна рабуецца, вынішчаецца, асуджаецца на п'янства, дэградацыю, занядбанне? Калі прыйдзе да яе новая ява?

## КАНСТАТАЦЫЯ ТЫДНЯ

"Советская Белоруссия" змясціла адказы міністра адукацыі В. Стражава на пытанні чытачоў газеты. Сярод іх было і такое: "Калі міністэрства і органы адукацыі па-сапраўднаму зоймуцца беларусізацыяй школы ўсіх узроўняў?" Адказ прагучаў такі: "Трэба пагадзіцца, што адзначаецца некаторае скарачэнне колькасці вучняў агульнаадукацыйных школ і дзяцей у дашкольных установах, што навучаюцца і выхоўваюцца на беларускай мове. Так, калі ў 1994/95 навучальным годзе на беларускай мове навучалася 40,6% вучняў агульнаадукацыйных школ, то ў 1999/2000 годзе — 30%. Аднак гэты працэс неабходна лічыць заканамерным і правамерным, таму што камплектаванне класаў і груп па месцах навучання і выхавання ажыццяўляецца ў адпаведнасці з пажаданнямі бацькоў. А іх пажаданні гарантаваны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь". Адказ, як кажуць, вычарпальны. Ды толькі ўсё ж узнікае пытанне: чаму ў такім разе не гарантавана такое ж права — усюды і заўсёды — беларусам у іх уласнай краіне?

## АЛЬТЭРНАТЫВА ТЫДНЯ

У БДУ адбыліся выбары рэктара. Ім зноў стаў на бліжэйшыя пяць гадоў Аляксандр Казулін. Што ж, Казулін дык Казулін, гаворка не пра яго. Гаворка пра тое, што выбары былі безальтэрнатыўныя, у бюлетэнях для тайнага галасавання было толькі адно імя. Дык ці выбары гэта? А калі й выбары, дык хіба толькі з азначэннем — савецкія. А мы ж даўно ўжо жывём зусім у іншай дзяржаве...

КАНГРЭС

# Узаемадзеянне праз дыялог

***"Беларусь і сусветная супольнасць: узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне культур" — такую назву меў Трэці міжнародны кангрэс беларусістаў, прымеркаваны да 2000-годдзя хрысціянства. Падзелены на дзве сесіі — веснавую і восеньскую, ён сабраў на першае пасяджэнне звыш 250-ці вучоных з 11 краін свету. У адрозненне ад папярэдніх форумаў, у гэтым было значна болей фінансавых і арганізацыйных цяжкасцяў. Толькі з дзейснай і зацікаўленай дапамогі намесніка старшыні Адміністрацыі прэзідэнта І. Пашкевіча і міністра замежных спраў У. Латыпава змаглі прыехаць навукоўцы з Расіі, Украіны, Балгарыі і гарадоў нашай рэспублікі. Упершыню, з прынцыповых меркаванняў, адмовіліся ад удзелу нямецкія калегі.***

Прафесар А. Мальдзіс у сваім уступным слове так акрэсліў паняцце "беларусіст": "Гэта навуковец з замежных краін, які самаададзена і бескарысліва служыць Беларусі. Падкрэсліваю — бескарысліва, бо на службе беларускай культуры яшчэ ніхто капіталу не зарабіў".

Сузаснавальнікамі кангрэса выступілі пяць устаноў — міністэрствы адукацыі, замежных спраў, культуры, НАН РБ і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Скарыны. Прывітальнае слова ад прэм'ер-міністра У. Ярмошына зачытаў В. Стражаў. Актыўны ўдзел прынялі дзве буйнейшыя канфесіі — праваслаўная і каталіцкая. На пленарным пасяджэнні выступілі з дакладамі як гаспадары (М. Крукоўскі, Л. Ціханаў, Р. Гарэцкі, Н. Высоцкая, біскуп з Гродна А. Дзямянка), так і госці (Ю. Сураўцаў, В. Кіпель, А. Баршчэўскі). Дырэктар Скарынаўскага цэнтра Л. Уладыкоўская-Канаплянік канстатавала крызісны стан беларускай культуры, яе адарванасць ад грамадскага жыцця, незапатрабаванасць філасофіяй і навукай.

Работа кангрэса вялася па секцыях "Хрысціянства і Беларусь", "Францыск Скарына і еўрапейская культура", гістарычная, моваі літаратуразнаўчая, культуралагічная, працавалі "круглыя сталы" па ўзаемакантактах Беларусі з Польшчай, Украінай, Расіяй, краінамі Балтыі, Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. На жаль, старшыні навуковых аб'яднанняў не паспелі падвесці вынікі і абмяняцца ўражаннямі, але яны змогуць зрабіць гэта на старонках бюлетэня "Кантакты і дыялогі".

З усіх секцый менш чым каму пашанцавала першай: яна праходзіла ў вялікай актавай зале, дзе не было ўмоў для абмену думкамі і дыскусіі. Пра хрысціянства гаварылі так, як быццам гэта з'ява далёкага мінулага. Асобныя паведамленні насілі адцягнены схаластычны характар і прызначаліся, па словах каталіцкага святара, "не столькі для будучыні, колькі для паліцы".

На трэці дзень кангрэса адбыліся выбары ў кіруючыя органы грамадскай арганізацыі Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў. У кіраўніцтва прыйшлі новыя людзі, у прыватнасці — прафесар Тэхаскага універсітэта Вулхайзер, адказным сакратаром выбраны С. Запрудскі.

Тэма восеньскай сесіі абазначана наступным чынам: "Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый". Відаць, таму, што дыялог — найлепшы сродак вырашэння грамадскіх і палітычных спрэчак, а гэта на сённяшні дзень актуальна для Беларусі.

**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На сустрэчу з паэтам, крытыкам, літаратуразнаўцам з Беластока Янам Чыквіным у бібліятэку Саюза пісьменнікаў прыйшлі тыя, хто любіць творчасць гэтага аднаго з самых яркіх прадстаўнікоў літаратурнага аб'яднання "Белавежа". Гэта пісьменнікі, навукоўцы, выкладчыкі беларускай мовы. Цёплыя словы пра неардынарную постаць Я. Чыквіна казалі Анатоль Вярцінскі, Алесь Разанаў, Алесь Пашкевіч, Галіна Тычка, Кастусь Цвірка.

Віноўнік урачыстасці (вечарына была прысвечана 60-годдзю Я. Чыквіна) прачытаў свае вершы, пераклады, гаварыў пра сённяшні стан беларускай літаратуры ў Польшчы.

Ад імя Саюза пісьменнікаў намеснік старшыні СБП Навум Гальпяровіч уручыў юбіляру ганаровую грамату і кветкі.

●

На творчай вечарыне Міколы Вяршыніна, якая адбылася ў вялікай зале Дома літаратара, гучала шмат песень, вершаў, гумарэсак. Віншавать Міколу Пятровіча з 60-годдзем прыйшлі сябры па працы, родныя, а таксама заслужаная артыстка Беларусі Надзея Мікуліч, кампазітар Уладзімір Буднік, заслужаны артыст Беларусі, саліст опернага тэатра Міхаіл Галкоўскі, спяўны гурт БДУ "Тутэйшая шляхта", народны тэатр эстрадных сатырычных мініяцюр Палаца культуры МТЗ "Карусель".

Вёў вечарыну артыст і рэжысёр Мікола Макарцоў.

●

Кветкі да помніка Максіму Багдановічу ў Мінску ляглі ў дзень яго памяці ад Саюза пісьменнікаў, дзяржаўнага музея Максіма Багдановіча, дырэкцыі літаратурных музеяў, вучняў 40-й сярэдняй школы г. Мінска. Словы пра класіка беларускай літаратуры казалі пісьменнікі Навум Гальпяровіч, Міхась Пазнякоў, Віктар Праўдзін, Эдуард Акулін, дырэктар музея М. Багдановіча Мікола Трус, дырэктар аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Леанід Хадкевіч. Эдуард Акулін выканаў свае песні, а вучаніцы СШ N 40 чыталі вершы М. Багдановіча і ўласныя творы.

●

Госцем Саюза беларускіх пісьменнікаў быў вядомы крытык, літаратуразнаўца, сакратар Саюза пісьменнікаў Масквы Юрый Сураўцаў, які ўдзельнічаў у міжнародным кангрэсе беларусістаў. Адбылася зацікаўленая гутарка, выказвалася ўзаемнае жаданне працягваць сувязі паміж маскоўскімі і беларускімі літаратарамі.

Ю. Сураўцаў выказаў прапанову правесці ў Мінску выязную калегію часопіса "Дружба народов", прысвечаную сучаснай беларускай літаратуры, з актыўным удзелам вядомых крытыкаў, перакладчыкаў, беларускіх аўтараў часопіса.

●

Адбылася сустрэча кіраўніцтва СБП з рэдактарамі раённых газет, якую арганізаваў Дзяржаўны камітэт па друку. Размова ішла пра літаратурныя аб'яднанні, пра асвятленне пытанняў літаратуры на старонках раённага друку.

У сустрэчы прынялі ўдзел в.а. старшыні Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава, намеснік старшыні Навум Гальпяровіч, сакратар Гомельскага і Брэсцкага абласных аддзяленняў саюза Васіль Ткачоў і Алесь Каско.

Яны адказалі на пытанні прысутных, падзяліліся сваімі творчымі планамі, гаварылі аб ролі пісьменніцкай арганізацыі ў духоўным выхаванні моладзі.

**Н. К.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# "Турандот" збіраецца ў дарогу

У суботу Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы Беларусі завяршае свой сезон.

І завяршае — прэм'ерай: адбудзецца другі паказ оперы Д. Пучыні "Турандот". Твор з'явіўся ў рэпертуары беларускай опернай трупы за ўсю гісторыю яе існавання ўпершыню, і адбылося гэта дзякуючы замове арганізатараў сёлетняга еўрапейскага фестывальнага тура тэатра.

Галоўнай мастацкай задачай было дасканалае ўвасабленне музычнага матэрыялу — найскладанага, эмацыйна багатага, насычанага драматургічнай вобразнасцю. Таму спектакль існуе пакуль толькі ў так званым канцэртным варыянце. Але гэтае ўмоўнае, "філарманічнае" відовішча выклікае няўстрымную цікаўнасць публікі, сярод якой — пра што сведчыць ажыятаж вакол білетнай касы — ёсць нямала ахвотнікаў патрапіць на аншлагавую прэм'еру нават без гарантыі ўладкавацца ў бакавым крэсле на галёрцы. Той, хто пабываў ужо на "Турандот", абмяркоўвае дырыжорскую інтэрпрэтацыю маладога маэстра В. Чарнухі, выкананне салістаў, ёмістую працу галоўнага хормайстра Н. Ламановіч з яе вялікім пеўчым калектывам...

А вось у мінулую нядзелю адбыўся першы паказ яшчэ адной прэм'еры з фестывальнага праекта: оперы В. Моцарта "Дон Жуан". Знаёмая назва, знаёмае імя, знаёмы герой! Праўда, цяпер будзе больш дакладна казаць "Дон Джавані", бо Моцартава "опера опер" ідзе ў Мінску ўжо на мове арыгінала (класік пісаў на італьянскі тэкст лібрэта Л. да Понтэ). Новае ўвасабленне нашага старога знаёмца можна было б лічыць таксама канцэртным, калі б не памкненні творчай групы зрабіць сцэнічную пастаноўку.

Так, маэстра А. Анісімаў, рэжысёр-дэбютант Т. Сальнікава, мастак Л. Ганчарова, балетмайстар А. Дзмітрыева-Лаўрыновіч разам з салістамі У. Пятровым, Т. Глаголевай, А. Гардынцом, А. Жукавым, Т. Цівуновай, В. Курбацкай, А. Кедам, А. Мельнікавым, з музыкантамі сцэнічнага аркестра (кіраўнік Я. Гелер) імкнуліся стварыць на сцэне атмасферу тэатральнасці і "заразіць" ёю залу, скарыстаўшы сціплы пастановачны бюджэт з максімальнай фантазіяй...

Зрэшты, пра гэта мае быць асобная размова. Пакуль жа і "Дон Жуан", і "Турандот" (і героі яшчэ некалькіх іх оперных спектакляў) збіраюцца ў дарогу. І ў гледача ёсць яшчэ шанц пабачыць-паслухаць майстроў беларускай музычнай сцэны заўтра ўвечары, на прэм'еры. Яна пройдзе пад кіраўніцтвам аўстрыйскага дырыжора Р. Вайкерта, які будзе выступаць з нашымі артыстамі на фестывалі ў Швейцарыі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Усебеларускае свята

***5 чэрвеня ўвесь беларускі народ адзначае дзень ушанавання Святой Еўфрасінні Полацкай. З гэтай нагоды наш карэспандэнт звярнуўся з пытаннямі да пісьменніцы, прэзідэнта Міжнароднага жаночага фонду Святой Еўфрасінні Полацкай Валянціны Коўтун.***

*Валянціна Коўтун у час узнагароджання Стэфаніі Станюты медалём Святой Еўфрасінні Полацкай.*

**— Шаноўная сп. Валянціна, перш за ўсё — што для вас асабіста, для ўсіх сяброў арганізацыі, якая носіць імя Святой Еўфрасінні Полацкай, азначае праца па ўшанаванні вялікай апякункі Беларусі?**

— Сёння імя і справа Еўфрасінні Полацкай сімвалізуюць не толькі ўвесь асветніцкі набытак лепшых прадстаўнікоў беларускай гісторыі, але, пэўным чынам, увасабляюць вялікую ідэю беларускай дзяржаўнасці, выпраменьваючы аптымістычнае святло надзеі. Мне ўсё часцей згадваецца 1994 год. Менавіта тады па нашай ініцыятыве ўся Беларусь пачала адзначаць 5 чэрвеня як Агульнанародны дзень Святой Еўфрасінні Полацкай — дзень яднання народа, перасякаючы нацыянальныя, палітычныя і рэлігійныя бар'еры. Тагачасная паездка ў Полацк стала для нас і ўсёй беларускай інтэлігенцыі, тым першым магутным штуршком, што пазначыў шлях да паглыблення Веры і пашырэння Свята-Еўфрасіннеўскай справы. На працягу наступных гадоў ідэя паступова канкрэтызавалася ў асветніцкай дзейнасці фонду — правядзенні Свята-Еўфрасіннеўскіх чытанняў, канферэнцый, семінараў і нават міжнародных форумаў. Ішла няспынная няпростая праца, якая працягваецца і цяпер. І вынік, мне здаецца, — цудоўны. Імя Святой Еўфрасінні ўвайшло сёння ў кожны беларускі дом, зацяплілася ў нашых сэрцах, а свята 5 чэрвеня паступова набывае абрысы новай нацыянальнай традыцыі. Прынамсі, усё да гэтага ідзе.

**— У гэтай сувязі, скажыце, якое з апошніх Свята-Еўфрасіннеўскіх мерапрыемстваў вы вылучаеце асабліва?**

— Вядома, цяжка адзначыць з усяго зробленага лепшае, бо менавіта фонд Святой Еўфрасінні Полацкай у цэнтр грамадскай увагі вылучыў адну з важнейшых праблем нашага жыцця — праблему Жанчыны, праблему гістарычнага і сучаснага развіцця жаночай самасвядомасці і жаночага руху. У гэтай сувязі не дзіўна, што на праведзеных намі рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцыях, семінарах, кангрэсах на самым высокім прадстаўнічым узроўні абмяркоўваліся пытанні асветніцтва, міратворчасці, абароны сацыяльных правоў жанчын. Гэта асобная, вельмі важная гаворка. І нас радуе, што яна пачалася пад знакам Свята-Еўфрасіннеўскай ідэі. І ўсё ж адзначу, што апошнім часам найбольшы рэзананс атрымаў праведзены намі ў чэрвені мінулага года Усебеларускі форум "Жанчына. Планета. Будучыня: на парозе новага тысячагоддзя". Беларускія жанчыны прымалі гасцей з Расіі, Украіны, Малдовы, Літвы, Польшчы, ЗША, Вялікабрытаніі. У цэнтр увагі была вылучана адна з самых балючых праблем грамадства, да прыкладу, праблема "Жанчына і Будучыня. Развіццё жаночага руху ва ўмовах смяротна небяспечных экалагічных наступстваў Чарнобыля". У звароце ўдзельнікаў форуму з сімвалічнай назвай "Зберажом Мадонну будучыні!", якую падпісалі прадстаўніцы каля двухсот грамадскіх арганізацый, сцвярджаецца: усеагульная перакананасць, што настаў час актыўнай жаночай дзейнасці дзеля абуджэння ў народа грамадскай ініцыятывы, дзеля свабоды і разбурэння рабскай псіхалогіі. Жанчыны форуму запісалі: "Чарнобыль стаў сёння нашым агульным болем, нашай сумеснай барацьбой. Урэшце, сёння ўсе мы можам аб'яднаць сілы дзеля самага важнага для ўсіх жанчын — дзеля ўратавання Мадонны будучыні, дзеля ўратавання нашай Планеты!" Я невыпадкова спынілася на гэтых радках, таму што лічу, што намаганні фонду Святой Еўфрасінні Полацкай у справе актывізацыі жаночай барацьбы супраць экалагічнага бедства сёння маюць вялікае значэнне і падтрыманы, па сутнасці, большасцю жаночых творчых і іншых грамадскіх арганізацый Беларусі. Наша радзіма Беларусь — чарнобыльская. Але ж яна і Свята-Еўфрасіннеўская. А, значыць, вера ў будучыню павінна падмацоўвацца нястомнай сумеснай працай на карысць нацыянальна-духоўнага адраджэння.

**— Вашы пажаданні напярэдадні свята.**

— Найперш, віншаванні ўсім жанчынам Беларусі, але асабліва тым, хто быў названы фондам Жанчынамі года і ўзнагароджаны медалём Святой Еўфрасінні Полацкай. Сярод іх і прадстаўніцы высокага пісьменства і культуры: славутая ўкраінка Ліна Кастэнка, нашы знакамітыя Стэфанія Станюта і Марыя Захарэвіч. Сёння нам усім важна сказаць: няхай Свята-Еўфрасіннеўскае святло агорне праменнем веры і надзеі ўсю нашу радзіму і прасвеціць шлях беларускага народа ў Будучыню.

ГОСЦІ

# Сувязі будуць мацнець

23 траўня ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў адбылася сустрэча з гасцямі з Сербіі. У складзе сербскай дэлегацыі былі пісьменнік, выдавец, сябра праўлення Саюза пісьменнікаў Сербіі Момір Лазіч, яго жонка і супрацоўніца Верка Дунджэрска-Лазіч, вядомы гісторык, прафесар Йован Дэрэціч, а таксама саветнік пасольства Югаславіі на Беларусі Слабадан Ярчавіч. З беларускага боку прысутнічалі выконваючая абавязкі старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, яе намеснік, паэт Навум Гальпяровіч, кансультант Саюза пісьменнікаў Яўген Каршукоў, пісьменніца Людміла Рублеўская, дырэктар Інстытута новых тэхналогій Ягор Фядзюшын, а таксама перакладчык і літаратуразнаўца прафесар Іван Чарота, якога звязваюць з сербскімі літаратарамі даўнія творчыя сувязі.

Нагодай для прыезду сербскіх гасцей стала прэзентацыя часопіса "Збіля" ("Reality"), які рэдагуе і выдае Момір Лазіч. Нумар незвычайны — у ім надрукаваны творы літаратараў розных краін. Такім чынам была выказана іх салідарнасць з сербскім народам, які перажывае цяжкія часы, спробу НАТА стварыць для Сербіі як палітычную, так і культурную ізаляцыю. Але культура, як вядома, не мае межаў. У нумары змешчаны творы літаратараў з Расіі, Канады, Германіі, Англіі, Калумбіі ды іншых краін свету. Наша літаратура прадстаўлена кароткай анталогіяй беларускай паэзіі, падрыхтаванай Іванам Чаротам — гэта вершы нашых класікаў ад Францыска Скарыны да Янкі Купалы. Змешчана эсэ Уладзіміра Караткевіча "Людзі зямлі беларускай" у перакладзе Мікіты Супрунчука. Сучасная літаратура прадстаўлена вершамі Адама Глобуса, Леаніда Дранько-Майсюка і Людмілы Рублеўскай, а таксама апавяданнямі Віктара Супрунчука.

У часопісе надрукаваны зварот да суайчыннікаў мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі, у сувязі з угодкамі пачатку бамбардзіровак Югаславіі сіламі НАТА.

У сваім выступленні Вольга Іпатава запэўніла гасцей, што Саюз беларускіх пісьменнікаў будзе імкнуцца да цеснага культурнага і творчага супрацоўніцтва з Сербіяй. Сведчаннем гэтага павінны стаць выданне сумеснага зборніка беларускіх і сербскіх літаратараў, а таксама візіт дэлегацыі сербскіх пісьменнікаў на Беларусь, які мае адбыцца ў жніўні. Іван Чарота дадаў, што чакаецца ўсё ж такі выхад на беларускай мове зборніка слыннай сербскай паэткі Дэсанкі Максімавіч, падрыхтаваны да яе 100-годдзя, якое святкавалася ў 1998 годзе.

Тое, што культура не мае межаў, пацвярджанае і тым фактам, што ў гэтым годзе ў Сербіі адбудзецца XXX міжнародная пісьменніцкая сустрэча, у якой традыцыйна прымаюць удзел літаратары больш як 80 краін. Госці з Сербіі прывезлі два запрашэнні і для беларускіх пісьменнікаў. Так што сувязі паміж нашымі краінамі і творчымі саюзамі будуць працягвацца і мацнець.

**Л. Ш.**

**У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА"**

Выказваю глыбокую падзяку арганізацыям, прыватным асобам, дзеячам літаратуры і мастацтва, знаёмым і сябрам, якія прывіталі мяне з 60-годдзем.

Мікола **ВЯРШЫНІН**

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## Помнік герою Беларусі

Гэтымі днямі на бульвары Касманаўтаў у Брэсце адкрыты помнік першаму Герою Беларусі Уладзіміру Карвату. Свой подзвіг лётчык, падпалкоўнік, ураджэнец Берасцейшчыны Уладзімір Карват здзейсніў 23 траўня 1996 года. Цаной уласнага жыцця ён адвёў палаючы самалёт ад населенага пункта.

Анатоль **ХАРЛАМАЎ**

## Натхнілі літаратары-юбіляры

У Ганцавічах падведзены вынікі раённага конкурсу на лепшы сцэнарый пра творчасць літаратараў-юбіляраў 2000 года. Пераможцамі сталі бібліятэкар дзіцячай бібліятэкі В. Мініч (сцэнарый паводле твораў У. Ліпскага), бібліятэкар Любашаўскай бібліятэкі Т. Курылік (па творах Ф. Багушэвіча і Р. Барадуліна), бібліятэкар з Ганцавічаў Н. Валасюк (па творчасці Л. Геніюш).

**НАШ КАР.**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Універсітэт "3-ці век"

Вучэльня з такою назвай працуе пры Доме польскім у Лідзе. Слухачамі яе з'яўляюцца людзі шаноўнага ўзросту, якім выпаў пенсійны век. У вучэбнай праграме пераважаюць лекцыі ўрачоў і псіхолагаў, святароў і культуролагаў, музыказнаўцаў і эколагаў. Нядаўна, напрыклад, майстар Чэслаў Крышкевіч з Беластока даў лідчанам карысныя парады наконт працы на садова-агародных участках. Ва "універсітэце" працуюць секцыі па інтарэсах. На грамадскіх пачатках кіруе ўстановай Леакадзія Шоркіна, а дапамагаюць ёй добраахвотныя памочніцы Яніна Малец, Тарэза Карэйва і іншыя.

## Дбаюць пра міласэрнасць

Споўнілася пяць год, як пры Лідскім рэгіянальным мемарыяльна-культурным таварыстве яўрэяў стаў працаваць дабрачынны аддзел "Хэсэд" ("Міласэрнасць"). Адбыліся юбілейныя ўрачыстасці. Удзельнікі сустрэчы станоўча ацанілі дапамогу хворым, адзінокім і нямоглым з боку патранажных работнікаў і валанцёраў таварыства. Урачыстасці завяршыліся канцэртам.

Алесь **ЖАЛКОЎСКІ**

## Сустрэча з пісьменніцай

У Дзятлаўскай сярэдняй школе N 3 адбылася сустрэча з пісьменніцай Вольгай Іпатавай.

— Мае бацькі вырашылі назваць мяне ў гонар адной з бабуль, — гаварыла яна. — Вольга — імя мамінай матулі. Нарадзілася я ў Міры, старажытным куточку Гродзеншчыны. Але і з Дзятлаўшчынай мяне звязвае многае. Вучылася ў Таркачоўскай школе. Менавіта на дзятлаўскай зямлі нарадзіліся першыя радкі кнігі "Раніца"...

Іосіф **ЗАЯЦ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Першы выпуск

На базе Мазырскай музычнай вучэльні адкрыты філіял Беларускага універсітэта культуры. Адбыўся першы выпуск спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй, якія навучаліся на факультэце народнай творчасці па спецыялізацыі эксперыментальная музыка і народныя спевы. У перспектыве — адкрыццё аддзялення рэжысуры і харэаграфіі.

## Альманах гімназістаў

У Гомельскай беларуска-славянскай гімназіі імя Івана Мележа выйшаў у свет літаратурны альманах "Кветачка, мая Беларусь". У зборнік увайшлі лепшыя творы гімназістаў, вершы, нарысы, казкі, эцюды-замалёўкі, гістарычныя балады. Дапамогу і падтрымку ў выданні альманаха аказала абласное аб'яднанне "Грамадзянскія ініцыятывы".

## Справы пісьменніцкія

Жаданым госцем на Гомельшчыне з'яўляецца беларускі пісьменнік, галоўны рэдактар дзіцячага часопіса "Вясёлка", прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі. Днямі ён сустрэўся з выкладчыкамі і студэнтамі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны. Расказаў аб сваёй творчай і грамадскай дзейнасці. Яшчэ адна значная падзея ў літаратурным жыцці Гомельшчыны: названы лаўрэаты літаратурных прэмій абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Імі сталі Таіса Мельчанка, Мікола Янчанка, Васіль Ткачоў.

**А. ШНЫПАРКОЎ**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Крымінальная драма

У Бабруйску прайшла прэм'ера крымінальнай драмы "Зоркі пад дахам" па п'есе пецярбургскага драматурга Таццяны Далговай. Спектакль адбыўся на сцэне мясцовага тэатра імя Дуніна-Марцінкевіча. Пастаноўка рэжысёра і актрысы Ларысы Бархатоўскай прысвечана праблемам моладзі.

## У школьнікаў — вакацыі

Кінавідэапрадпрыемства "Позірк" падрыхтавала дзіцячае свята, прымеркаванае да пачатку летніх вакацый. У магілёўскіх кінатэатрах "Ветразь", "Космас" і "Чырвоная зорка" дэманстраваліся мастацкія кінастужкі ў рамках фестывалю "Казкі Чэхіі і Славакіі".

## Папаўняецца фонд

Фонд абласной бібліятэкі папоўніўся каштоўнымі і рэдкімі выданнямі. Сярод іх тры кнігі з серыі "Хатні музей": "Шэдэўры еўрапейскага жывапісу", "Жыццё і творчасць пяцідзесяці славутых мастакоў", "Архітэктура". Аддзел мастацтваў атрымаў таксама два альбомы, якіх у Магілёве не было: "Шэдэўры жывапісу са збору лепшых мастацкіх галерэй Еўропы", "Шэдэўры рускага жывапісу".

Алесь **ПЯТРОВІЧ**

*МІНШЧЫНА...*

## Прэм'ера ў Маладзечне

Днямі ў абласным драмтэатры Маладзечна прайшла прэм'ера спектакля "Мымрык" паводле п'есы Валянціна Афоніна ў перакладзе Івана Чэркаса. Жанр п'есы вызначаны як казка-фантазія для дзяцей і іх бацькоў. Рэжысёр спектакля Венядзікт Растрыжэнкаў, мастак-пастаноўшчык — Яўген Волкаў, кампазітар — Алена Атрашкевіч.

Галіна **НОВІКАВА**

## "Моладзь ідзе..."

**18 мая — Міжнародны дзень музеяў. Бадай няма ніводнага музея ў свеце, які б не ладзіў у гэты святочны дзень якое-небудзь адметнае мерапрыемства. У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбыўся I Рэспубліканскі конкурс школ імя Янкі Купалы "З Купалам у сэрцы". З усёй Беларусі зляцеліся "купаляняты": з СШ N 19 г.Мінска, Сенніцкай СШ, гімназіі N 1 г. Мазыра, СШ N 1 г. Маладзечна, Бяларуцкай СШ, Копыскай СШ, Камунараўскай базавай школы, а таксама былі запрошаны**



**Рэспубліканскі каледж мастацтваў і Віцебскі індустрыяльны тэхнікум.**

**У ганаровае журы ўваходзілі: прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы, доктар філалогіі, прафесар Вячаслаў Рагойша, віцэ-прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы, дырэктар музея Жанна Дапкюнас, загадчыца навукова-асветніцкага аддзела музея Людміла Давідоўская. Конкурс праходзіў па чатырох намінацыях: празаічны твор, верш, песня, мастацкі твор. Уладальнікам 1-3 месцаў былі ўручаны ганаровыя дыпломы Міжнароднага фонду Янкі Купалы. Ніхто не застаўся без падарункаў — усе ўдзельнікі атрымалі сувеніры музея.**

**З конкурсных мастацкіх твораў была створана выстава. Апрача жывапісу і графікі, былі шырока прадстаўлены саламяныя і гліняныя вырабы, ткацтва, вышыўка, аплікацыі, старажытнае беларускае мастацтва — выцінанка. Вучні Сенніцкай школы выступілі з паказам-расповедам "Сказ пра Багоў Крывіцкіх", дзе вельмі цікава і захапляюча адлюстравалі кола каляндарна-абрадавых святаў беларусаў.**

**У Доме Купалы сабраліся тыя, хто сапраўды жыве "з Купалам у сэрцы". Свае першыя творы "купаляняты" прысвяцілі сваёй краіне, роднай мове, гістарычным асобам і падзеям, героям твораў Янкі Купалы і самому Песняру. Гэта азначае, што маладыя творцы неабыякава ставяцца да нацыянальнай гісторыі і культуры, памятаюць нашу мінуўшчыну і шануюць беларускую мову.**

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**ст. навуковы супрацоўнік музея Янкі Купалы.**
*Фота С. ЛУКЬЯНАВА.*

## Аб хранатопах і не толькі

**У сталічнай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася чарговая літаратурная імпрэза. На гэты раз Беларускі калегіум ладзіў сустрэчу з Пятром Васючэнкам, які вядомы як драматург, празаік і літаратуразнаўца. Да ўвагі публікі была прапанавана лекцыя "Паралельны свет літаратуры" (згадзіцеся, тэма даволі інтрыгуючая).**

**Напачатку аўтар вызначыў тэрмін "хранатоп" (час-прастора) і на прыкладах вядомых твораў сцісла, але грунтоўна расказаў пра мадэлі мастацкіх хранатопаў нацыянальнай літаратуры. Далей — пра тое, што ёсць геніяльнасць, пра ўплыў мастацкага тэксту на жыццё чалавека.**

**Трэба адзначыць далікатную, немітуслівую (ад таго і пераканаўчую) манеру Пятра Васючэнкі ў выкладанні матэрыялу. З боку прысутных, сярод якіх былі прафесійныя літаратары і мастакі, узніклі канцэптуальныя пытанні, пачутае сталася інфармацыяй для разважанняў.**

**Падумай сто разоў, творца, ці не супярэчаць твае намаганні вядомым хрысціянскім запаветам, ці не вабіць цябе спакуса зазірання ў "пазалюстравы" свет. Увогуле, заняткі мастацтвам цягнуць за сабой найвялікую адказнасць...**

**Дыялогі пасля лекцыі — відавочная прыкмета, што аўтару было чым падзяліцца з публікай.**

**Ядвіга КВЯТКОЎСКАЯ**

# Прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў









**КАМОЦКІ Аляксандр Верамеевіч,** 1958 года нараджэння, акцёр Мінскага драматычнага тэатра "Дзе-Я?".

Аўтар паэтычнага зборніка "Спроба ісьці па расе" (Мінск, 1997 год), аўтар публікацый у перыядычным друку, шматлікіх радыё- і тэлевізійных перадач.

Рэкамендавалі ў СБП Рыгор Барадулін, Людміла Паўлікава-Хейдарава, Эдуард Акулін.

**МУШЫНСКАЯ Таццяна Міхайлаўна,** 1958 года нараджэння, загадчык аддзела музыкі часопіса "Мастацтва Беларусі".

Аўтар манаграфіі "Гармонія дуэта" (Мінск, 1987 год), літаратурных запісаў "Полвека на сцене" (Мінск, 1987 год), творчых партрэтаў "Гаркавы смак ісціны" (Мінск, 1993 год), казак і апавяданняў "Віця Неслух у краіне мурашоў" (Мінск, 1995 год), аповесцей і апавяданняў "Доўгае развітанне" (Мінск, 1997 год), зборніка тэатральнай крытыкі "Страсці" (Мінск, 1997 год), альбома "Валянцін Елізар'еў" (Мінск, 1997 год), шматлікіх часопісных публікацый.

Рэкамендавалі ў СБП — Янка Сіпакоў, Таіса Бондар, Уладзімір Карызна.

**РАМАНАВА Ларыса Дзмітрыеўна,** 1968 года нараджэння, навуковы супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці.

Аўтар вершаванага зборніка "Аддай асалоду Богу" (Мінск, 1997 год), шматлікіх публікацый у перыядычным друку.

Рэкамендавалі ў СБП — Гомельскае абласное аддзяленне СБП, Барыс Сачанка (Пятровіч), Анатоль Сыс.

**РЫМСКІ Генадзь Васільевіч,** 1936 года нараджэння, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук, прафесар.

Аўтар зборніка перакладаў "Белорусская лирика XIX—XX веков" (Масква, 1998 год), шматлікіх публікацый у перыядычным друку.

Рэкамендавалі ў СБП — Сяргей Грахоўскі, Валянціна Аколава, Міхась Кенька.



# Паэзія супраць песні

### АНТЫПАТЫЯ ЦІ БАРАЦЬБА ЖАНРАЎ?

Сярод бурклівых нататкаў Навума Гальпяровіча ("ЛіМ" за 7.04.г.г.) трапляюцца і даволі калючыя, у тым сэнсе, што мецяць укалоць у адным месцы, а "вылазяць" у іншым. У прыватнасці, мяне зацікавіла пытанне, чаму "звычайныя" паэты недалюбліваюць аўтараў тэкстаў да музыкі, ці так званых паэтаў-песеннікаў. Вытокі гэтай антыпатыі мне бачацца крыху інакш, чым сп. Гальпяровічу, бо сам я меў дачыненне і да вершаў, і да музыкі, і да іх выканання (прыкладаючыся да такога жанру, як аўтарская песня).

З адным я згодны адразу — верш і песня не адно і тое ж. Песня — жанр сінтэтычны, верш — манатыпны. Песня складаецца не толькі з тэксту і музыкі, а яшчэ і з носьбіта-рэтранслятара — песеннага выканаўцы. Яго энергетыка, уласцівасці голасу, пластыка і яшчэ невядома што могуць "выцягнуць" даволі пасрэдную, нават бяздарную песню. Бяздарную ж паэзію не "выцягне" нішто — ні мільённы тыраж, ні "значнасць" тэмы, ні лаўрэацтва аўтара. Акрамя таго, далёка не ва ўсіх песнях тэкст бывае яе галоўным складнікам. Значна важней можа быць мелодыя, аранжыроўка, рытм (апошні мае асаблівае значэнне ў сучасных песнях).

Справа ў тым, што выразна акрэслены рытм, акцэнтаваны ўдарнымі інструментамі, спрыяе сінхранізацыі нейра-псіхалагічных працэсаў і ўвядзенню слухача ў стан медытацыі або нават трансу. У многіх сучасных песнях не толькі словы, але і мелодыя адыходзяць на задні план. Рытм, рытм і яшчэ раз рытм! Ён дазваляе расслабіцца (ці наадварот — узбудзіцца), каб адключыцца ад стрэсаў, жахаў ці шэрасці жыцця, ад перанасычанасці яго інфармацыяй і праблемамі. Сучасная поп-песня, нягледзячы на ўсе папрокі ў прымітывізме і бездухоўнасці, мае сацыяльную функцыю, бо часта яна замяняе мантры, замовы, малітвы ды іншыя псіхатэрапеўтычныя тэхнікі, якія калісьці насілі рэлігійны ці прыватна-асабісты характар. Сёння ж мы карыстаемся індустрыяльна выробленымі медытацыйнымі сурагатамі, якія далёка не заўсёды бяскрыўдныя.

I ўсё ж словы ў песнях (пакуль яшчэ ў вельмі многіх) выконваюць вялікую ролю. Яны як бы ўводзяць ва ўлонне твора, робяць яго пазнавальным і больш запамінальным. Сучаснай песні неабавязкова мець складаны сюжэт, шмат вобразаў і метафар. Дастаткова аднаго-двух яркіх, кідкіх радкоў ці фраз, што, паўтараючыся, ствараюць тэкставыя апоры песні. Прычым гэта "тэкставая арматура" можа быць і зусім прымітыўнай ("яблоки на снегу", "мама, где моя панама?" і г.д.), і больш арыгінальнай ("я тебе не верю — телефон доверю", "важней всего — погода в доме"...), а на яе ўжо так-сяк чапляецца слоўнае рыззё. Шматразовы паўтор апорных слоў і фраз узмацняе манатоннае ўздзеянне рытму і таксама спрыяе медытацыйна-трансаваму адключэнню і ўспрыманню гукаў на ўзроўні падсвядомасці.

Вядома, для паэзіі такія падыходы немагчымыя, тут, наадварот, трэба інтэлектуальнае напружанне, уключэнне вышэйшых асацыятыўных цэнтраў і папярэдняга моўна-культурнага вопыту. Таму паэзія — жанр высокі, элітарны, а эстрадная песня — усе-дасяжны, масавы. Нікому не прыйдзе ў галаву слухаць без перакладу ангельскую ці італьянскую паэзію, а замежныя песні — калі ласка, слухаюць нават непісьменныя. Калі звярнуцца да парыўнанняў, то паэзія — гэта акадэмічныя ці авангардныя карціны, а песні — толькі плакаты, часта нават улёткі, творы аднаразовага выкарыстання. Добрая паэзія, як і добрае віно, з цягам часу набывае новыя вартасці і грані, а песні — хутчэй малако, якое праз дзень-другі скісае. Паэзія — гэта далікатэс, смак якога разумеюць нямногія, а песня — чорны надзённы хлеб, які вушамі "жуюць" практычна ўсе — хто актыўна, хто пасіўна. І хоць у любым вершы Разанава або Сыса свежых вобразаў і цікавых парыўнанняў на дзесятак песень, а слоўнай "лапшы" ўвогуле няма, людзі кожны дзень спажываюць якраз не паэтычнае "золата", а песенную "лапшу" (ці быў у вас хоць адзін дзень, каб вы не пачулі ніводнае песні?). Вось чаму ў народзе больш вядомыя аўтары шараговых песень, а не выбітныя паэты, вось чаму існуе пэўная антыпатыя паміж імі.

І сапраўды, папулярнасць хутчэй прывядзе да поспеху, чым вядомасць у вузкім коле, а адна "раскручаная" песня можа дадаць у кішэню больш, чым цэлы паэтычны зборнік. І зрабіць тут нічога нельга — законы рынку: хто больш прадае, той больш атрымлівае. Між іншым, пісаць песні блізкія і зразумелыя народу якраз лягчэй тым, хто ад гэтага народа далёка не адышоў, хто пакуль не ўзлез на "вежу са слановай косткі". Менавіта ў многіх не вельмі пісьменных вершатворцаў, пра якіх піша Н. Гальпяровіч, гэта атрымліваецца прасцей і натуральней, бо ім лягчэй адчуць "чё те нада, чё те надо"... Што ж у гэтых умовах рабіць іншым паэтам? Я думаю, таксама спрабаваць сябе ў песенным жанры. А для гэтага хоць зрэдку пакідаць сваю паэтычную "вежу" калі не дзеля здабычы хлеба, то для "прыколу" або збліжэння з масамі. Бывае карысна як для здароўя, так і для творчасці.

**Васіль АЎРАМЕНКА**
*г. Магілёў*

# Чыя праўда?

У "ЛіМе" за 7 красавіка гэтага года быў змешчаны ліст Я. Клімуця "Памяці Аркадзя Куляшова" пра навуковую канферэнцыю ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. Куляшова, прысвечаную 85-годдзю з дня нараджэння народнага паэта. Аўтар акцэнтуе ўвагу на некаторых акалічнасцях, у якіх гэтая канферэнцыя адбылася. У прыватнасці, Я. Клімуць піша: "На жаль, правядзенне канферэнцыі не было ўключана ў план навуковых мерапрыемстваў Міністэрства адукацыі РБ на 1999 г., паколькі ў лютым таго ж года ў МДУ імя А. Куляшова праводзілася Міжнародная навуковая канферэнцыя з нагоды юбілею вядомага педагога-матэматыка Абрама Столяра, які працаваў калісьці ў Магілёве. Кіраўніцтва МДУ імя А. Куляшова давялося выбіраць нешта адно, і перавага была аддадзена юбілею прафесара А. Столяра, нягледзячы на тое, што Магілёўскі універсітэт носіць імя Аркадзя Куляшова. Дзіўна, але і ў межах самога універсітэта было адмоўлена ў фінансаванні канферэнцыі, таму яна была праведзена за кошт сродкаў Магілёўскай гарадской рады ТБМ і прыватных ахвяраванняў...

...Па выніках канферэнцыі быў падрыхтаваны зборнік навуковых прац "Праблемы беларускага літаратуразнаўства. (Да 85-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Куляшова.) Але зноў жа, паколькі канферэнцыя не патрапіла ў план навуковых мерапрыемстваў МДУ імя А. Куляшова, намеснік рэктара універсітэта па навуковай працы адмовіў у друкаванні зборніка".

**У рэдакцыю прыйшоў ліст за подпісам рэктара МДУ імя А. Куляшова, прафесара М. Аўласевіча такога зместу:**

"Выклікае шкадаванне, што апублікаваныя 7 красавіка 2000 года нататкі Я. Клімуця "Памяці Аркадзя Куляшова" змяшчаюць у сабе шматлікія недакладнасці, якія груба скажаюць рэчаіснасць. Праўда ў гэтых нататках — толькі канстатацыя таго факта, што ў лютым 1999 года ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце прайшла канферэнцыя, прысвечаная памяці прафесара А. Столяра, а ў красавіку гэтага ж года — 85-годдзю з дня нараджэння А. Куляшова.

Першую з гэтых канферэнцый заявіла кафедра методыкі выкладання матэматыкі, якую на працягу многіх год узначальваў А. Столяр. Канферэнцыя была праведзена на высокім узроўні, прычым, насуперак заяве Я. Клімуця, без фінансавай падтрымкі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Да пачатку канферэнцыі, як і прынята ў нашым універсітэце, былі выдадзены тэзісы дакладаў і выступленняў.

Другую канферэнцыю заявіла кафедра беларускай літаратуры, і арганізацыю яе ўзначаліў Я. Клімуць. На жаль, арганізатары гэтай канферэнцыі ў значнай ступені не справіліся са сваёй задачай, бо да яе пачатку матэрыялы не былі падрыхтаваны да выдання. Пытанне аб публікацыі матэрыялаў канферэнцыі Я. Клімуць перад кіраўніцтвам універсітэта нават і не ставіў. Дзіўныя домыслы ў адносінах да выдання гэтых матэрыялаў, што змешчаны ў нататцы Я. Клімуця, маюць на мэце, верагодна, апраўдаць дзеянні тых людзей, якія не выканалі сваіх абавязацельстваў перад аўтарамі тэзісаў, дасланых у аргкамітэт канферэнцыі (тэзісы, дарэчы, да гэтага часу не апублікаваны)".

І чыя тут праўда?

# Адвечная мелодыя жыцця

***Што цікавіць жанчыну?***

***Напэўна, увесь свет — вялікі і неабдымны. Але ў ім ёсць яшчэ адзін — больш камерны, утульны і цёплы. Ён называецца дом, сям'я, дзеці, каханне. Гэтая тэма заўсёды хвалюючая і невычарпальная. Яна і аб'ядноўвае занатаваныя маналогі і дыялогі.***

●

Знаёмы творца выкладае ўласную тэорыю.

— Асабіста для мяне чалавецтва дзеліцца не на дзве часткі — мужчыны і жанчыны. А на чатыры. Першая: жанчына-жанчына. Гэта значыць, калі і знешне, і ўнутрана перад табой сапраўды жанчына. Далей жанчына-мужчына: калі знешне — жанчына, а па характары — мужчына. Ёсць яшчэ мужчына-мужчына. І мужчына-жанчына — схільны падпарадкавацца, празмерна мяккі, добры і гэтак далей...

Я ўважліва слухаю. Увогуле згодная. Бо жыццёвыя ўражанні вельмі часта пацвярджаюць гэтую тэорыю. І на выдатна тлумачаць многія, часам невытлумачальныя, сітуацыі, учынкі, словы. Нават тэмбр голасу. Цікаўлюся:

— А калі жанчына — сапраўды жанчына? І абаяльная, і прывабная, але з цвёрдым характарам, моцнай воляй. Кіруе і сабой, і іншымі выдатна. Тады што, увесці катэгорыю "жанчына-жанчына-мужчына"?

Маўчыць. Думае.

●

На рабоце, у рэдакцыі адзначаем нечы дзень нараджэння. Апельсіны, яблыкі, торт, кава. Нечакана закранаем тэму, якая аказваецца, усіх хвалюе. Узаемаадносіны дзвюх палавін чалавецтва. І антаганізм гэтых узаемаадносін. Ідзе доўгая дыскусія, усе хочуць выказацца. "А вось мы...", "А вось яны..." Жанчыны больш актыўныя, а можа, і агрэсіўныя. Усё ўспомняць — хто ў чэргах стаіць, хто посуд мые, хто гатуе, хто перад тэлевізарам колькі сядзіць, хто колькі зарабляе...

Аляксей Дудараў тлумачыць адной нашай супрацоўніцы:

— Разумееш, жанчына і мужчына на ўсё па-рознаму глядзяць. І ўсё па-рознаму ўспрымаюць. Сутнасць у чым? Двое сустрэліся. Паабдымаліся, пацалаваліся... Нарадзілася дзіця. Яна пайшла дзіця калыхаць, а ён пайшоў далей гарэлку піць...

Нечаканае рэзюме. Чаму запомніліся гэтыя словы? Напэўна, таму, што трапна сказана.

●

На рабоце невялікай кампаніяй абмяркоўваем вельмі цікавае пытанне: чаму любяцца з аднымі, а жэняцца ці выходзяць замуж за іншых? Якім чынам падбіраюцца пары? Чаму далёка не заўсёды чалавек звязвае свой лёс з тым ці з той, з кім хацеў?

Доўга гутарым. Спрачаемся, успамінаем выпадкі з жыцця агульных знаёмых. Нечакана наш рэдакцыйны мастак кажа:

— Па-мойму, пары падбіраюцца не абыяк, а каб у выніку дзеці прыгожыя атрымаліся. Разумныя, удалыя. Так сказаць, для паляпшэння роду.

Амаль што мая думка.

●

Другі клас школы. Дзяўчынка чарнявая, мілавідная. Нешта ёсць у ёй асаблівае, незвычайнае. Бо калі праводзіцца апытанне, палова хлопчыкаў класа называе ў якасці любімага жаночага яе імя.

Дзяўчынка піша хлопчыку запіску: "Я ведаю, што ты мяне любіш. А я цябе не люблю!"

І што тут сказаць? "Жанчына, твая маці — Ева..."

●

Настаўніца са смехам расказвае:

— У майго мужа першая жонка — гэта машына. Ёй — і ўвага, і час, і клопат. А я ўжо — другая жонка. Мне — што застанецца... Кажа без усялякай крыўды. Канстатуе тое, што ёсць у рэальнасці.

●

Мужчына жанаты ўжо трэці раз. Але, напэўна, не надта ўдала. Просіць:

— Пазнаёмце мяне з якой-небудзь сімпатычнай жанчынай.

●

Жвавая, рухавая, ужо немаладога веку. Артыстызм — ва ўсім. У твары, абліччы, інтанацыі голасу, у пластыцы, нават у колеры памады. Усё жыццё пражыла са сваім мужам у згодзе і ўзаемаразуменні. Дапамагае і яму, і дочкам, і ўнукам з такой радасцю, з такім задавальненнем, нібы ў гэтым і ёсць сэнс яе жыцця. Расказвае сваёй знаёмай, якая мае зусім невялікі стаж сямейнага жыцця:

— Муж заўсёды павінен любіць сваю жонку больш, чым яна яго. На гэтым і сям'я трымаецца...

●

У маёй даўняй прыяцелькі муж — выдатны доктар. Калі пры ёй яго хваляць, яна заўважае:

— Мяне ён цікавіць не як спецыяліст, а як муж...

І пытае крыху занепакоена:

— Дарэчы, там медсёстры не надта на яго паглядаюць?

●

— Адна мая сяброўка лічыць, і тут я з ёй абсалютна згодная, хоць гэта вельмі сумная думка: "Няма на свеце непрыгожых жанчын. Бывае замала гарэлкі і зашмат святла..."

●

— Пазнаёміўся аднойчы з жанчынай. І з твару прыемная, і фігура нішто сабе. І апранута прыстойна. Відаць, што зарабляе някепска.

Відаць, і я ёй спадабаўся. Слова за слова, разгаварыліся. Запрасіла яна мяне ў госці. На стол накрыла. Ну, я бутэльку віна, самі разумееце, захапіў. Сядзім, размаўляем... Чыста так на кухні, мне падабаецца. Бачу, вочы ў яе гараць. Ну, а калі ў яе гараць, дык чаму ў мяне не загарацца?

Прачынаюся раніцою. Думаю, цуд нейкі! Усё роўна як у рай трапіў. Чыста, ціха, цёпла. Яшчэ з даглядзець цябе. Дзень так праходзіць, другі, трэці... Я ўжо пачынаю думаць: а можа, мне тут назусім застацца? А чым кепска?

А яна мне на чацвёрты дзень і кажа:

— Усё, даражэнькі, збірайся! Вечарам можаш не прыходзіць.

Відаць, выраз твару ў мяне быў незвычайны. Яна не вытрымала і засмяялася:

— А я ні з кім болей за тры дні не сустракаюся.

Вось так мой рай і скончыўся...

●

Пакой у дзіцячай паліклініцы. Працуюць дзве масажысткі. Адначасова. Маленькіх пацыентаў шмат. Хто пасля бранхіту, хто пасля запалення лёгкіх. У каго скрыўленне пазваночніка. І ўсім патрэбен масаж. Тамý — канвеер. Адзін дзіцёнак апранаецца, другому — ужо робяць масаж.

Масажысткі працуюць, "шаруюць" дзяцей і абмяркоўваюць учарашнюю тэлеперадачу, прысвечаную прадстаўніцам самай старажытнай прафесіі.

— А што? — кажа адна з жанчын, — прастытутка — гэта вельмі цяжкая прафесія. І фізічна, і маральна. Складана такім чынам грошы зарабляць. Хто не верыць, хай сам паспрабуе...

Цікавы ракурс успрымання. Аказваецца, і так можна думаць.

●

Былыя аднакурснікі, а цяпер зусім дарослыя людзі, сустрэліся ў сталіцы на прэстыжнай навуковай канферэнцыі. Даўно не бачыліся. Не размаўлялі. Яна — сталічная жыхарка. Ён прыехаў з абласнога горада, спыніўся ў гасцініцы. Яна яму відавочна падабаецца. На канферэнцыі сядзяць побач. Ён кажа — без непатрэбных прадмоў:

— Слухай, Лена, можа, ты да мяне ў гасцініцу сёння прыйдзеш?

Яна, жанчына прывабная, пэўна, не ўпершыню чуе гэткія прапановы, таму не надта бянтэжыцца і кажа:

— Тысячу долараў!

Ён змаўкае і больш нічога не прапануе.

●

Яна — вядомы вучоны. Прызнаны, ушанаваны. Разважае:

— Што значаць мужчыны ў параўнанні з грамадскім прызнаннем? Памятаю, аднойчы галоўны рэдактар газеты пахваліў мой артыкул — пры ўсіх. Выйшла я з рэдакцыі такая шчаслівая! Мне спяваць хацелася, і кожнаму на вуліцы расказаць, што мяне так высока цэняць...

●

Сямейная пара. Яна — рэжысёр. Ён — артыст, заняты ў яе пастаноўках.

Яна:

— Як з ім цяжка! Які ж гэта муж пагодзіцца, каб жонка ім кіравала, камандавала? Ды яшчэ на людзях...

●

Супрацоўніца рэдакцыі прачытала карэктуру. І ўжо так пільна, і ўжо так уважліва! Пытальнікі ставіць, дзе можа, папраўляе. Як кажуць, усім хапіла. Нарэшце выходзіць з пакоя. Каляжанка з усмешкай заўважае:

— Яна аддаецца карэктуры як любімаму мужчыне.

●

Маладая паненка, гадоў дваццаць пяць.



*Фота Ул. КАГУЦЕНКІ.*

Рубенсаўскі тып прыгажосці — сакавіты, паўнагрудны. Размаўляе з супрацоўнікам рэдакцыі значна старэйшым за яе. Размаўляе ў гарэзнай і крыху гуллівай танальнасці. Карацей кажучы, правакуе. Але субяседнік відавочна не паддаецца. Гутараць доўга. Нарэшце ён не вытрымлівае:

— Я ўжо стараваты для вас!

— Ну, што вы! — шчыра пярэчыць паненка. І дадае пераканана:

— Мужчына ў сорак гадоў — самы сок!

●

— Калі я была маладая, муж мяне так раўнаваў! А ў мяне проста характар такі — вясёлы, жыццярадасны... Калі я з чалавекам размаўляю, дык заўсёды ўсміхаюся. Мы нават разышліся з мужам, год ці два пражылі асобна. А потым жыццё ізноў звяло...

●

Ён і яна — народныя артысты. Яна расказвае:

— Калі мы былі маладзейшыя, дык я была "народная", а ён "заслужаны". Надбаўкі за званне "народнага" і "заслужанага" былі розныя. І муж дужа перажываў, што зарплату меншую за мяне атрымлівае. Праз некалькі гадоў і яму "народнага" далі. Ён стаў атрымліваць столькі ж, колькі і я. Тады ў нас і адносіны палепшыліся, канфліктаў паменела.

●

Захопленая і ўзнёслая аматарка балета расказвае мне, як яна рабіла інтэрв'ю з маладым і надзвычай перспектыўным артыстам. Даведаўшыся, што той неўзабаве будзе рыхтаваць партыю Краса ў балеце "Спартак", рамантычная дзяўчына прапаноўвае:

— Можа, я прынясу вам кнігу Святонія "Жыццё дванаццаці Цэзараў"?

— Нашто мне Цэзары? — крыху паблажліва ўсміхаецца малады артыст. — Як станцуем, усе бабы будуць нашы.

Аматарка балета разгублена маўчыць. Напэўна, яна не думала і не ўяўляла, што гэты цудоўны прынц, такі прыгожы і такі эфектны на сцэне, мысліць такімі катэгорыямі. Інтэрв'ю яна так і не напісала.

●

У жанчыны сям'я. Муж, двое дзяцей. Кажа сяброўцы:

— Я так стамілася ад гэтых штодзённых хатніх клопатаў. Яны проста бясконцыя. Толькі нагатавала — прыйшлі і ўсё з'елі. Толькі прыбрала — чысціня, парадак... Праз дзень ізноў тое самае пачынай! А найбольш стамілася ад іхняй грубасці і няўдзячнасці. Нібыта я да іх на ўсё жыццё служанкай нанялася працаваць. Ды яшчэ бясплатна.

У мяне ўжо шмат гадоў уражанне, што я ў цырку дрэсіроўшчыцай працую. У атракцыёне з дзікімі, драпежнымі звярамі.

Сяброўка — ажно залiваецца. Дужа параўнанне незвычайнае.

— Чаго ты смяешся?! Успомні, у цыркавым прадстаўленні звычайна два аддзяленні. У першым — паветраныя гімнасты, жанглёры, дрэсіраваныя сабачкі, наезнікі на конях. А ў другім аддзяленні, больш кароткім, — атракцыёны з дзікімі жывёламі. У антракце рабочыя хуценька, подбегам устанаўліваюць вакол арэны высокія металічныя сеткі. Каб раптам які-небудзь раз'юшаны тыгр або леў не кінуўся на гледачоў. Усё ж можа здарыцца! Дзе гэта мне сеткі такія ўзяць?

Сяброўка ўважліва слухае. "Дрэсіроўшчыца" расказвае. А ў рэшце рэшт рашуча дадае:

— Нешта будзе. Альбо я іх выдрэсірую, і яны зробяцца выхаванымі людзьмі, альбо яны мяне з'ядуць...

●

Яна — музыкант. Скончыла Беларускую акадэмію музыкі. Прафесіянал высокага класа. Час ад часу ўдзельнічае ў канцэртах, фестывалях. І дома, і за мяжой. Мае дваіх дзяцей. Расказвае:

— Адзенне дзецям я звычайна купляю ў магазіне "Secondhand". Там усё-такі танней. На пакупкі ў звычайным магазіне грошай не хапае. А там, здараецца, і нешта зусім новае трапіцца. Разгаварылася аднойчы з прадаўшчыцамі. Калі яны даведаліся, хто я па прафесіі і чым займаюся, дык пачалі усе разам мне спачуваць. І так на мяне глядзяць — нібыта на няшчасную якую ці на жабрачку. І навошта я сказала ім, хто я?

●

У газеце трапіўся жарт — мо красавіцкі, а можа, проста жыццёвы: "Адзінка вымярэння жаноцкасці — конская сіла". І смешна, і сумна, і праўдзіва. Пераказваю жарт сваёй даўняй знаёмай. Яна смяецца:

— Правільна. Я таксама не жанчына — я рабочы конік.

●

— Прыходжу да сваёй знаёмай. А ў яе вінегрэту — ну, проста таз цэлы. Вялізная, вялізная міска. Спытала:

— А нашто так многа? У цябе, можа, госці будуць?

А яна смяецца:

— Якія госці?! Мае зараз сядуць і ўсё з'ядуць. І яшчэ папросяць!

●

— Жанчына ў сям'і — як салдат. Я ўсё жыццё падымаюся ў 6.15. Калі ісці не магу, дык літаральна паўзу ў ванную. Уключаю кантрастны душ — пад ім і прачынаюся. А потым — на кухню. Пакуль усе мае яшчэ спяць. Гатую адразу і сняданак, і абед. Усе чатыры канфоркі ўключаю.

У сям'і для жанчыны галоўнае слова — "трэба". Муж можа падабацца, можа не падабацца. Можа быць лепшы ці горшы. Гэта ўжо справа трэцяя ці наогул чацвёртая. Але галоўнае, што ён бацька тваіх дзяцей.

У сям'і заўсёды складана. Заўсёды трэба вялікае цярпенне мець. І таму, хто трывае, хто не разбегся — той герой.

**Таццяна МУШЫНСКАЯ**

з лёгкасцю параўноўваецца непараўнальнае: "А я ляцеў стралой напятай"? "І кроў, што ток у правадах, Усё слабей цячэ"; "Ушчэнт разбілас каханне, Як той гарлач"... Што ні кажыце, каханне ў выглядзе гарлача ўявіць даволі цяжка нават пры максімальным напружанні правага паўшар'я мозгу.

У свой час настаўнікі літаратуры ненавязліва пераконвалі нас у тым, што стылістычныя фігуры выкарыстоўваюцца ў паэзіі дзеля надання творам большай эмацыянальнай выразнасці. Хрэстаматыйныя ўзоры сведчылі пра гэта як найлепей. А вось для чаго ўжыў адну з фігур — інверсію — у наступных радках В. Кунцэвіч, я так да канца і не ўцяміў. Праўда, наўрад ці зважаў ён на мяне, чытача, калі пісаў: "Агорне сумам сэрца вечар" ("Мовячы з Багдановічам"), або "чую: стому з зямлі цела Рэчка п'е праз бераг", ці нарэшце:

***Першае каханне***
***Па жыцці пранеслі,***
***Ды яе (дзяўчыны? — <u>С. У.</u>)***
***спатканнем***
***Вобраз перакрэсліў.***

Цікава, а ці зможа сам паэт праз дзесятак гадоў прыгадаць, якія эмоцыі хацеў увасобіць пры дапамозе такой сінтаксічнай выкрутлівасці?..

Лірычны герой зборніка зрэдку цытуе класікаў — Багушэвіча, Багдановіча (з апошнім нават "мовіць"). Лагічна гэта — ведаць сучаснаму творцу паэзію славутых папярэднікаў, ухвальна — разумець і любіць яе. Толькі ж у класікаў трэба яшчэ і вучыцца. Тады і не будуць ужо тваё наступнікі пацiскаць плечукамі над такім узлётам фантазіі:

***Спыніў я крок: нага, рука...***
***І бачыць зрок вадзяніка.***

("Вадзянік)

У адваротным выпадку яны з большай ахвотай адгорнуць "Вянок" ды перачытаюць у ім верш з такой жа назвай. Каму тады на Парнасе стане сорамна?..

Шмат праблем у музы Віктара Кунцэвіча. Хочацца толькі спадзявацца, што сам ён не проста адкіне са злосцю і крыўдай гэты водгук, а засяродзіцца на прычынах, якія прымусілі не знаёмага паэту чалавека патраціць час і энергію на такое слоўнае ўвасабленне саёй рэакцыі. А зрэшты, ён можа суцешыцца словамі рускага пісьменніка Панцеляймона Раманава: "Калі крытык лае якінебудзь твор, ён адно абмінае ўвагай, а менавіта, што ён лае не тое, што напісана, а тое, што ён успрымае. Ён успрымае роўна настолькі, колькі варты сам". Хаця, і гэта — як разабрацца. Кажуць жа нашы людзі, што часам і сляпы на дарогу навядзе. У адным я ўпэўнены цвёрда: Сандра Батычэлі наўрад ці заплакаў бы ад замілавання, убачыўшы фрагмент свайго "Нараджэння Венеры" "ўвекавечаным" на вокладцы кнігі Віктара Кунцэвіча. На жаль, не заўсёды тэатр пачынаецца з вешалкі, а кніга — з вокладкі.

**Сяргей УКРАІНКА**

*Кунцэвіч В. "Горкая спакуса" Кн. лірыкі. — Мн., "Беларускі кнігазбор", 1999.*

яць). Ну і спрыяюць. Дарэчы, у хуткім часе павінна выйсці (а можа, ужо і выйшла) кніжка вершаў таксама "вельмі харошага чалавека, узорнага сем'яніна". Ён таксама жыве ў Рагачове. Праўда, ёсць у гэтага чалавека невялічкая загана: занадта ж слабыя ён піша вершы...

А потым аўтары панясуць свае кніжкі "ў народ": на прадпрыемствы, і, што самае небяспечнае, у школы. А для дзяцей кніга — гэта К Н І Г А. Але ж ці не шкодніцтва гэта, ці не дыскрэдытацыя паняцця к н і г і ўвогуле?

Дзе ж выйсце з названай сітуацыі? На маю думку (прашу прабачэння, калі больш аўтарытэтныя людзі палічаць маё імкненне выказаць яе нясціплым), трэба, каб Саюз пісьменнікаў падрыхтаваў адпаведны ліст-просьбу і праз абласныя аддзяленні давёў яго да арганізацый і ўстаноў (патэнцыяльных спонсараў) ці да друкарняў. Сутнасць ліста павінна заключацца ў тым, каб грошы на выданне кніг выдзяляліся толькі ў тым выпадку, калі аўтар будзе мець станоўчае заключэнне на свой рукапіс з дзяржаўнага выдавецтва ці з абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў — словам, органаў і людзей кампетэнтных. Можа, мая думка спрэчная і на гэты конт ёсць больш слушныя прапановы, ды толькі штосьці рабіць трэба. Трэба ратаваць К Н І Г У, сапраўдную літаратуру і пісьменніцкі гонар — таксама.

**Валянціна КАДЗЕТАВА,**
**настаўніца, член Саюза беларускіх пісьменнікаў**

такі), а мо і тры па тры тысячы чытачоў. Прычым — малодшых школьнікаў, якія адно пачалі вывучаць родную мову і якія вераць усяму, што і як кажа кніжка або "дзяцька" з тэлевізара.

Чаму такое адбываецца? Незайздроснае фінансавае становішча выдавецтваў, на маю думку, вымагае ад іх апраўданай і неапраўданай эканоміі сродкаў. Адсюль спешка ў падрыхтоўцы і выданні кніг, скарачэнне колькасці супрацоўнікаў, скасаванне ў першую чаргу пасады карэктара. У канцы якой кнігі вы знойдзеце сёння ягонае прозвішча? Няма яго ні ў "Цудах у хаціне" (выпуск дзяржаўнага выдавецтва), ні ў брэсцкім "Дзядзінцы" (прадукцыя выдавецтва прыватнага). Маглі б у такім разе выручаць, акрамя ўмелых і адказных рэдактараў, самі аўтары, калі б ім абавязкова (!) перадавалі або перасылалі для вычыткі набраныя тэксты. Зноў жа, не заўсёды хапае сродкаў. Але ці варта, у рэшце рэшт, эканоміць такім чынам, каб чырванець пасля за сваю працу, кідаць у шок аўтара ды абражаць чытача?

Думаецца, у цывілізаванай краіне выдаўцу падобная "эканомія" вылезла б, даруйце, бокам. Ён не толькі папрасіў бы прабачэння ў аўтара якіх-небудзь пакалечаных "Цудаў у хмарачосе", але і паўтарыў бы, хаця б часткова, наклад — у выпраўленым варыянце. Сумніўна, праўда, ці наогул там дазволяць сабе столькі "цудаў" у адным выданні?

Ну, а ў нас пакуль што — "дзяцька да хаты нехоча"...

**Алесь КАСКО**

ВІНШУЕМ!

*Васіль Зуёнак з людзей, чый талент настолькі жыццядайны, што без іх творчасці немагчыма ўявіць сучасны мастакоўскі працэс. Якую кнігу Васіля Васільевіча ні возьмеш, выразна адчуваеш, наколькі глыбокі і самабытны свет, у якім жыве лірычны герой паэта і як убірае ў сябе гэты герой трывогі і памкненні часу, з'яўляецца асобай. А яшчэ, што вельмі важна, пачынаючы з першай кнігі "Крэсіва", В. Зуёнак па-філасофску ставіцца да свету і людзей, да праблем, якія хвалююць і асобнага чалавека, і ўсё чалавецтва. Дый, уласна кажучы, з гэтага роздуму нарадзілася і эпічная паэма В. Зуёнка "Маўчанне травы", па праву адзначаная ў 1982 годзе Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы. А ў 1974 годзе за кнігу вершаў "Сяліба" Васіль Васільевіч атрымаў прэмію Ленінскага камсамола Беларусі. Што да "Маўчання травы", дык, думаецца, гэты твор пакуль нашым літаратуразнаўствам належным чынам не ацэнены. Канечне, ён не абыдзены ўвагай... Зразумела, набыткі аўтара ў эпічным жанры агульнапрызнаны. Аднак гаворка павінна ісці аб тым, што В. Зуёнак "Маўчаннем травы" засведчыў, што па сутнасці стаў правафланговым у жанры паэмы ў сучаснай беларускай літаратуры. І пацвердзіў гэтае права наступнымі сваімі паэмамі, таксама надзіва змястоўнымі, па-філасофску напоўненымі, з глыбіннай задумай і гэткім яе глыбінным увасабленнем.*

*Але ж В. Зуёнак яшчэ і паэт, які плённа піша для дзяцей. Да ўсяго хораша зарэкамендаваў сябе сатырыкам і гумарыстам. Належным чынам была ацэнена і яго кніга літаратурна-крытычных артыкулаў "Лінія высокага напружання" (кандыдат філалагічных навук В. Зуёнак, кажуць, пішучы яе, прымерваў на сябе званне акадэміка, якога, як мы паведамлялі, нядаўна ўдастоены). Шмат Васіль Васільевіч перакладае: з рускай, украінскай, балгарскай, польскай, славацкай, сербскай і іншых моў.*

*Адным словам — АСОБА. Паэт знаны і прызнаны. Чытачамі любімы. І, вядома ж, любімы сябрамі, якіх у Васіля Васільевіча, бадай, столькі, колькі і чытачоў, бо кожны чытач, па-сапраўднаму захоплены творчасцю пэўнага аўтара, і яго сябра.*

*З днём нараджэння, шаноўны Васіль Васільевіч! Каб і надалей Вам працавалася актыўна, з важкімі набыткамі!*

# Шэсць рэчак Васіля Зуёнка

Мне даўно хацелася напісаць пра паэзію Васіля Зуёнка. Назва нарадзілася лёгка і нязмушана і сама папрасілася на паперу: "Пяць рэчак Васіля Зуёнка". Яе, гэтую назву, мне падказаў другі том ягонага апошняга выбранага, які аўтар удала назваў "Пяцірэчча".

Зуёнкава "Пяцірэчча" — гэта пяць паэм (шлях праз гісторыю, праз вайну ў сённяшні дзень). Вось як вымалёўваецца кампазіцыйная лінія кнігі: **Агонь і Сонца.** Паэма Радзімы: 1. Лукам'е. 2. Сяліба. 3. Прыцягненне. **Маўчанне травы**. Паэма лёсу. **Падарожжа вакол двара**. Паэма смутку і надзеі.

Па сутнасці гэта ліра-эпічная кніга пра жыццё роднага краю і яго гістарычны лёс, жывая кардыяграма душы і пачуццяў чалавека, які трывожна асэнсоўвае час і сябе ў гэтым часе. Зрэшты, паэт сам тлумачыць сваю задуму ў вершы, што папярэднічае паэмам, сабраным пад адной вокладкай:

***Пяцірэчча...***
***Пяць рэчак з крыніцы маёй.***
***Та́лінка —***
***На́ча —***
***Бабёр —***
***Бярэзіна —***
***Бацька-Дняпро сінякрылы —***
***Пяцірэчча,***
***дзе продак выходзіў на ляда***
***з лубянкай-сяўнёй,***
***Дзе калісьці на Рэпішчы***
***рэпа салодка радзіла.***
***Пяцірэчча...***
***Пяць рэчак***
***бяссоння майго і крыві:***
***Ад капіляраў да сэрца —***
***ад сэрца да капіляраў.***
***Пяцірэчча,***
***з-пад Рэпішча ў свет незнаёмы плыві,***
***Млечны Шлях,***
***Вечны Шлях***
***з беларускай куп'істай імшары.***

Але пакуль я перачытваў паэмы ды збіраўся з думкамі, паэт упарта капаў рэчышча новай, **шостай**, ракі. Хоць чаму новай? Новай і нечаканай яна стала для нас, чытачоў, для Зуёнка ж яна даўно родная і дарагая — у яе берагах ён пачувае сябе звыкла і ўпэўнена. Уважлівы чытач не мог не заўважыць, што свой пачатак яна бярэ з тых жа крыніц, якія жывяць і сілкуюць яго самабытную паэзію. Ва ўсякім разе дзве публікацыі празаічных "Элегій" у часопісе "Полымя" прымусілі мяне памяняць першапачатковы загаловак: да пяці рэчак паэта давялося дадаць яшчэ адну, шостую. Рэчку празаіка Васіля Зуёнка.

З першай кніжкай паэзіі ён не спяшаўся. Ягонае "Крэсіва" выйшла ў свет у 1966-ым, калі яе аўтару ішоў трыццаць першы год, хоць упершыню вершы з'явіліся ў рэспубліканскім друку ("Чырвоная змена") яшчэ ў 1954-ым. Словам, дэбют у Васіля Зуёнка ў параўнанні з ягонымі равеснікамі, якія ў час хрушчоўскай адлігі ўваходзілі ў паэзію рана і шумна, быў крыху запознены. Праўда, за год да з'яўлення "Крэсіва", ён выдаў паэтычную кніжку для дзяцей "Вясёлы калаўрот". Я знарок, хоць і не ахвотнік да арыфметыкі, засяроджваю ўвагу на лічбах і датах: падчас выхаду першага зборніка Зуёнак у паэзіі быў далёка не навічок, у яго ўжо быў назапашаны значны вопыт. Як сведчыць біябібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменнікі", "у 1949, калі В. Зуёнка прымалі ў камсамол і сакратар райкама папрасіў яго паказаць свае творы, то назаўтра аж два сшыткі леглі на яго стол". "Крэсіва" засведчыла, што ў літаратуру прыйшоў таленавіты паэт. Кніга стала падзеяй у літаратурным жыцці. На яе выхад зычлівай і строгай рэцэнзіяй "Крэсіва. Іскра. Агонь" адгукнуўся сам Уладзімір Караткевіч. "Перад намі паэт, — пісаў ён, — паэт адметны, свежы, паэт са сваім зрокам, са сваім адметным гукам жыцця, слыхам і адкрытым болю і любові сэрцам... У маленькай кніжачцы шмат вершаў з сапраўднай глыбокай філасафічнасцю".

У гэтай трапнай характарыстыцы творчасці маладога паэта Караткевіч свядома робіць лагічны націск на слове **свежы.** І робіць невыпадкова: "Крэсіва" выгадна вылучалася на фоне тагачаснай паэзіі і сваёй тэматыкай, і свежым асацыятыўным мысленнем, і густым паэтычным пісьмом. Услед за сваім таварышам Рыгорам Барадуліным Зуёнак смела ідзе на эксперымент, шырока выкарыстоўвае вялікія выяўленчыя магчымасці роднага слова. Лепшыя вершы тае пары ў Зуёнка ў асноўным лаканічныя і вельмі выразныя па гукавым малюнку:

***Збіралі гукі,***
***насілі,***
***Хавалі ў азёрнай сіні...***
***Як стала на цэлую песню —***
***Узляцелі да паднябесся.***



Максім Танк і Васіль Зуёнак, 1988 г.



Мікола Аўрамчык, Васіль Зуёнак, Марыя Захарэвіч, 1987 г.

***Зайгралі,***
***зайгралі гуслі...***
***Шчаслівай дарогі,***
***гусі.***
*("Гуслі")*

Ці вось яшчэ адзін верш, які і па сёння на слыху ў аматараў паэзіі:

***Ніхто не пачуў:***
***Яблык упаў дасвеццем —***
***Ля Халопеніч,***
***на Беларусі.***
***Ніхто не пачуў —***
***Ні людзі,***
***ні травы,***
***ні вецер...***
***Ніхто.***
***А шыр зямны здрыгануўся.***

Гэты маленькі шэдэўр уражвае не толькі шматзначнасцю і багаццем нечаканых асацыяцый, але і арганічным паяднаннем пачуццёвага і рацыянальнага, што хораша выявілася ў далейшай творчасці В. Зуёнка, у кнігах "Крутаяр", "Сяліба", "Нача"... Яго лірыка 70—80-ых гадоў цесна знітавана з фальклорам, паэт шчодра чэрпае з глыбінных пластоў народнай творчасці, плённа вучыцца ў школе матчынай песні, актыўна ўзбагачаючы сваю адметную лексіку.

І ў той жа час верш Зуёнка інтэлектуальна заглыблены, ён не баіцца быць палемічна завостраным і адкрыта публіцыстычным пры поўнай адсутнасці жалезабетону:

***Крычыць газетны абрус.***
***А я за ўсімі бедамі***
***Чакаю аб'явы новай***
***Шукаецца беларус,***
***Які ведае***
***Беларускую мову.***

Паверце, я не цытаваў бы гэтыя радкі, каб яны не былі напісаны ў 1976 годзе...

І нарэшце пра самае істотнае. Пра тое, з чаго і пачыналіся гэтыя нататкі. Сёння нашую літаратуру нельга ўявіць без паэм Васіля Зуёнка, без ягонага "Пяцірэчча", якое стала значным укладам у развіццё беларускага паэтычнага эпасу. Думаю, не дужа памылюся, калі скажу, што паэмы В. Зуёнка арганічна выраслі з ягоных вершаў. І рэч тут, вядома ж, не ў сюжэце. Тут хутчэй трэба весці гаворку пра характар светаўспрымання паэта, пра ягонае ўменне мысліць аб'ёмна і маштабна, грунтоўна і непаспешліва. (Дар, скажам шчыра, дадзены далёка не ўсім вершатворцам.) З'яўленне першай паэмы В. Зуёнка "Сяліба" было падрыхтавана ўсёй яго папярэдняй творчасцю. Таму паэту і ўдалося з'яднаць у адно скразныя тэмы і матывы, якія балелі яму і ягонаму пакаленню. Складаная па кампазіцыі і шматстайная па тэматыцы, паэма стала шчырым гімнам роднаму куту і роднай прыродзе. Не хваласпевам, а гімнам, прасякнутым трывогай і клопатам пра дзень сённяшні і дзень будучы. Васіль Зуёнак шчасліва знайшоў шырокую і прыгожую метафару: "...Мая Зямля — мая Сяліба".

Ад мускулістай строфікі паэмы веяла першароднай язычніцкай радасцю і нерастрачанай сілай. Сілай, якая пазней магутна выявілася ў шырокім эпічным палатне-паэме "Маўчанне травы", якой паэт даў падзагаловак: Паэма лёсу. Лёсу, натуральна, не толькі свайго, але і ўсяго народа, які выстаяў і выжыў у самай суровай з войнаў. Нездарма даследчыкі, аналізуючы твор, робяць смелыя паралелі з "Новай зямлёй". Ды я і сам, перачытваючы старонкі паэмы, міжволі адчуваў перагук у паказе побыту, у падабенстве і роднасці характараў Коласава Міхала і Зуёнкава Васіля. Тым больш, што і Коласу, і Зуёнку прататыпам паслужыў бацька. Яны нават імёнаў не мянялі...

Нерастрачанай сілай вее і ад гістарычнай паэмы "Лукам'е", якая, дарэчы, па сваім духу і геаграфіі блізкая да "Сялібы", бо прысвечана земляку, князю Івану Лукомскаму, трагічны лёс якога прымушае нас і сёння думаць пра шляхі-дарогі пакутнай Бацькаўшчыны.

Апошнюю па часе напісання паэму "Падарожжа вакол двара" паэт назваў Паэмай смутку і надзеі. У гэтай вельмі лірычнай і вельмі шчымлівай рэчы, нягледзячы на горкі боль страт, фінал усё ж аптымістычны:

***Ёсць Радзіма і ёсць бяссмерце.***
***Мова ёсць і не згіне зямля.***
***На скрыжалях вякоў не сцерці***
***Слоў, што вёска ўзрасціла мая.***

...Для вызначэння жанру сваіх празаічных твораў Васіль Зуёнак выбраў вельмі ўдалую і дакладную назву — элегіі. Ёсць у гэтым слове лёгкі смутак і светлая мудрасць чалавека, які многа пабачыў і багата зрабіў.

Чалавека, які мае шэсць рэк.

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ.**

*Фота Ул. КРУКА.*

## "Прыгожыя караблі"

Мы нядаўна расказвалі пра адну з кніг гумарэсак Міхася Слівы, адзначалі, наколькі плённа аўтар выступае ў галіне сатыры і гумару, як актыўна працуе. Пацвярджэнне таму і новы зборнік пісьменніка "Прыгожыя караблі", што пабачыў свет у Магілёўскай абласной друкарні. Праўда, гэтым разам М. Сліва паспрабаваў свае сілы і ў "сур'ёзнай" прозе. А гэта і відаць з апавядання, што дало назву кнізе. Сітуацыя, пакладзеная ў яго аснову, не складаная: "На невялікай чыгуначнай станцыі сустрэліся




два цягнікі. На некалькі хвілін спыніліся адзін супраць другога". І сталася так, што насупраць у вагонах гэтых цягнікоў апынуліся мужчына і жанчына. Яны сядзелі ля вакон і не маглі не заўважыць адно аднаго. І ў кожнага гэтая выпадковая, мімалётная сустрэча выклікала пэўныя асацыяцыі, але блізкія па змесце. А ўсё таму, што ні мужчына, ні жанчына не адчуваюць сябе шчаслівымі ў асабістым жыцці. Жанчына падумала: "Які прыемны твар!.. Відаць, што чалавек добры. Магчыма, з ім я была б шчаслівая". Адпаведныя думкі з'явіліся і ў мужчыны: "Такія добрыя, прыгожыя вочы не могуць быць у дрэннага чалавека. Як хочацца клопату, увагі, спагады, жаночай ласкі... А яе няма, бо ў жонкі ў галаве зусім іншае. У яе, па ўсім адчуваецца, гарыць сэрца па суседу, высокаму стройнаму таксісту". Магчыма, калі б цягнікі стаялі больш часу, гэтыя выпадковыя спадарожнікі выйшлі б з вагонаў, пазнаёміліся б, а так... "Цягнік, у якім ехала жанчына, скрануўся з месца і пачаў набіраць скорасць. Крануўся і той, у якім сядзеў мужчына. "Прыгожымі заўсёды здаюцца тыя караблі, што праходзяць міма", — успомніў ён нечыя словы і цяжка ўздыхнуў".

Вось і ўсё апавяданне. Але М. Сліве ўдалося стварыць адпаведны настрой, і твор прагучаў. Гэта тычыцца і іншых яго "сур'ёзных" апавяданняў, якія таксама лаканічныя, але змястоўныя, псіхалагічна напоўненыя.

Аднак пераважная большасць твораў, змешчаных у кнізе, гумарыстычныя. Яны напісаны як самім М. Слівай, так і перакладзены ім з чэшскай і ўкраінскай моў. Што тычыцца ўласна аўтарскіх гумарэсак, М. Сліва ўмее выбіраць такія сітуацыі, якія "паварочваюцца", калі можна так сказаць, нечаканым бокам. Ці не найбольш характэрны прыклад — гумарэска "Ход канём".

Усё пачалося з таго, што ў кабінет дырэктара фабрыкі ўляцеў інжынер і запытаў нумар тэлефона намесніка міністра. Гэта занепакоіла дырэктара, ён пачаў гадаць, у чым прычына: "Няйначай на мяне хочацца паскардзіцца. Наконт прэмій, кватэр... Як жа яго спыніць, як?.." І дырэктар вырашыў прэміяваць інжынера і "як ветэрана і перадавіка, паставіць у льготную чаргу на атрыманне кватэры". А калі гэта было зроблена, не стрымаўся, пацікавіўся, навошта быў той нумар тэлефона. Уся соль у заключных радках твора:

"— А мне ён зусім не патрэбны, — бухнуў Цярэшка. — Гэта пыталі з суседняга завода, а сакратаркі вашай у прыёмнай не было, дык я вас патурбаваў.

Захар Захаравіч закашляўся".

І для перакладу М. Сліва выбраў такія гумарэскі і гумарыстычныя дыялогі, якія пры знаёмстве з імі выклікаюць шчырую, натуральную ўсмешку. А сітуацыі таксама падказаны жыццём. Як у гэтым дыялогу, што напісаны ўкраінскай аўтаркай Людмілай Каліноўскай — "Гора":

"— Васіль, чаму такі невясёлы?

— Маю кватэру абакралі.

— І шмат прапала?

— Як табе сказаць, што-кольвеч з рэчаў, крыштальная ваза, ды самае галоўнае — мая заначка, прыхаваная ад жонкі".

Кніга "Прыгожыя караблі" вартая ўвагі чытача. Шкада толькі, што наклад яе невялікі — 500 асобнікаў. Таму, відаць, яе змогуць прыдбаць толькі тыя, хто трапіць на сустрэчы з аўтарам. Але гэта і лепш — можна атрымаць аўтограф.

Юрась ВАЙСЁНАК

ПАЭЗІЯ

Ніл ГІЛЕВІЧ



# СЮЖЭТЫ

## Апошні выезд казака Каліны

*Тры гады казак Каліна*
*Не садзіўся на каня.*
*Тры гады, як ён нямоглы*
*З чорнай немачу ляжыць.*

*Тры падушкі ў лямец злямчыў,*
*Тры пасцілкі сцёр ушчэнт,*
*І адчуў, што жыць не будзе:*
*Не дае ратунку Бог.*

*І сказаў ён жонцы Касі:*
*"Я хачу ў апошні раз*
*На каня гнядога сесці,*
*З вострай шабляй пры баку.*

*З вострай шабляй,*
*З новай стрэльбай,*
*Як тады, калі ў баях*
*Я крамсаў паноў-чужынцаў*
*І страляў іх, як сабак.*

*Ты, сказаў Каліна жонцы,*
*Да тачыльшчыка схадзі —*
*Хай маю старую шаблю*
*Ён адточыць найвастрэй".*

*Маладзіца Кася тут жа*
*Да тачыльшчыка пайшла:*
*"Вось, казак Каліна просіць*
*Добра шаблю навастрыць".*

*Адказаў тачыльшчык Касі:*
*"Навастру, але, але...*
*Не за грошы, а за вусны*
*За пунсовыя твае".*

*Кася плюнула з агіды*
*І вярнулася дамоў.*
*Як паведала Каліну —*
*Той аж тварам пацямнеў.*

*І сказаў Каліна Касі:*
*"Ты да збройніка схадзі —*
*Хай ён добрую і ў тэрмін*
*Зробіць стрэльбу для мяне".*

*Кася ласкава зірнула*
*І да збройніка пайшла:*
*"Вас казак Каліна просіць*
*Стрэльбу новую зрабіць".*

*Адказаў ёй майстар-збройнік:*
*"Я зраблю, але, але...*
*Не за грошы, а за вусны*
*За гарачыя твае".*

*Кася плюнула з агіды*
*І вярнулася дамоў.*
*Як паведала Каліну —*
*Той зубамі скрыгатнуў.*

*І сказаў спакойна жонцы:*
*"Ты схадзі да каваля —*
*Хай падковамі цяжкімі*
*Падкуе майго каня".*

*Кася глянула журботна*
*І пайшла да каваля.*
*"Вас казак Каліна просіць*
*Падкаваць яго каня".*

*Адказаў каваль з ухмылкай:*
*"Падкую, але, але...*
*Не за грошы, а за вусны*
*За салодкія твае".*

*Кася плюнула з агіды*
*І вярнулася дамоў.*
*Як паведала Каліну —*
*Той адно ўздыхнуў: "Ну што ж!"*

*Потым выняў шаблю з ножнаў,*
*Касі ў вочы паглядзеў.*
*"Падвядзі каня да ганку,*
*Каб я сам у стрэмя стаў".*

*Сеў Каліна на гнядога*
*І панёсся, як віхор.*
*Праз якое паўгадзіны*
*Ён вярнуўся ў родны двор.*

*Акрываўленую шаблю*
*Кінуў вобзем і сказаў:*
*"Хоць іржавая, а слаўна*
*Паслужыла казаку!.."*

*Злез дадолу і гнядога*
*Моцна ў лоб пацалаваў.*
*Потым Касю. Потым грузна*
*Сеў на ганак і памёр.*

1999

## Пра змяю папялянку

*Вось і сонейка ўзыходзіць,*
*І начлежніку Мірону*
*Самы час распутаць коней*
*І павесці іх дадому.*

*Ажно бачыць: хлопцаў двое*
*Едуць возерам на чоўне,*
*Выйшлі з вёсламі на бераг*
*І жмуты вугроў выносяць.*

*"Гэй, Мірон! — гукнулі хлопцы, —*
*Калі ты найперш сведка*
*Нашай сённяшняй удачы —*
*Вось вугор табе ў дарунак".*

*Ну, чаго ж тут адмаўляцца!*
*І Мірон, сказаўшы "дзякуй!",*
*З тым дарункам неспадзеўным*
*Да двара свайго падаўся.*

*Каля стайні скінуў бурку*
*І, застаўшыся ў кашулі,*
*Ён вугра, яшчэ жывога,*
*У запазуху засунуў.*

*І пайшоў да той хаціны,*
*Дзе жыла яго каханка,*
*І пастукаў уваконца:*
*"Выйдзі, любачка-галубка!*

*Мне ў запазуху, уночы,*
*Запаўзла змяя-гадзюка,*
*Што завецца папялянкай,*
*Чорны яд яе смяротэльны.*

*Дык хутчэй ратуй мяне ты:*
*Сунь руку мне за кашулю*
*І схапі змяю і выкінь,*
*Бо памру я, калі ўкусіць!"*

*"Што ты! Што ты! — закрычала*
*Любка. — Я схаплю гадзюку?*
*Я баюся нават п'явак!*
*Нават вусеняў баюся!"*

*Што рабіць было Мірону?*
*Да сястры пайшоў замужняй*
*І пастукаў у ваконца:*
*"Выйдзі, мілая сястрыца!*

*Мне ў запазуху, уночы,*
*Запаўзла змяя-гадзюка,*
*Што завецца папялянкай,*
*Чорны яд яе смяротэльны.*

*Дык хутчэй ратуй мяне ты:*
*Сунь руку мне за кашулю*
*І схапі змяю і выкінь,*
*Бо памру я, калі ўкусіць!"*

*"Што ты! Братачка мой родны!*
*Як жа я... Даруй, а раптам...*
*У мяне ж малыя дзеткі*
*Застануцца сіратамі!.."*

*Што рабіць было Мірону?*
*У свой двор ізноў падаўся*
*І пастукаў у ваконца:*
*"Выйдзі, мама, на хвілінку!*

*Мне ў запазуху, уночы,*
*Запаўзла змяя-гадзюка,*
*Што завецца папялянкай,*
*Чорны яд яе смяротэльны..."*

*Не даслухаўшы Мірона,*
*Страшна войкнула матуля:*
*"А сыночак мой! А Божа!*
*Зараз, зараз я дастану!"*

*Абмацала ў момант вока*
*Даланю сваю хусцінай,*
*Спрытна сунула ў запашша*
*І... вугра адтуль дастала!*

*Засмяялася шчасліва:*
*"А бадай ты быў здаровы!*
*Трэба ж гэтак напалохаць!*
*Ну, Міронка! Ну, гарэзнік!.."*

*А Мірон прысеў на ганку*
*І задумаўся, схмурнелы:*
*"Паспяшаюся я, здаецца,*
*Абвясціць: чакай у сваты..."*

1999

## Трыццаць і адна

*Над ракою-рэчкай нізка*
*Хмара чорная павісла,*
*Шугануў віхурны вецер,*
*Грымнуў гром і лівень хлынуў.*

*А па рэчцы лёгкі човен,*
*Без руля і без вясельцаў,*
*Быстрынёй ляціць, нясецца —*
*З краснай дзеўкай на сядзенні.*

*На яе запясцях тонкіх —*
*З чыстай медзі бранзалеты,*
*Срэбны пас на паясніцы*
*І маніста залатое*
*На грудзях зіхціць-бліскоча.*

*На няшчасце, чоўнік лёгкі*
*Зацягнула ў вір пад стромай,*
*Закруціла, захістала —*
*Вось-вось-вось і перакуліць!*

*Улякаўшыся, дзяўчына*
*Закрычала: "Гэй! Пачуйце!*
*Хто мяне ўратуе — тому*
*Бранзалеты дам у гонар!"*

*А на беразе ў карчомцы*
*Трыццаць хлопцаў п'юць гарэлку,*
*П'юць гарэлку і не чуюць.*

*Зноў крычыць дзяўчына крыкам:*
*"Хто мяне ўратуе — тому*
*Срэбны пас аддам у гонар!"*

*Трыццаць хлопцаў п'юць гарэлку,*
*П'юць гарэлку і не чуюць.*

*І крычыць дзяўчына крыкам:*
*"Хто мяне ўратуе — тому*
*Дам маніста залатое!"*

*Трыццаць хлопцаў п'юць гарэлку,*
*П'юць гарэлку і не чуюць.*

*І тады з апошняй сілы*
*Красна дзеўка закрычала:*
*"Хто мяне ўратуе — тому*
*Я сябе аддам у гонар!"*

*Трыццаць хлопцаў крык пачулі,*
*Падхапіліся з услонаў*
*І кулём з карчмы на голас —*
*Ратаваць дзяўчыну ў чоўне.*

*А ўжо човен дном угору*
*Цёмны вір па кругу круціць.*

1999

## Нарэшце зразумеў

*Позна ўвечар красна дзеўка*
*Чуе голас пад акном:*
*"Выйдзі, любка, выйдзі, сэрца,*
*Кроў гарыць ва мне агнём!"*

*"Не магу я, — адказала*
*Красна дзеўка малайцу. —*
*Цэлы дзень я жыта жала,*
*Надта спаць цяпер хачу".*

*"Выйдзі, сэрца, выйдзі, любка,*
*Сон нікуды не ўцячэ.*
*Адпачнеш і адаспішся —*
*Ноч наперадзе яшчэ".*

*"Не магу ўстаць, малойчык:*
*Мама побачкі са мной —*
*І падол маёй сарочкі*
*У матулькі пад спіной".*

*"Ты адрэж падол сарочкі,*
*Каб матулю не збудзіць.*
*Выйдзі, любачка-галубка,*
*Надта ж сэрца мне рыміць!"*

*"Як жа ўстану я, малойчык:*
*Мама побачкі са мной —*
*І мая каса даўгая*
*У яе пад галавой".*

*"Ты адрэж касу даўгую,*
*Каб матулю не крануць.*
*Выйдзі, любка! Дай цябе мне*
*Моцна к сэрцу прыгарнуць!"*

*"Як я выйду, як я ўстану:*
*Мама побачкі са мной —*
*І рука мая таксама*
*У яе пад галавой.*

*Ну руку ж я не адрэжу,*
*Як падол або касу!.."*
*Зразумеў дзяцюк нарэшце*
*Праўду здзеклівую ўсю.*

*"Во якая ты галубка! —*
*Зубы сцяўшы, прастагнаў. —*
*І за што судзіў ты, Божа,*
*Каб я гэткі глум спазнаў?.."*

1999

ПРОЗА

# ТРЫ ЭЛЕГІІ ДЗЯЦІНСТВА

Васіль ЗУЁНАК



*Наш чытач, відаць, звярнуў увагу на тое, што ў часопісе "Полымя" пад адной з элегій Васіля Зуёнка мільганула паметка 1957. Той-сёй нават засумняваўся: "Ці не памылка ў друку?" Гэтае ж самае пытанне мы задалі паэту і ў рэдакцыі "ЛіМа". У адказ Васіль Васільевіч шматзначна і ў той жа час неяк гарэзліва ўсміхнуўся: "Не, не памылка"...*

## Аднойчы на схіле неба...

Той дзень быў, як і ўсе астатнія. Здавалася, што лета яшчэ ў самым разгары...

Млеюць пад паўдзённым сонцам надрэчныя лозы, нізка звісаючы над вадой. Пэўна, хочуць яны абмакнуць свае сасмяглыя чубы ў халодную плынь, ды ніяк не могуць дацягнуцца да яе. А над плёсамі, дзе лазняк расступаецца, снуюць ластаўкі. Разгоніцца каторая ўздоўж рэчкі — і чырк! — каўзанецца грудкамі ды зноў узляціць, каб яшчэ раз узяць разгон. Так і скачуць па вадзе, праразаючы кароценькія штрышкі, быццам каменьчыкі, калі шпурляеш іх нізенька, па тугой люстранай гладзі, не ўзбунтаванай хваляваннем...

Усё разам: і купаюцца ластаўкі, і, пэўна-такі, спажыву маюць — палююць машкару, што таксама да вільготнай прахалоды горнецца...

— Ой і дуросніцы ж... — ціха ўсміхаецца Андрэйка. — От бы мець такія крылы... Ну, над Начай палётаць — гэта яшчэ глупства. Яе і ўброд няцяжка перайсці... А падняцца б за аблокі ды адтуль, як жаваранак, склаўшы крылы, куляю ўніз — ж-ж-ж!..

І ад адных толькі думак у Андрэйкі аж заказытала ў сярэдзіне, хоць ён і не з труслівых...

— Го-го-го! — прарываецца з-за кустоў і конаўкай халадзэнкі, пляснутай знянацку, абуджае Андрэйку.

Гэта бацька. Ідзе ён за сцяной лапушыстага балотнага альхоўніку і не дае статку забірацца ў глухамань. Андрэйка ж пільнуе, каб якая-небудзь памаўзлівая карова не ўзбілася на сенажаць, што цягнецца доўгай паласой між рэчкай і лесам. Так і пасоўваюцца яны па ўскрайку. А выберуцца туды, дзе сена ўжо звезена, можна будзе завярнуць да рэчкі і спыніцца: вадапой для кароў, полудзень для пастухоў...

— Забягай, забягай!.. Куды, Чапяла! — і тата, прадраўшыся праз кусты, заломвае галаву статка да лукавіны. — Самае месца, — тлумачыць ні то Андрэйку, ні то сабе, — і адхон да вады ёсць, і грэбля недалёка — даяркам зручней пад'ехаць...

Каровы, ратуючыся ад заедзі і гарачыні, пазалазілі ў рэчку. Толькі рогі ды спіны тырчаць...

Андрэйка з бацькам прыладзіліся пад раскідзістым альховым кустом, разлажылі полудзень — хлеб, сала з вастранасымі крапінкамі кмену, цыбулю — белазялёную: галоўкі з пер'ем...

Зафыркала на грэблі машына, засігналіла — гэта каровам: каб выбіраліся з вады. І тыя, памыкваючы, глядзяць насустрач: ведаюць, што будзе кожнай ад гаспадыні што-небудзь на ласунак...

Прыселі паабедаць і стагавальнікі. А перад гэтым весела чакалі, пазадзіраўшы галовы, пакуль дзед Лявон даваршыць стог. Тады перакінулі вяроўку, з аднаго боку трымалі, а з другога — як альпініст — асцярожна, каб не збіць сена, спусціўся долу дзед...

А перакусіўшы, мужчыны і хлопцы, па адным, па двое, пацягнуліся да Андрэйкавага таты, каб пачаставацца тытунём-самасадам. Ёмкі ён у Хведара, ды і нікому адмовы не будзе: хоць усёй брыгадай круці цыгаркі, — кожнаму хопіць. Адной зацяжкай накурыцца можна: сербане каторы блазнюк — а дым і стане ўпоперак горла. І калі "стралец", пачырванелы ад кашлю, ударыць вобзем цыгарку, Хведар і шкадаваць не стане — толькі, задаволены, пасміхнецца:

— Так і трэба малакасосу... Не будзеш прывыкаць...

Вылез з-за кустоў і ўзяў кірунак да гурта яшчэ адзін чалавек — чорны, запэцканы ў балотную жыжу.

— А-а, дырэктар торфакамбіната!.. — нізенькі, круглы і ў плячах і ў жываце Паўлік весела зрывае з галавы сваю выцвілую і счарнелую ад поту шапку-блінок і ўкленчвае перад Цітам Баркаўцом. — Які, з вашае ласкі, працэнт сёння?

— Нуль цэлых хрэн дзесятых... — буркае Ціт і, скасавурана, цэдзіць, як праз густую цадзілку: — Пацук, не поўзай — чуеш?.. — І ўжо да Хведара — з працягнутым шматком газеты: — Сыпні, курыва выйшла...

Пыхкае дымам Баркавец. Маўчыць. Нутро ягонае такое: пацёмкі... На работу з брыгаднікамі не ходзіць, — кажа: хворы. І не абы-як, а душэўна, віхнуўся з сіласнай вежы, усцягваючы шыферыну, каб залатаць дзірку ў страсе... Праўда, як ён валіўся, ніхто не бачыў. Але затое бачылі многія, як разоў колькі бег ён па вуліцы, шалёна круціў вачыма, лаяўся і пляваўся на ўсіх, хто пад руку трапляў.

Пасля і паперку яшчэ нейкую паказваў — аб "душэўнасці" сваёй, называючы яе не інакш як кантузіяй...

На брыгадныя нарады з тае пары выпраўляе Ціт толькі жонку, каб "соткі" не абрэзалі "па вугал". Сам жа — нарэжа ды насушыць за лета горы торфу, наварочае карчоў. Ды гэтакіх, што і траім без добрых вагароў наўрад ці ўдасца на пуп узяць...

А падаспеюць агуркі, ды цыбуля, ды іншае зяленіва — Баркавец дзень у дзень на базары. Раней на гравійку з клункамі выбіраўся: грузавікоў шмат — падвозілі.

Ды сёлета заўпарціліся ахвотнікі "падкінуць да мястэчка": "даішнікі" скуру лупяць — штрафуюць, а то і правы адабраць абяцаюць...

Тады ж Баркавец і сказаў жонцы: "Трэба механізавацца..." — і купіў "лісапету"...

Устае цяпер на досвітку, абчэплівае сваю "механізацыю" таварам — і на педалі. А вячэрае ўжо дома — у гуморы звычайна і гаманкі.

— Куды выгодней стала, — даводзіць жонцы, — чуеш? — і распрамляе на стале рублі ды траячкі, — паматаеш нагамі — і, зноў жа, лішні чырвонец выкідаць не трэба чорту лысаму... А чуеш, — узніме раптам галаву, — колькі кішэняў абышлі паперкі гэтыя? Маўчыш? Сотні! Не-е, тысячы, пэўне, тысячы! Чуеш?.. А цяпер во яны, родненькія, — і прыгладжвае даланёю...

Сядзіць Андрэйка і цішком пазірае, як рудымі ад тытунёвага дыму пальцамі плішчыць Баркавец недакурак. А як толькі ўзнімаюцца ягоныя вочы, Андрэйка пачынае няёмка ёрзаць на месцы: страшнавата робіцца. Бо вельмі ўжо дасаліў ён аднойчы Баркаўцу: узяў ды прапусціў ручаёк з лужыны, што стаяла пасля дажджу сярод вуліцы. "Хай сцякае", — думаў. А вада пабегла ды якраз праз Баркаўцовы грады. Дык той як выскачыў з дручком нейкім! "Ногі, — крычыць, — паламаю!.." Ледзь уратаваўся тады Андрэйка. А Баркаўцову хату стараецца і зараз падальш абмінаць...

Пакурыўшы, мужчыны пачынаюць заводзіць новае стажар'е. Падняўся і Баркавец, нырнуў у альхоўнік. Заварушыўся статак...

Дзень пасля абеду спадае хутка. Глядзіш — і сонца апускаецца амаль што да зубчастай грады дальняга лесу. Андрэйка, прыглядзеўшы купіну-адмеціну, шырока ступае, прыгнуўшыся, махаючы рукамі, аж узлятаюць тыя вышэй галавы: вымярае свой цень. Шаснаццаць крокаў, — значыць, пара дамоў...

І як бы на падтрымку, з-за кустоў абзываецца голас трубы. Тата склікае кароў.

Любіць і Андрэйка патрубіць, але яшчэ лепей паслухаць здаля, як трубіць тата. Асабліва, калі вечарэе. Пад вечар не тое, што ў паўдзённую спякоту. Днём голас берасцянкі выходзіць нейкі сухі, рэзкі. Ён па-шкляному разбіваецца аб дрэвы, рассыпаецца, і толькі выскачыўшы дзе-небудзь на палянку ці які прагал, кавалкі гукаў збягаюцца ў адзін прарэзлівы, зычны клубок. А вечарам, калі паветра стане густым, духмяным, свежым — і труба грае інакш. Цяпер — і ўдарыцца гук аб дрэва, дык не рассыплецца гарохам, а толькі выдзеліць з сябе мяккія падгалоскі, што пойдуць рэхам па лесе, ствараючы цэлы аркестр. І нейкай прыемнай, але незразумелай і невядомай, асалодай поўніцца тады Андрэйкава сэрца. І хочацца яму ў гэткі момант зрабіцца нічым, разліцца пахкім водарам па кветках, травах і — слухаць, слухаць гэтыя чароўныя гукі...

Не пераставалі радаваць мяккай, як бы сардэчнай, цеплынёй апошнія жнівеньскія развітанні. Зямля з удзячнасцю прымала пяшчотныя ласкі сонца, падстаўляючы яму шчокі ўзгоркаў, пакрытыя рыжаватай шчацінай іржышча, лугавіны, дзе ўжо добра ўзялася атава — прасветленая сцюдзёнымі росамі, без тае першаўкоснай густой зеляніны... Лета нібы старалася загладзіць віну, нібы прасіла прабачэння за тое, што назаўсёды пакідае зямлю, уступае месца асенняй золі, аддае ціхія завадзі ў ледзяныя аковы... Адыходзячы ў вечнасць, яно хацела пакінуць аб сабе добрыя ўспаміны ў людскіх сэрцах...

Праз тры дні — у школу...

— Ну, сынок, бяры лейцы ў свае рукі. А я, покуль вы тут на вадапоі, праз гадзінку-другую, і вярнуся...

Яшчэ ўчора вечарам Андрэйку да смерці хацелася самому збегаць у культмаг. А тата запярэчыў.

— Дык ты ж забудзешся, і якія мне кніжкі трэба, — пераконваў Андрэйка, — і наогул, пераблытаеш усё... — гарачыўся, на што тата меў адно:

— А ты мне на паперку спішы...

І калі Андрэйка пералічыў у слупок, перабраў на старонцы са сшытка ўсе назвы, тата выняў з кішэні абшчыпаны хвосцік алоўка, паслюначыў, бо хімічны, і няроўнымі, вуглаватымі літарамі амаль надрукаваў: касцюм...

Усё зразумеў Андрэйка. І хоць спакуса наведацца ў мястэчка па-ранейшаму карцела, давялося адступіць...

Як толькі тата ўзышоў на грэблю і схаваўся за кустамі, Андрэйка адчуў сябе, што ні ёсць, сапраўдным гаспадаром...

Ён абыходзіць статак, прыглядаецца, ці не стрэслася якая нечаканка, а то, чаго добрага, ды й бяда... Але ўсё — марна: няма да чаго прычапіцца...

"Хаця б што якое..." — незадаволена азіраецца Андрэйка і падыходзіць да Сапуна. Не застаецца і той абыякавым. Як патрабуе таго этыкет, ступае і ён насустрач Андрэйку пару крокаў. І супыняецца ў чаканні. Толькі хвост, быццам маятнік у ходзіках, целяпаецца туды-сюды, адганяючы надакучлівых і злосных, жыгучых, надвосеньскіх мух і сляпнёў...

Бадлівы і дужа натурлівы бык Сапун. Бывае, як раз'юшыцца, дык усім сялом у хлеў не загнаць. Спрабавалі ў тры дручкі біць, каб не ведаў, на каго кідацца, хвасталі вадой з пажарнага рукава — нічога не памагае. Сапун толькі ніжэй апускае галаву, набычваецца, як кажуць, і яшчэ з большай лютасцю раве, натужна сапучы, і рые зямлю — і рагамі, і пярэднімі капытамі... Толькі старой брычкі-двухколкі баіцца. Як пабачыць, што на яго з ляскатам насоўваецца нейкае страшыдла, пачынае адступаць — спачатку задам, а потым разварочваецца, каб на ўсіх чатырох шуснуць у выратоўны хлеў...

Пагладзіўшы і папляскаўшы Сапуна па забарыстай шыі, Андрэйка заломвае на патыліцу шапку і з кавалерыйскім спрытам закідвае нагу на бычыную хрыбціну. Сапун крутануўся ў адзін бок, у другі, нібы наровячы скінуць няпрошанага седака. Але Андрэйка ведае, што ён, свавольнік, гуляе гэтакім манерам.

Пэўна б, ніхто не стрымаўся ад смеху, пабачыўшы, як хлопчык з гіканнем прышпорвае пяткамі свайго рагатага стаенніка. А хто знае Сапуноў нораў, той бы жахнуўся...

Калісьці і Андрэйку страшнавата было падыходзіць да Сапуна: добрыя жартачкі з гэтакім рагатым вываратнем, — умэнт да зямлі прышпіліць...

Першы раз Андрэйка толькі нясмела пачухаў Сапуна між рагоў. Таму спадабалася, і ў адказ ён сваім шурпатым, як драчка, языком ліпуча шмаргануў па Андрэйкавай руцэ...

З таго й пачалося сяброўства...

Накатаўшыся ўволю, Андрэйка раскінуў на пожні ватоўку і прылёг.

Колькі розных малюнкаў ствараюць бухматыя, шызавата-белыя аблачыны! Трэба толькі прыглядзецца. Во нейкі дзівосны, калматы звер наважыўся да скачка. А вышэй — сівая галава з памялом-барадою. Да галавы падплывае і прычэпліваецца тулава. А вось беласнежны конь з пышнаю грывай. Ён не скача, ён ляціць. А на ім — вецер свішча ўвушшу — Андрэйка!..

Імчыцца Андрэйка... Не бачыць, як вяртаецца з базара Ціт. Не бачыць, як Сапун адышоўся ў кусты і, разгуляўшыся, руйнуе Цітавы тарфяныя — пад лінеечку выкладзеныя — штабялі...

Ляціць Андрэйка — усё хутчэй і хутчэй, — на шматкі разрываюцца аблокі. Ужо і да сонца рукою падаць. Нават быццам і прыпякаць пачало...

І раптам — насоўваецца цень. Конь вырываецца з-пад Андрэйкі. Хлопчык павісае ў паветры. Нехта шыпіць над вухам:

— Спіш, шчанюк!..

І больш нічога не чуе Андрэйка. Ціт ударыў яго аб зямлю...

*1957...58*

## Паўстанак з літарай "Л"

Ім і назвы няма. Стаіць адзінокая — слупком — будка, ды ўздоўж палатна — выгрунтаваная ў тысячы ног паласа жаўтапёсу з гучнаю назвай — перон. Ні мітусні, ні чыгуначных цырымоній і рытуалаў. Ніхто не выбягае тут са сцяжкамі насустрач кур'ерскім і хуткім, не чутно развітальных свісткоў. І, можа, у адпомстку за такую непавагу дальнія сплачваюць адпаведнай пагардай: ні на крапельку не збаўляючы хады, імчаць тут, як у чыстым полі. Быццам і не заўважаюць ні будкі, ні тым больш панылай будыніны, што тоіцца па другі бок чыгункі, за шчыльным, як сцяна, пералескам. Бо і заўважаць яе не належыць — забаронена статутам. Так ужо хітра вырошчваюць і падстрыгаюць вайскоўцы ахоўную паласу — і высокія дрэвы, і дэкаратыўны хмызняк-падлесак: старонняе вока, асабліва з вагона, не прыкмеціць нават драбнюткай адзнакі вайсковай прысутнасці — ні казармы, ні пляца, ні людскога, як кажуць, кантынгенту. Затое — во што дзіўна! — з іх боку праглядаецца ўсё і, натуральна, наскрозь і заўсёды...

Ажывае паўстанак некалькі разоў на дзень.

З раніцы гуртуюцца тут жанкі: з бітончыкамі, да краёў напоўненымі малаком — аж белыя струмочкі пераліваюцца; з галоўкамі сыру ў кужэльных вузельчыках; з лазовымі кошыкамі, у якіх белымі сотамі гняздуюцца яйкі... Зрэшты, малюнак мяняецца па сезоне: які тавар едзе ў горад, гэтакія і колеры, і пахі, галасы таксама... З жыўнасцю і агароднінай, што бярэцца мяхамі, да жанок далучаюцца — цяглаваю сілай — мужчыны...

Вечарам — тыя ж бітончыкі: лёгка пазвоньваюць, калі не тырчыць з катораго падсмажаны нос батона; вязанкі сушак і абаранкаў; мужчыны з вясёлым агеньчыкам у вачах...

Паравоз папыхвае, цярпліва чакае, пакуль апошняя цётка выграбецца з клункамі на дол. Потым хрыплавата гукне і падаецца далей. Не паспее як след разагнацца — зноў прыпынак. Ды нічога не паробіш: такая ўжо служба ў прыгараднага — тармазі ля кожнага слупа...

Такі вось якраз гукнуў на развітанне і мне, і двум-тром дзесяткам мужчын ды кабет, што далучыліся да мяне — на хвілін колькі, каб разабраць ды ўладкаваць цераз плячо клункі і расцягнуцца шнуркамі па віхлястых палявых і прылесных сцежках — кожны да свае хаты — з радасцю ды з няхітрым, але такім жаданым гасцінцам...

А я — чакаю паравоза сустрэчнага. Змяркаецца, і пасажыраў да горада — я ды кабета з малым, унучкам, пэўна. Да яе загаманіла, прыпынілася на хвіліну "прыезджая": пачаставала хлопчыка абаранкам. Той хрумстае, а я, добра-такі згаладнелы, пазіраю на яго, на месяц, што выплывае з-за лесу, як пшанічны блін, без скупу намазаны маслам. Такія мама пячэ ў нядзелю...

(Працяг на стар. 14—15)

ментаў Чэрвеньскай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам Г. Шпакоўскага.

Вечарына, прысвечаная дню нараджэння С. Манюшкі, прайшла як захапляючая асветніцкая акцыя нястомнага рыцара беларускай музычнай гісторыі В. Скорабагатава. У сувязі з гэтым згадвалі, што нават у Беларускай акадэміі музыкі далёка не кожны педагог, ужо не гаворачы пра студэнтаў, дасведчаны ў гісторыі айчыннай мастацкай культуры, знаёмы з нотадрукамі даўніх твораў, напісаных нашымі землякамі, — хаця адпаведная літаратура, новыя выданні сёння ўжо ёсць у бібліятэцы акадэміі, а час ад часу экспануюцца на выстаўках у фае ВНУ. Прыкра...

Ды ўсцешвае "Убельская ластаўка": яна адпавядае свайму боскаму наканаванню і годна выконвае не толькі эстэтычную місію, але і асветніцкую, і адукацыйную.

КОНКУРС вакалістаў меў разнастайную і нацыянальна адметную праграму, якая ўключала беларускія народныя песні і абавязковыя творы С. Манюшкі. Журы ўзначальваў прафесар, кандыдат мастацтвазнаўства, заслужаны артыст Беларусі Леанід Івашкоў, загадчык кафедры спеваў Акадэміі музыкі. Поруч з ім працавалі знаныя педагогі і артысты, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Міхал Зданевіч, Людміла Колас, лідэр творчага аб'яднання "Беларуская Капэла", старшыня беларускага таварыства імя С. Манюшкі, Віктар Скорабагатаў і мастацкі кіраўнік капэлы "Sonorus" Аляксей Шут.

Спаборнічалі 27 маладых спевакоў. Нямала, але магло быць больш, калі б новы конкурс не праігнаравала (дзіўна, чаму?) Маладзечанскае музычнае вучылішча. І атрымалася, што ў абласным конкурсе ўдзельнічалі навучэнцы ды студэнты сталічных музычных установаў. Але ж дастаткова перагарнуць біяграфічны даведнік — і пераконваешся, што адбылося ў нейкім сэнсе агульнанацыянальнае спаборніцтва спевакоў-пачаткоўцаў. Бо сярод іх былі нядаўнія выхаванцы музычных навучальных установаў Лоева і Добруша, Дзісны і Оршы, Віцебска і Магілёва, Брэста і Лельчыц, Слоніма і Мазыра, Бабруйска і Полацка...

Да каго ж была асабліва прыхільнай "Убельская ластаўка"?

У старэйшай узроставай групе вылучыліся першакурсніца БАМ Аксана Бондарава (1-я прэмія), студэнтка другога курса Алена Знак і трэцякурсніца Аксана Прадун (адпаведна 2-я і 3-я прэміі). Сярод мужчынскіх галасоў — пяцікурснік Яўген Ермакоў (1-я прэмія). Андрэй Бугаенка — 29-гадовы святар, пасвячоны ў дзяканы, студэнт падрыхтоўчага аддзялення — адзначаны дыпломам журы.

А вось лаўрэаты малодшай групы. Наталля Кулагіна, якая займаецца на падрыхтоўчым аддзяленні акадэміі, атрымала 1-ю прэмію, студэнткі Мінскага музычнага вучылішча Марыя Ровіна ды Крыскенція Стасенка — адпаведна 2-ю і 3-ю. Сярод хлопцаў адзначаны студэнт ММВ Акім Тышко (1-я прэмія), ягоны аднакурснік Андрэй Барысенка (2-я прэмія). Студэнт факультэта народных інструментаў БАМ Руслан Курцёнак, які факультатыўна займаецца спевамі ў класе Л. Івашкова, і студэнт падрыхтоўчага аддзялення Уладзіслаў Даніловіч падзялілі 3-ю прэмію.

Было і некалькі спецыяльных дыпломаў, у тым ліку — лепшым канцэртмайстрам. Асобна адзначаліся маладыя спевакі за выкананне беларускіх песень — Дзіяна Петрачэнка, Ларыса Кароль. А лаўрэат 1-й прэміі Яўген Ермакоў атрымаў прыз Беларускага саюза музычных дзеячаў за лепшае выкананне твора С. Манюшкі.

У гала-канцэрце кранальным падавалася ўсё: і сарамяжлівая стараннасць маладых барытонаў, і прыродны артыстызм будучых прымадон, і адметны вакальны дар, спалучаны з першым прафесійным досведам, у выступленнях лідэраў турніру. І — асаблівае ўзрушэнне на сцэне ды ў зале, калі, пасля "параду" лаўрэатаў пад гукі раяля (яны спявалі арыі з опер заходнееўрапейскіх аўтараў, рамансы, песні), прагучала некалькі вакальных нумароў у аркестравым суправаджэнні...

Дэбют Аксаны Прадун, Руслана Курцёнка ды Яўгена Ермакова з музыкантамі капэлы "Sonorus" прайшоў паспяхова. Маэстра А. Шут потым заўважыў між іншым: "З заўтрашняга дня — артыст нашай капэлы, прымаем яго на працу". І кіўнуў у бок Я. Ермакова. Вядома ж, такі моцны, роўны, выразны тэнар упрыгожыць вакальную палітру калектыву, дзе і ў хоры, і сола пяюць адметныя індывідуальнасці.

ФЭСТ завяршыла выкананне ўзнёслага, жыццярадаснага, сонечнага "Магніфіката" сучаснага англійскага кампазітара Д. Рутэра. З гэтым творам "Sonorus" назаўтра ж выпраўляўся ў Германію — удзельнічаць у міжнародным музычным праекце. Кожнага чакалі свае будні. Але пакідалі гасцінны Чэрвень удзельнікі імпрэзы з надзеяй сустрэцца тут зноў. Бо і наступнай вясною "Убельская ластаўка" пакліча музыкантаў на Ігуменшчыну. Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, мясцовыя ўлады абяцалі паспрыяць, каб свята было штогадовым. А конкурс вакалістаў вырашана праводзіць раз на два гады.

Так што ёсць стымул памеркаваць над арганізацыйнымі недахопамі, рэалізаваць творчыя фантазіі, падрыхтавацца да наступных святаў і музычных турніраў. А заадно і пашукаць спонсара, які зрабіў бы справу і добрую, і прэстыжную, і перспектыўную — дапамог бы адбудаваць колішнюю Убельскую сядзібу. На жаль, пакуль няма фундацыі, праект рэканструкцыі застанецца праектам. І марай летуценнікаў пра "канцэрты з расчыненымі вокнамі" — кшталту такіх, як на радзіме Шапэна ў Жалязовай Волі ці ў Доме-музеі Чайкоўскага ў Кліне. З удзелам творчай эліты, замежных турыстаў, шматлікіх гасцей, таленавітай і дасведчанай мясцовай публікі...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

МАНАЛОГІ

# Уся дабрыня свету...

***Праца ў школе зацягвае з галавой. Школа для настаўнікаў — Галгофа і Парнас аднachасова. І цягнуць яны штодня на ўласным карку цяжкі педагагічны крыж. Але сваё не муліць. І платай за высакародную адданасць справе — не жабрацкі заробак, а заўсёднае вучнёўскае "дзякуй", няхай іншым разам і праз дзесяцігоддзі, але "дзякуй" шчырае, светлае і абнадзейнае... Колькасцю дадзеных урокаў вымяраецца настаўніцкае жыццё. А плён яго — колькасцю выхаваных асоб, якія, усвядоміўшы і зразумеўшы, доўжаць вялікую справу дабрыні і прыгажосці. І лёс адукацыі нашай, а значыць і лёс Беларусі, вырашаецца не ў міністэрскіх кабінетах, а ў звычайных класах беларускіх школ...***

**Фёдар ЛЯХНОВІЧ — настаўнік малявання:**

— Мне 61. Большая палова прайшла ў школе. Настаўнічаць пачаў у 64-ым, адразу пасля заканчэння Мінскай мастацкай вучэльні. Знаным мастаком накшталт Савіцкага, Тоўсціка ці Марачкіна не стаў. Шкадую? Не! Мастацтва толькі тады запатрабавана, калі аддаецца яму без агляткі ўся душа, да апошняй кроплі, да апошняга ўздыху. І няма тут кампрамісаў. Дый зрэшты ці толькі мастацтва патрабуе такога стаўлення? Любая чалавечая справа! У тым ліку і настаўніцкая. Вельмі шмат наўкола мастакоў, але нестае Майстроў. Многа педагогаў, але вельмі мала Настаўнікаў.

Кожнаму Бог наканаваў асабісты шлях. І каб выканаць чалавечае прызначэнне, прайсці гэты шлях трэба да канца. Маё прызначэнне — вучыць дзяцей. Вучыць бачыць, думаць, разважаць, здзіўляцца і радавацца, глядзець на свет неабыякавымі вачмі. Зрабіць так, каб маленькі чалавек мог маляваць, — нескладана. Значна больш намаганняў ідзе на тое, каб ён урэшце пачаў разумець прыгажосць, а значыць і сябе. Калі прыходзіць гэтае доўгачаканае імгненне — на свет нараджаецца чарговая асоба, якая ніколі не здрадзіць ні роднай мове, ні роднаму народу. Ні з чым непараўнальная асалода: адчуваць, што свет вакол цябе напаўняецца дабрынёй.

І справа не толькі ў тым, што 16 маіх былых вучняў сталі мастакамі. Сотні выпускнікоў, сённяшніх інжынераў, медыкаў, будаўнікоў, бізнесоўцаў, усвядомілі раз і назаўжды, што яны — часцінкі сусветнай культуры, што яны — беларусы з чыстай душой і светлымі памкненнямі, перададзенымі ад продкаў у святую спадчыну...

Я вучу дзяцей, яны вучаць мяне. Здаецца, сённяшняя школа толькі і трымаецца на гэтым працэсе ўзаемнага духоўнага ўзбагачэння. Ці варта казаць, як не хапае гэтага нашаму грамадству. Ці варта ўзгадваць, што асвета наша ды культура проста задыхаюцца без дзяржаўнай увагі і падтрымкі. А ў колішніх дарэвалюцыйных гімназіях хапала сродкаў і жадання для таго, каб з першага да апошняга класа маляванне выкладалі прафесійныя мастакі. Каб першаступенная ўвага надавалася не толькі фізіцы з матэматыкай, але і ўрокам спеваў, танцаў, вершаскладання і этыкі. Прыстойныя людзі дбалі пра прыстойную дзяржаву! Адухоўленую, гожую, моцную традыцыямі...

Калі выкладаў у свой час сусветную мастацкую культуру, заўжды даводзіў вучням, што беларуская — неад'емная яе частка. Самабытная народная творчасць, непаўторная па выразнасці мова, багацейшая па эмацыянальным зарадзе літаратура... Пра літаратуру не магу не сказаць асобна. Яна зрабіла мяне. І па сёння памятаю пах друкарскай фарбы тых часопісаў "Полымя" і "Маладосць", якія браў у сельскай бібліятэцы на роднай Валожыншчыне. Чытаў ад коркі да коркі. Ужо ў студэнтах нанова агаломшылі-ўразілі Купала, Колас, Багдановіч. Захацелася мець уласныя кніжкі тых Майстроў, якія паўздзейнічалі на светапогляд і чын думак. З гэтага і пачалася бібліятэка. Не дзеля калекцыі. Для наталення смагі па Слове. А потым захацелася зрабіць партрэты тых, хто раз і назаўжды ўвайшоў у маё жыццё ўласным вобразам і думкай...

Зараз у маёй "галерэі" за 200 партрэтаў беларускіх пісьменнікаў. У кожнай працы — мой асабісты погляд на Творцу, маё разуменне яго існасці, зыходзячы з прачытанага і ўсвядомленага... Партрэт Ніла Гілевіча — непрыхаваная шчырасць адносін да жыцця, да беларушчыны... Партрэт Якуба Коласа — чуласць і мудрасць дзядзькі-"новазямельца", ягоныя дапытлівасць, дасціпнасць, чалавекалюбны беларускі гумар...

Калі скажу, што малюю для сябе, буду няшчырым. Для вучняў, для маіх гурткоўцаў са школы, што ў Вяснянцы. Уся гэтая графіка — пісьменніцкія партрэты, ілюстрацыі да знакамітых твораў нашай літаратуры — зручны і наглядны дапаможны матэрыял у справе вывучэння роднай культуры. І мае вучні паступова ўсведамляюць, што Быкаў і Караткевіч, Брыль і Адамчык — гонар наш і слава. А творы Пятровіча і Федарэнкі — варты працяг таго, што спрадвеку называецца Мастацтвам...

Літаратура і Мастацтва — спарышы чалавечай дабрыні, дзве родныя сястры, якія заўжды ідуць поруч. І шлях іхні да чалавечых сэрцаў — бясконцы і ачышчальны.

**Занатаваў Яўген РАГІН**

ры. Шэкспір, як дзіця з цацкамі, гуляе са сваімі героямі. І як бог, надзяляе іх каханнем, імкнучыся спасцігнуць ягоную сутнасць, праявы, яго пісаныя і няпісаныя законы. "Каханне з розумам рэдка ладзіць у наш час", — трапна заўважае ткач Аснова. Якія тут разумны сэнс, парады і пагрозы старэйшых, калі нараджаецца каханне? Яно дурманіць не горш за сок той чароўнай кветкі. Вяршыня ўсіх гарэз кахання — гратэскнае захапленне прыгажуні Тытаніі небаракам Асновай, які не без Пэкавай дапамогі атрымаў аслiную галаву. Вось дзе папраўдзе: "любовь зла...".

Ёсць у п'есе і карыкатура на гераічнае каханне — яе малююць майстравыя, рыхтуючы і іграючы гісторыю Пірама і Фісбы. "Сцэна на сцэне" — улюбёны шэкспіраўскі прыём. Ён прыйшоўся даспадобы і купалаўцам, для якіх у гэтым падабенстве вясёлага капусніка поўнае раздолле — імправізуй, "раскалывай" партнёраў. Кожны ў гэтым балагане камічны на свой лад. Фісба (Аляксандр Паўлаў) з смешнымі коскамі робіць кніксен, Сцяна (Алег Гарбуз) увесь час нешта жуе, Месяц (Вячаслаў Паўлюць) губляецца і забывае рэплікі, картавы Леў (Андрэй Кавальчук) "лічыць"... Але кароль блазнаў адзін — Пірам, ён жа — Аснова Віктара Манаева. У такую бездань пластыкі ды абаяння закахацца можна і без усялякага чароўнага соку. Яшчэ адна бяспройгрышная роля дасталася Паўлу Адамчыкаву. Яго выдатная фізічная падрыхтоўка вельмі спатрэбілася для гарэзлівага рухавага жартаўніка Пэка. Уся гэтая кампанія з поспехам адціскае на другі план эльфаў і афінскую знаць. Па вялікім рахунку, "мэтрам" у спектаклі няма чаго асабліва іграць, бо іх героі статычныя. Акцёры тонуць у раскошы касцюмаў і рэнесансным грыме. Больш дзеяння дасталося дзяўчатам, якія іграюць Гермію з Аленай. Рэжысёр усімі сродкамі (вышынёй абцасаў і прычоскі, адзеннем) падкрэслівае розніцу паміж імі. Калі Алена — высокая, прыгожая, але вельмі неўраўнаважаная асоба, дык маленькая Гермія — мілая прасцячка, непасрэдная гарэзніца. Дзяметрый і Лізандр, у процівагу ім, выглядаюць братамі-блізнятамі: няўрымслівыя, задзірлівыя... "гарачыя афінскія хлопцы", адным словам. "Сон..." — цудоўная магчымасць выпусціць на сцэну моладзь. У купалаўскім яе багата, таму даводзіцца мяняцца: сёння Гермія, заўтра фея з масоўкі.

Ну вось, нарэшце, мы і дабраліся да самага смачнага ў нашым пірагу — візуальна-музычнай часткі спектакля. За чароўнасць летняй ночы перш за ўсё адказвае сцэнограф. Ягонай воляй белакаменная зала афінскага палаца ператвараецца ў лясную паляну, дзе пад шатамі дрэў міргаюць рознакаляровыя агеньчыкі ды фасфарысцыруе трава. А над усім гэтым у прывідным зеленаватым мроіве пануе поўня.

Такога багацця ў касцюмах, як у "Сне...", купалаўскі, здаецца, і не бачыў. Гэта дзіўная сумесь рэнесансу з фантазіяй сучаснага "высакамоднага" мадэльера. Пад ёй і акцёра часам не прыкмеціш. Затое калі ўжо герцаг, дык адразу бачна — герцаг: залаты плашч на палову сцэны. У фейным жа царстве касцюм — галоўная дзейная асоба. Празрысты зялёны шыфон, золата, адмысловыя не тое грывы, не тое турбаны — і з паўзмроку выступаюць бесцялесныя лясныя духі, сатканыя з лісця ды месячнага святла. І на кантрасце — вопратка майстравых: радно, скуры, рыззё.

Музыку для свайго спектакля Андрэй Бакіраў пісаў сам. Гэтым, пэўна, і тлумачыцца яе надзвычайная арганічнасць, злітнасць з усімі іншымі кампанентамі сцэнічнага відовішча. Гэта адзін з самых уплывовых сродкаў пры стварэнні магічнай, казачнай, фантастычнай рэальнасці. Бакіраў выкарыстаў кельцкія матывы, якія міжволі (а можа, і знарок) выклікаюць асацыяцыю з яшчэ адной гісторыяй кахання — "Тытанікам", дзе яны таксама былі выкарыстаны. Гэтая выразна рамантычная тэма гучыць для закаханых. Зусім іншай становіцца музыка пры з'яўленні рамесніцкай хеўры: разам з ёю гарэзнічаюць блазнерскія бомы і дудкі. І трэці музычны слой нашага пірага — гукі чароўнага лесу, дзе крык драпежнай птушкі сплятаецца з таемнымі шорахамі начнога жыцця разнастайных нячысцікаў.

Яркая, эфектная, дынамічная камедыя — гэта падарунак Купалаўскага самому сабе на 80-годдзе. Што ні кажы, паважаны ўзрост, і тэатру трэба абавязкова давесці: я — жывы, мне ёсць што паставіць на стол. Прыходзьце, частуйцеся. Кожнаму дастанецца ад святочнага пірага кавалак па густу.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота М. ПРУПАСА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Узняцца над будзённасцю жыцця

Ужо чацвёрты раз у Віцебску адбываецца спачатку па раёнах горада, а потым на малой сцэне коласаўскага тэатра фестываль драматычных калектываў сярэдніх школ горада.

Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, гарадскі аддзел асветы паклапаціліся пра тэатральную галіну вучнёўскіх захапленняў, далі фестывалю арганізацыйныя падставы, і ён акрыліў многіх хлопчыкаў і дзяўчынак.

Тэатральны калектыў з ліцэя N 1 узяў першае месца на конкурсе: іх спектакль "Навелы" паводле твораў О'Генры ўразіў культурай выканання, і — галоўнае — духоўным асэнсаваннем усяго таго, пра што 11-класнікі гаварылі са сцэны.

Другое месца журы (старшынёй яго быў галоўны рэжысёр тэатра Віталь Баркоўскі) аддало двум спектаклям: вадэвілю "Мядзведзь" паводле А. Чэхава ў выкананні вучняў 28-й школы і камедыі "Чорт і баба" паводле Ф. Аляхновіча ў выкананні аматараў з 31-й школы.

Трэцяе месца падзялілі 34-я школа са спектаклем "Модны шляхцюк" паводле К. Каганца і 6-я школа з пастаноўкай "Сымон-музыка" паводле паэмы Якуба Коласа.

Спецыяльным прызам журы адзначыла пастаноўку гімназіі N 2. Спектакль "Дом Бернарды Альбы" ў выкананні васьмікласнікаў, якія рыхтавалі свой сцэнічны варыянт на іспанскай мове, на коласаўскай сцэне прагучаў па-руску.

Усяго ў фінал конкурсу выйшлі 11 калектываў. У праграме асабліва вызначалася беларуская тэматыка: увага школьнікаў да айчыннай класікі відавочная, і набыткі ёсць цудоўныя.

Сёння ладзіць фестывалі нялёгка. Але абысціся без іх немагчыма, бо Тэатр мае адну асаблівасць: сцэна дае чалавеку шанц узняцца над будзённасцю існавання. Арганізатары фестывалю (коласаўскі тэатр з дапамогай гарадскога і раённых аддзелаў асветы Віцебска) бяруць на сябе галоўную частку клопатаў, каб школьнікам раз у год адчуць сябе сапраўднымі валадарамі прафесійных тэатральных падмосткаў.

**Таццяна КАТОВІЧ**



**ЧАСАПІС**

## Ёсць "Паэзія Віленскага краю"

"Складаць вершы я пачала рана, пэўна, калі нават і не ўмела пісаць", — так апавядала пра свае першыя творчыя крокі Ала Клемянок на пасяджэнні літаратурна-краязнаўчага аб'яднання "Жывіца" пры Маладзечанскай раённай цэнтральнай бібліятэцы, дзе і адбылася прэзентацыя яе першай кнігі "Яны не ведалі мяне...", якая выйшла ўпершыню ў серыі "Паэзія Віленскага краю".

З цікавасцю слухалі прысутныя даўняга сябра "Жывіцы", краязнаўцу, аўтара прадмовы да вершаў Міхася Казлоўскага. Ён не толькі прадставіў Алу Клемянок, але і адзначыў, што "яна — паэт адметны, не падобны на іншых". Шмат удзячных і добрых слоў выказалі Але мастак Кастусь Харашэвіч, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Валянціна Войніч.

Вершы журналіста па адукацыі, маці чатырох сыноў, хвалявалі і кранальі сваёй чалавечнасцю, дабрынёй, сціпласцю.

*Не веру у шчасце вечнае,*
*Ды мару, каб праз гады*
*Сыноў маіх рукі надзейныя*
*Паднеслі маці вады.*

Вершы А. Клемянок хочацца чытаць і перачытваць, яны запамінаюцца, бо ідуць з глыбіні яе сэрца, да такіх вершаў можна аднесці "Мокры лістапад...", "Казка для каханага", "Вось і знікла цяпло", "Сынам", "Зялёным лугам ішла Купала" і іншыя.

**Т. ЦЯРЭШКА**

## "Мастацтва", N 4

"Патрэбныя унікальныя фільмы" — роздум В. Нікіфарава. Т. Мушынская ("Кранае, захапляе, прымушае думаць...") расказвае пра вечар, прысвечаны памяці балетнага педагога, заслужанага артыста Беларусі А. Смалянскага, што прайшоў у Тэатры музкамедыі. Памяці тэатральнага педагога, драматурга, рэжысёра, акцёра, тэатральнага і мастацкага крытыка У. Рудава, які памёр ва ўзросце 52 гадоў 18 кастрычніка 1999 года, прысвечаны артыкул К. Хадзеева "Шлях, які не хутка скончыцца". Тут жа прапануецца п'еса У. Рудава "Тук-тук-тук", права першага выканання якой аўтар меў намер прапанаваць актрысам Т. Мархель і В. Шыпіле. Гераіня нарыса Т. Арловай "Не важна, дзе працаваць, галоўнае — як" — актрыса Ж. Зарэмба. Сярод іншых матэрыялаў — "Алагічная гісторыя ў лагічнай пастаноўцы" Т. Шымук, "Магія святла" Ю. Барысевіча, "Увайдзі ў агонь, у якім я палаю..." Г. Фатыхавай, "Шчодры падарунак" Л. Вакар, "З альбома мінскага святлапісу" Н. Саўчанкі, "Мярэжы, тэхналогія як магія" Г. Нячаевай, "Адзнакі жаноцкасці" Т. Валодзінай, гутарка Я. Мацкевіч з кіраўніком Маладзечанскага народнага ансамбля песні і танца "Спадчына" І. Сушко — "Я вырас з народнай песні...". А. Марціновіч ("Агінскі: шматграннасць партрэта") рэцэнзуе кнігу А. Залускага "Час і музыка Міхала Клеафаса Агінскага". Ёсць у нумары падборка "Хроніка мастацкага жыцця".

## "Беларуская думка", N 5

Нумар адкрываецца выступленнем кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, доктара эканамічных навук М. Мясніковіча "За ідэалогію, якая адлюстроўвае праўду жыцця, абараняе інтарэсы народа". А наступны матэрыял, прадстаўлены пад рубрыкай "Асоба", артыкул А. Марціновіча "На зломе дзвюх эпох злавесных...", у якім разглядаецца паэзія У. Жылкі ў прасторы часу. "Каб здолелі нашы дзеткі захаваць культуру продкаў" — развагі выкладчыка БДПУ імя Максіма Танка Т. Карнажыцкай. Вышэйшы ордэн Расіі — Андрэя Першазваннага — нядаўна ўручаны М. Савіцкаму. З ім гутарыць В. Александровіч ("Вязні"). У артыкуле "Зорка над ашрамам" Э. Скобелеў звяртаецца да вучэння Бабы Вірсы Сінгха — аднаго з выдатнейшых духоўных настаўнікаў чалавецтва, які жыве ў Індыі. "А мецэнатам проста быць... ці Аб гісторыі прыватнай дабрачыннасці на Беларусі" — тэма матэрыялу А. Грыгор'ева. Э. Карніловіч ("Рыцар навукі і дабра") знаёміць з нашым выдатным земляком, сацыёлагам, прававедам і публіцыстам Львом Петражыцкім, працамі якога захапляліся У. Ленін, Л. Талстой і іншыя. Змешчаны паэма А. Салтука "Святло і цені", апавяданне Г. Пацыенкі "У лесе вабным", артыкул А. Вішнеўскага "Арфей з Белай Русі" пра І. Гузікава, рэцэнзія Л. Клімовіч на кнігі Р. Смольскага "Тэатр у прасторы часу" і "На скрыжаванні" ("Летапіс тэатральнага жыцця") і іншыя матэрыялы.

**ПЕРАКЛАДЫ**

***Байран, як у свой час Дантэ — Фларэнцыю, быў вымушаны пакінуць свой родны Лондан і з 1816 да 1823 года (амаль да самай смерці) жыў у Італіі. Тут ён сустрэўся з Тэрэзай Гвічыолі, якая стала другой жонкай паэта. Тут ім, у прыватнасці, напісаны 3-я і 4-я часткі "Паломніцтва Чайльд-Гарольда", паэмы "Скарга Таса", "Ода Венецыі", "Прароцтва Дантэ". Апошняя паэма напісана Байранам ад імя Дантэ-паэта, які на аснове мясцовых гаворак сфарміраваў італьянскую мову, абараніў яе ад лацiністаў і стаў сцягам нацыянальна-вызваленчага руху італьянскага народа супраць французскага і аўстрыйскага панавання, які ў 1870 годзе прывёў да стварэння аб'яднанага Італьянскага каралеўства. Дзяржаўнай мовай яго была абвешчана мова, на якой напісана "Боская камедыя" Дантэ. Актыўны ўдзел у гэтым руху прымаў Байран.***

***Першая песня паэмы "Прароцтва Дантэ" ў маім перакладзе была надрукавана ў газеце "ЛіМ" 10 верасня 1999 г. Прапаную ўвазе чытачоў другую частку гэтага твора, якая прасякнута вострым болем за краіну са шматвяковымі культурнымі традыцыямі, але заняволеную "Варварамі", як называў Байран акупантаў. Падрадкоўнікі другой часткі паэмы, як і першай, зроблены прафесарам Беларускага лінгвістычнага універсітэта Вольгай Апанасаўнай СУДЛЯНКОВАЙ.***

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

Джордж Гордан БАЙРАН

# Прароцтва Дантэ

## *Песня другая*

*Дух бурных дзён былых,*
*калі здзяйснялі*
*Зарокі ўсе, а думкі праз хаос*
*Падзей наступных ярка асвятлялі*

*І пакалення будучага лёс,*
*Афармленага ўжо напалавіну,*
*І ўсё, што будзе воляю нябёс*

*Пакладзена аднойчы ў дамавіну;*
*Дух, што натхняў ізраільскіх сыноў,*
*Мяне натхняе ў гэтую хвіліну.*

*Калі мяне, як і Касандру[1], зноў*
*Не чуюць людзі — і,*
*бы ў пустыц — крыкі,*
*Ў іх душах глухне гул прарочых слоў,*

*То гэта, знайце, не мае пралікі.*
*Хто не пачуе споведзі маёй,*
*Узваліць на сумленне грэх вялікі.*

*Італія! Ты ўся сцякла крывёй.*
*Сярод тваіх пакут*
*я ў змрочным рове*
*Не ўспомніў нават аб бядзе сваёй.*

*Мой прах — твой прах.*
*Мой дух у кожным слове*
*Тваім жыве, хоць мова ў заняпад*
*Прыйшла, як і краіна. Іншай мове*

*Я памагчы падняцца буду рад —*
*Яшчэ больш велічнай і больш пявучай,*
*Для гімнаў годнай і для серэнад.*

*Я здзейсню мары гордыя — бліскучай,*
*Як неба над табой, зраблю яе.*
*Магутнай, дасканалай, неўміручай.*

*Як салавей Еўропы запяе*
*Мая краіна і перакапае*
*Усіх, што лепшых моў не існуе.*

*Цяперашняя мова, што канае,*
*Здаваца будзе карканнем глухім*
*І ўрэшце варварства сваё прызнае.*

*І абавязана ты будзеш тым*
*Паэту-гібеліну, з кім Таскана*
*Навек разлучана тыранам злым.*

*О гора, гора! Покрыва сарвана*
*З тысячагоддзя,*
*што пакуль трымціць,*
*Як перад бурай хвалі акіяна,*

*Які, пахмурна дыхаючы, спіць, —*
*І ў вочы з вечнасці плывуць імгненні,*
*На месцы ў небе воблачка стаіць.*

*У нетрах тояцца землетрасенні,*
*Хаос, які ствараецца знарок,*
*Зноў марыць аб сваім уваскрашэнні.*

*Чакае заклiку "Хай будзе змрок!"*
*Стыхія, каб зрабіць цябе кладамі.*
*Меч упадзе на край,*
*што цешыць зрок.*

*Італія! Дзівоснымі садамі*
*Ты мне нагадваеш біблейскі рай.*
*Няўжо ў сыноў Адамавых з гадамі*

*Бог адбярэ, як Рай,*
*і гэты край?*
*Італія, дзе вечна залатыя*
*Палі, якія хоць ператварай*

*У клецъ Зямлі, арэ ў дні веснавыя*
*Нястомна зыркі сонечны нарог;*
*Дзе сіняй дымкай у часы начныя*

*Ахутваецца зорны абарог,*
*І дзе калісьці лета збудавала*
*Палац, які Імперыю бярог!*

*Ад грабяжоў, якіх было нямала, —*
*Герояў стан,*
*прыстанішча святых —*
*Ты мужна Вечны горад ратавала.*

*Ўяўленні блякнуць між дзівос тваіх.*
*Калі з альпійскай вышыні, дзе сосны*
*Хістаюцца на схілах снегавых,*

*Гляджу туды, дзе днее край дзівосны,*
*Малюся слёзна я за свой народ,*
*А сэрца цісне смутак невыносны.*

*Франк, гун, германец,*
*як калісьці гот,*
*Наваляцца. На велічнай руіне*
*Ізноў усядзецца — і не на год! —*

*Як на прастоле, смерць*
*на Палаціне*
*Ў той час, калі валяцца будзе Рым*
*Скрываўлены ля ног яе ў нізіне.*

*Блакітнае паветра зноў сырым*
*І шэрым стане, зробіцца чырвоным*
*Шафранны Тыбр.*
*Дачка з Айцом старым*

*Укленчаць перад залатым амбонам*
*І пад бязладны лямант прыхаджан*
*Пакінуць храм,*
*што цешыў сэрцы звонам.*

*Ламбардзец, іберыец, алеман*
*Рваць будуць на шматкі свае ахвяры.*
*І воўк, і грыф, пантэра і груган*

*Не гэткія, як чалавек, пачвары:*
*Прэч уцякуць, наеўшыся, яны,*
*А людзі прагнуць вытанчанай кары.*

*Яны братоў грызуць, як дзікуны,*
*З няменшай прагнасцю,*
*чым Угаліна[2],*
*І зноў ідуць на пошук свежыны.*

*Дзевятай поўняй зменіцца карціна.*
*Па Рыму гуртам пройдуць мерцвякі*
*Ў той роў, дзе замагільная краіна,*

*Пад сцягам прынца-здрадніка[3], які*
*Ўпадзе каля варот як зла ахвяра,*
*Угатаваўшы лёс табе цяжкі.*

*Рым! Ты здабыча Францыі ці кара?*
*Як Брэн[4], Бурбоны[5]*
*ўзнесці над табой*
*Не змогуць пераможнага штандара.*

*Ды стане Тыбр самотнаю ракой.*
*Калі пяройдуць По і Альпы галы*
*Або германцы, хваляю тугой*

*Накрыйце, рэкі, раздушыце, скалы,*
*Варожы спусташальны караван!*
*Чаму грымяць не ў гэты час абвалы?*

*Чаму палеткі бедныя сялян,*
*А не чужынцаў ненажэрныя орды*
*Ты часта затапляеш, Эрыдан[6]?*

*Было ж, аднак,*
*што Камбіса[7] кагорты*
*Ў пясчаным акіяне смерць знайшлі,*
*А ў моры з войскам егіпцянін горды[8].*

*Няўжо вы, рэкі, горы, не маглі*
*Так паступіць?*
*Няўжо такі пахілы*
*Ты, рымскі люд, чые дзяды далі*

*Бой пераможны тым, каму свяцілы*
*Спрыялі Ксеркса[9] злоснага разбіць?*
*Няўжо вы, Альпы,*
*горш за Фермапілы[10]?*

*Хто з вас не паспявае зачыніць*
*Для злых чужынцаў горныя праходы*
*І дазваляе здзекі ім чыніць?*

*Прырода калясніцы іх, падводы*
*Затрымлівае, ды стрымаць адной*
*Прышэльцаў не пад сілу для Прыроды.*

*Не той, дзе баязлівец — кожны вой,*
*А толькі той зямлі, што нараджала*
*Мужчын з небаязліваю душой,*

*Прырода мудрая дапамагала.*
*Лепш абаронены ў сваёй нары*
*Паўзун маленечкі, што мае джала,*

*Чым баязлівец той, каго муры*
*Абараняюць, а ў самога воя*
*Ад страху ўсё сціінаецца ўнутры.*

*Ёсць у Аўзонскім краі рукі, зброя,*
*Каб скінуць гнёт*
*чужынцаў назаўжды.*
*Няўжо так цяжка ў ім знайсці героя?*

*Насенне неспакою і бяды*
*Пасеялі разлады ў ім і сіла —*
*Прышэльцы пажынаюць іх плады.*

*Зямля мая дзівосная! Магіла*
*Надзей сваіх сыноў!*
*Каб кайданы*
*Разбіць — удару б аднаго хапіла.*

*Аднак марудзяць мсціўцы. Дух вайны*
*Нас прымушае між сабой змагацца.*
*Каб Альпы зачыніць, твае сыны*
*Павінны толькі*
*і ўсяго — З'ЯДНАЦЦА!*

---

*[1] Касандра — дачка траянскага цара Прыама, якую бог Апалон надзяліў дарам прароцтва, але яе прароцтвам ніхто не верыў.*

*[2] Угаліна — кіраўнік Пізанскай рэспублікі ў пачатку XIV ст., па загадзе архіепіскапа Убальдзіні замораны голадам разам з двума сынамі і двума ўнукамі. У "Боскай камедыі" Дантэ Угаліна грызе ў Пекле чэрап Убальдзіні.*

*[3] Прынц-здраднік — французскі палкаводзец Шарль Бурбон (1490—1527 гг.), які здрадзіў каралю Францыску I (1494—1547 гг.) і перайшоў на службу да германскага імператара. Загінуў пры аблозе Рыма.*

*[4] Брэн — правадыр галаў, якія ў 390 г. да н. э. разбурылі Рым.*

*[5] Бурбоны — дынастыя французскіх каралёў з 1589 г. да 1830 г.*

*[6] Эрыдан — старажытнагрэчаская назва ракі По.*

*[7] Камбіс — легендарны палкаводзец старажытнага Ірана, чыё войска загінула ў пясках Паўночнай Афрыкі.*

*[8] Маецца на ўвазе егіпецкі фараон, патоплены морам, калі ён з войскам гнаўся за ізраільцянамі (гл. "Выхад", XIV, 26—28).*

*[9] Ксеркс (?—465 г. да н. э.) — цар, які ў 480—479 гг. да н. э. узначальваў паход персаў у Грэцыю.*

*[10] Фермапілы — горны праход, які злучае паўднёвыя і паўночныя раёны Грэцыі. У 480 г. да н. э. 300 спартанцаў на чале з царом Леанідам стойка абаранялі яго ад персаў, але ўсе загінулі.*

*[11] У старажытныя часы Італія называлася Аўзоніяй.*

БЫЛОЕ

***Наша адзіная сустрэча адбылася, калі я рыхтавала цыкл праграм “Гэта было нядаўна, гэта было даўно...”, прысвечаных гісторыі Беларускага радыё. Тады я шукала людзей, якія маглі б расказаць пра гісторыю нашага радыёвяшчання,аднавіць цікавыя факты, падзеі, імёны.***

***Мне параілі звярнуцца да Яўгена Мікалаевіча Гурава — аднаго са старэйшых супрацоўнікаў Дома радыё, інжынера па прафесіі, які аддаў радыёсправе больш за 50 гадоў. Ён тады ўжо быў на пенсіі, але згадзіўся прыехаць на інтэрв’ю ў свой родны Дом радыё на Чырвоную, 4. Мяне прыемна ўразіў яго маладжавы выгляд: рухавы хударлявы чалавек у джынсах. З задавальненнем адзначыла і яго жывую гаворку, якую на мове радыйшчыкаў называюць словамі “радыйна” і “мантажна”. Але галоўным адкрыццём стаў унікальны змест аповеду Яўгена Мікалаевіча. Аказалася, у час Вялікай Айчыннай вайны, застаўшыся ў акупаваным Мінску, ён па заданні падполля працаваў на нямецкім вяшчанні. Будынак жа Беларускага радыёкамітэта, які размяшчаўся па вуліцы Рэвалюцыйнай, 3, не быў разбураны (ды і цяпер на сваім месцы).***

***Тое, што расказаў Я. Гураў, падалося мне не проста цікавым, а нават сенсацыйным. Вельмі шкадую, што, скарыстаўшы ў эфіры фрагменты таго інтэрв’ю, я не зрабіла адразу ж і публікацыю ў друку. Бо ніколі больш сустрэцца з Яўгенам Мікалаевічам не давялося. А 15 ліпеня 1999 года ён памёр.***

***Радыётэхнік, адказны за тэхнічную якасць эфіру, Я. Гураў меў талент расказчыка. А ягоны аповед аказаўся ледзь не адзіным сведчаннем аб працы нямецкай радыёстанцыі ў акупаваным Мінску. Безумоўна, як музыказнаўцу, мяне цікавіла найперш тое, што было звязана з музычным вяшчаннем...***

# “Да музыкі ставіліся лаяльна...”

— Так, я працаваў на нямецкім радыёвяшчанні з 42-га года, — успамінаў Яўген Мікалаевіч. — Як туды трапіў? У час акупацыі я працаваў электраманцёрам. Аднойчы сустрэў свайго школьнага сябра, студэнта юрыдычнага факультэта універсітэта Маціка Столава. А ён быў членам падпольнай групы Марыі Барысаўны Осіпавай, адной з арганізатараў знішчэння гаўляйтэра Кубэ. Група М. Осіпавай складалася пераважна са студэнтаў юрыдычнага факультэта. (Група М. Б. Осіпавай складалася з выкладчыкаў і студэнтаў Юрыдычнага інстытута. Маціас Эфраімавіч Столаў (1922—1942) сапраўды быў членам групы са жніўня 1941 па чэрвень 1942 г. Загінуў увосень 1942 г. Даведка атрымана ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. — **В. Б.**). І мяне туды ўвялі, Мацік дапамог. Ён ведаў, што я захапляюся радыё, бо я нават да вайны некалькі месяцаў працаваў на нашым гарадскім радыёвузле. Я і жыў непадалёк ад будынка радыё — на Рэвалюцыйнай вуліцы. Дарэчы, немцы перайменавалі яе ў Кірхенштрасэ — Царкоўную вуліцу, бо яна выходзіла на плошчу Свабоды, а там жа стаялі цэрквы.

Падпольшчыкі мне прапанавалі ўладкавацца на працу, каб я мог слухаць савецкія перадачы і забяспечваць іх патрэбнай інфармацыяй. Так я стаў супрацоўнікам радыёстанцыі “Ландэ Зендэр “Мінск” — Міттам Зэндэр “Баранавічы”. Гэта значыць, “Краявая радыёстанцыя “Мінск” разам са станцыяй “Баранавічы”.

**— А чаму з “Баранавічамі”?**

— Усе вяшчальныя праграмы мы трансліравалі праз радыёстанцыю РВ-10 — яна была ў Калодзішчах, — і праз Баранавічы. Там быў цудоўны перадатчык — дзве такія ажурныя вежы стаялі, — і рэтранслятар. Калі немцы адступалі, яны ўзарвалі гэтыя прыгожыя мачты-вежы.

**— А як вам удавалася слухаць савецкія перадачы? Гэта ж было вельмі небяспечна.**

— Ну, гэта можна было рабіць толькі позна вечарам, калі я заставаўся на дзяжурстве. У апаратнай стаяла некалькі прыёмнікаў. І вось адзін прыёмнік, скажам, трансліраваў нямецкую станцыю, а другі я настройваў на нашы станцыі, савецкія. “Савецкую Беларусь” я часта слухаў. (Радыёстанцыя “Савецкая Беларусь” была створана ў канцы 1941 г. у Маскве; пачала вяшчанне на акупаваную тэрыторыю Беларусі 1. 01.1942 г. — **В. Б.**) У асноўным, канешне, мяне цікавілі інфармацыйныя праграмы, апошнія паведамленні. Іх перадавала на рускай мове Варшава, а нашы дыктары чыталі навіны па-беларуску. Я, вядома ж, нічога не запісваў, — слухаў і запамінаў, а потым перадаваў інфармацыю сваім таварышам у падпольную групу Осіпавай. А там яны скарыстоўвалі звесткі для лістовак, друкавалі ў падпольнай газеце “Звязда”.

**— Цікава, а як ажыццяўлялася музычнае вяшчанне?**

— Музычных праграм было вельмі шмат. Вяшчанне ішло, у асноўным, з пласцінак, з прайгравальнікаў. Былі такія салідныя апараты са спецыяльнымі пласцінкамі. Іх канструкцыя дазваляла даваць у эфір працяглыя музычныя творы — сімфоніі і нават оперы — без перапынку. Пласцінкі гэтыя нават з выгляду былі незвычайныя — металічныя, аблітыя лакам ці вінілітам нейкім. Адна такая пласцінка, напрыклад, трансліруецца ў эфір, а другую аператар змяшчае на суседнім прыёмніку. Калі да канца 1-й пласцінкі застаецца хвіліна ці паўхвіліны, апускаецца гуказдымальнік другога апарата, але ў эфір гук яшчэ не ідзе. У гэты час трэба было на навушніках падслухаць, ці супадаюць музычныя такты. Калі яны супадалі, ішло пераключэнне на другі апарат. Калі былі разыходжанні, то на другім апараце, які яшчэ не ішоў у эфір, трэба было спецыяльнай ручкай затрымаць хуткасць ці, наадварот, паскорыць. І пры супадзенні тактаў другі прайгравальнік плаўна пераключаўся ў эфірны рэжым. Гэта была арыгінальная канструкцыя.

**— А гэтыя пласцінкі ствараліся на радыё ці немцы іх прывезлі з сабой?**

— Мы маглі іх рабіць, у нас была належная апаратура. Але яны прывозілі гатовыя. Былі і звычайныя кружэлкі — напрыклад, запісы старых рускіх спевакоў Пятра Лешчанкі ды Юрыя Марфесі. Гэтыя запісы вельмі часта круцілі ў эфіры. Нямала музычных перадач трансліравалася з Германіі. У нас стаялі два прыёмнікі, і мы прымалі нямецкую станцыю “Дойчланд Зендэр” з Берліна, а таксама Варшаву. Апроч гэтага, было вельмі шмат так званых “жывых” музычных перадач, якія проста ішлі ў эфір з дзвюх студый — малой і вялікай. У малой выступалі салісты, у вялікай — аркестр. Пры Доме радыё быў жа тады аркестр з беларускіх музыкантаў. І гэты аркестр вельмі часта ў вялікай студыі граў канцэрты, якія трансліраваліся ў эфір. На гэтыя ж трансляцыі часам проста ў студыю запрашаліся падлечаныя ўжо салдаты са шпіталяў.

Выступалі беларускія салісты, музыканты. Напрыклад, быў такі выдатны акардэяніст Васіль Савіцкі — гарбаценькі, ледзь трымаў гэты акардэон. Але іграў цудоўна! Быў адзін гітарыст, — не памятаю зараз яго прозвішча, — які са звычайнай гітары рабіў гавайскую. Ён іграў нейкай жалезкай, насунутай на палец, і рабіў нейкія плаваючыя рухі. Гук атрымліваўся, як у гавайскай гітары. (Старэйшы дыктар Уладзімір Юрэвіч, які працаваў на Беларускім радыё з сярэдзіны 30-х гадоў, сцвярджае, што прозвішча таго гітарыста — Пятровіч. Як і Васіль Савіцкі, ён часта выступаў па радыё яшчэ да вайны. — **В. Б.**) Былі, канешне, і іншыя артысты, але я ўжо не памятаю іх прозвішчаў.

**— А якія творы выконвалі нашы артысты? Ці была гэта беларуская музыка?**

— Магу сказаць дакладна, што выконвалася шмат беларускіх песень. Рускіх паменей было. А беларускія пераважалі, бо нашы салісты — мінскія, савецкія, якія заставаліся ў акупацыі, — яны толькі на беларускай мове спявалі. І даволі часта іх трансліравалі. Бо тэхніка ж у немцаў была добрая, мікрафоны ўжо тады былі кандэнсатарныя (і цяпер самым лепшым мікрафонам лічыцца кандэнсатарны!).

**— Значыць, немцы не падводзілі ідэалогію пад музычнае вяшчанне, так? Прынамсі, я разумею, што нацыянальную, беларускую музыку яны не забаранялі.**

— Так-так, не забаранялі. Я б сказаў, што ў адносінах да музыкі немцы былі лаяльныя. Недзе ў канцы 42-га ці на пачатку 43-га года яны прывезлі стацыянарны магнітафон. Туды запраўлялася 1000-метровая бабіна стужкі. Хуткасць, праўда, была 76,2 см/сек. Вось тады яны ўжо запісвалі шмат нашых твораў на магнітафон, потым з гэтага магнітафона вяшчалі. Сказаць, што да беларускай музыкі ў іх адмоўнае стаўленне было, я не магу. Не тое, каб яны яе любілі, але прымалі добра.

**— А ці можна сказаць, што яны насаджалі сваю, нямецкую музыку?**

— Гэта было ў разумных межах. Яны праводзілі такую выбарчую палітыку. Лічылі, што Беларусь у нейкай ступені лепш, чым Расія, і што яна ўжо бліжэй да Захаду. Так што культуру не душылі. Але з партызанамі барацьбу вялі найжорсткую. І ў Мінску былі шыбеніцы, на якіх яны вешалі патрыётаў...

**— Яўген Мікалаевіч, а сімфанічны аркестр якую тады музыку выконваў?**

— У асноўным, беларускую. Бо музыканты ж усе нашы былі! Ігралі яны і творы рускіх кампазітараў.

Нейкі нямецкі мастак у фае Дома радыё на Рэвалюцыйнай ува ўсю сцяну намаляваў карціну, на якой паказаў аркестрантаў за працай. Сярод тых музыкантаў быў кантрабасіст Дзмітрый Мікалаевіч Жураўлёў, які пасля вайны некаторы час працаваў галоўным рэдактарам музычнай рэдакцыі Беларускага радыё. (Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, між іншым, у свой час актыўны аўтар “ЛіМа”, Д. Жураўлёў падтрымліваў цесную сувязь з мінскім гарадскім падпольным камітэтам, быў непасрэдным выканаўцам дзёрзкіх баявых заданняў. — **В. Б.**)

**— Скажыце, а старшыня радыёкамітэта, вашы начальнікі — гэта былі тутэйшыя?**

— Не, немцы. Старшыня ў іх называўся “ляйтэр”. Ляйтэрам быў эсэсавец па прозвішчы Янсен. Ён быў з Прыбалтыкі. Гаварыў па-руску , дарэчы. Але ён да тэхнікі не дакранаўся. Па тэхніцы быў там другі немец — Вернер, сам — вайсковец. А непасрэдным нашым кіраўніком быў цывільны немец, Пауль Болле. Ён заўсёды насіў грамадзянскую форму. Помню, у другой палове 43-га ён часцяком стаў слухаць Лондан. Калі я па вечарах заставаўся ў апаратнай адзін, ён прыходзіў, даваў мне цыгарэту і гаварыў, каб я выйшаў у калідор, як гавораць, “на шухер”. А ён уключаў другі прыёмнік і слухаў Лондан, які ў гэты час вяшчаў на нямецкай мове.

**— А слухаць забаранялася?**

— Та-а-к, ім нельга было гэта слухаць! Ну, я, значыць, стаяў у калідоры, і калі нехта ішоў — ахова СС у нас была, яны правяралі, праходзілі па будынку (ён быў двухпавярховы), ці яшчэ хто-небудзь, — я кашляну, і ён адразу прыёмнік пераключаў.

Быў у яго намеснік, таксама інжынер — Дараган Мікалай, — рускі з сям’і эмігрантаў.

**— Скажыце, а што яны былі за людзі, немцы? Як яны да вас адносіліся?**

— Ведаеце, па-рознаму. Хаця б вось гэты інжынер Пауль Болле. Ён прыстойны чалавек быў, я лічу. Дараган таксама. Але былі і вельмі непрыемныя людзі — эсэсаўскія ахоўнікі. Іх накіроўвалі да нас пасля лячэння ў мінскім шпіталі. Калі яны ачуньвалі, дык траплялі на працу ў ахову. Яны былі вельмі небяспечныя. Аднойчы адбыўся такі выпадак. Я стаю ў апаратнай, і гэты Пауль Болле са мной. А быў ужо 43-ці год, калі нашы самалёты бамбілі Мінск. Усе вокны шчыльна зацямняліся. Раптам забягае начальнік аховы і пачынае на мяне раўці, што я быццам спецыяльна прыадчыніў штору, каб сігнал даць. Накінуўся на мяне, а Пауль Болле на яго накрычаў і выгнаў. Абараніў мяне.

**— Напэўна, у немцаў былі падставы падазраваць кожнага мясцовага жыхара. Бо дыверсіі ж з боку падпольшчыкаў і партызан ажыццяўляліся ледзь не штодзённа...**

— Так. І вось вам толькі адзін прыклад. Я сяджу дома ў сябе на Рэвалюцыйнай і збіраюся на працу ў 2-ю змену, — мне ж побач зусім. І вісіць у мяне на сцяне рэпрадуктар. Раптам чую: “Апошнія паведамленні” маскоўскія ідуць. І прытым выдатна чуваць! Божухна! Як такое магло адбыцца?! Я жведаю, адкуль гэта павінна ісці. Думаю, ну, напэўна, там ужо шум і вэрхал у гэтым Доме радыё! Прыходжу... Не: усё ціха і спакойна. Сядзіць мой напарнік, працуе. Я кажу: “Слухай, ты не чуў?” Кажа, “Не-е-е...” Тады мы зразумелі, што сталася. Нехта з патрыётаў узяў прыёмнік (а яны ж былі забароненыя, у насельніцтва іх адбіралі. А ў падпольшчыкаў было некалькі, я нават рамантаваў некаторыя з іх), — уключыў у лінію, і радыёкропкі шэрагу дамоў прынялі маскоўскую радыёстанцыю. Магчыма, гэта быў усяго толькі мой дом і яшчэ якіх-небудзь адзін-два, бо прыёмнік жа маламагутны, ад яго не магло запрацаваць шмат радыёкропак. Ад сілы 5 ці 10. Але чутнасць была выдатная!

Таму, хто гэта зрабіў, пашанцавала, што немцы не запеленгавалі.

Быў у нас яшчэ такі выпадак. У падпольнай групе мне сказалі, што трэба дастаць камплект радыёлямпаў для прыёмніка ў партызанскі атрад. Яны там спалілі ўсе лямпы мясцовага напалу, уключылі анод...Карацей, лямпы ўсе “вылецелі”. А ў нас была майстэрня, дзе рамантавалі прыёмнікі для немцаў. І такія лямпы былі, канешне. Але я адмовіўся. Шчыра кажучы, мне было вельмі страшна. Я баяўся. Мацік кажа: “Жэня, трэба, трэба гэта зрабіць!” Адным словам, угаварылі мяне. Я, ідучы на абед, зайшоў у майстэрню, — нікога не было, — выняў лямпы, паклаў у кішэню і аднёс на Бетонны мост (раён цяперашняй вуліцы Маскоўскай. —**В. Б.**) сувязному партызанскага атрада. Ну, і вярнуўся на працу. Быццам бы нічога. А ўвечары нас усіх — мясцовых — забралі ў гестапа. Забралі і пачалі дапытвацца, хто ўзяў лямпы. Ніхто не прызнаўся, канешне ж, я таксама. І нас проста выратаваў выпадак, што здарыўся якраз напярэдадні. Я гаварыў ужо, што нямецкія салдаты, якія лячыліся ў шпіталях, запрашаліся на “адкрытыя” канцэрты аркестра ў вялікую студыю. І вось пасля аднаго з такіх канцэртаў гэтыя салдаты, як заўсёды, вярталіся назад праз першы паверх. А там, унізе, жылі немцы.

**— Проста ў будынку Дома радыё?!**



— Так-так, на першым паверсе. Там у іх былі і кабінеты, і жытло. Дзверы не замыкаліся. Яны выстаўлялі ля дзвярэй боты, каб дзяншчыкі чысцілі. І вось ішлі тыя салдаты, і адзін бачыць — прыадчыненыя дзверы, і вісіць кабура, а ў ёй — пісталет. Ён узяў і спёр гэты пісталет, — салдат, немец. Яго злавілі. І вось, калі дапытваліся, хто ўзяў лямпы, гэты выпадак урэшце нас выратаваў, адвёў падазрэнне. Бо майстэрня таксама была на першым паверсе, па дарозе наведнікаў “адкрытых” канцэртаў.

**— Яўген Мікалаевіч, а ці былі потым нейкія рэпрэсіі ў адносінах да вас з прычыны таго, што вы працавалі пры немцах?**

— Немцы далі драла з Мінска за дзеньдва да 3-га ліпеня. Нават паспелі вывезці сякую-такую апаратуру. Нам усім, мясцовым жыхарам, было загадана з’явіцца на зборны пункт у парк Чэлюскінцаў, адкуль нас павінны былі забраць у армію. Я туды таксама прыйшоў, думаў, што патраплю ў войска. А тут раптам едзе машына грузавая, і гляджу — у ёй апранутыя ў вайсковую форму былыя супрацоўнікі радыёвузла, з якімі я працаваў да вайны. Яны ўбачылі мяне і крычаць: “Давай, сюды!” Аказваецца, яны ездзілі і збіралі спецыялістаў радыё, каб аднавіць радыёгаспадарку Мінска. І вось мяне прынялі і далі бронь. Я сказаў, што ўдзельнічаў у рабоце падполля, і Марыя Барысаўна Осіпава, пэўна, пацвердзіла. Мяне не чапалі...

**Запісала Вольга БРЫЛОН, рэдактар Беларускага радыё.**

*На здымку: Я. ГУРАЎ (канец 80-х гг.).*



ЧАСАПІС

## "Наша Ніва", год 1910

Выдавецтва "Тэхналогія" зрабіла ўсім нам добры падарунак — падрыхтавала і выпусціла ў свет трэці выпуск факсімільнага выдання "Нашай Нівы". Пад вокладкамі гэтай прыгожай кніжкі сабраны цэльны камплект "першай беларускай газэты з рысункамі" за 1910 год. Калі выйдуць наступныя выпускі, сёння сказаць цяжка, на гэта трэба толькі спадзявацца. А пакуль што суцешымся



тым, што маем, і парадуемся, што выданне не перапынілася наогул, бо, зважаючы на ўсе акалічнасці і варункі цяперашняга жыцця, магло здарыцца і такое.

Тлумачыць, што такое "Наша Ніва" і якое яна мела значэнне ў гісторыі Беларусі і нашага народа, лімаўскаму чытачу наўрад ці трэба. У многім газета з'явілася, так бы мовіць, пачаткам усіх пачаткаў нашага нацыянальнага адраджэння — моўнага, культурнага, літаратурнага, наогул духоўнага, эканамічнага, сацыяльнага, дзяржаўнага. Пра ўсё гэта "Наша Ніва" пісала, усё гэта нястомна прапагандавала з нумара ў нумар, даводзячы свету, а найперш самім беларусам, што яны — ёсць, што яны не ізгоі на гэтай зямлі, а яе паўнапраўныя гаспадары, што яны маюць сваю слаўную гісторыю, свае здабыткі ва ўсіх сферах народнага жыцця, што яны маюць права, як і ўсе іншыя народы, на прыстойнае, годнае, вольнае, заможнае і шчаслівае жыццё.

Пад вокладкамі гэтай кнігі — часапіс дзевяностагадовай даўнасці. Ды, на жаль, матэрыял колішніх газетных палос не ўспрымаецца як матэрыял гістарычны, як рэха даўно прамінулых дзён. Горка і сумна, аднак жа сёння ў нас у краіне сітуацыя такая, што многія праблемы, пытанні, варункі, канфлікты, падзеі і з'явы, пра якія "Наша Ніва" пісала ў 1910 годзе, быццам перайшлі адтуль у наш час, захаваўшы і сваю вастрыню, і сваю надзённасць. Прынамсі, мы й сёння заклапочаны калі ўжо не дасягненнем незалежнасці, дык зберажэннем, захаваннем гэтай самай незалежнасці і суверэнітэту краіны. Гэтаксама турбуемся мы і трывожымся за стан роднай беларускай мовы і яе будучыні. Гэтаксама перажываем за лёс нашых дзяцей і ўнукаў, бо дзяржава не вельмі турбуецца аб тым, каб яны раслі сапраўднымі патрыётамі Бацькаўшчыны, а не манкуртамі і янычарамі. Гэтаксама баліць у нас душа ад таго, што занядбана наша гістарычная і культурная спадчына, што гістарычная памяць нашага народа ўсё яшчэ застаецца, па сутнасці, прыспанай, неабуджанай, не кажучы пра нацыянальную свядомасць, якая не прыйшла нават да многіх і многіх людзей інтэлігентнай працы. І гэтаксама, урэшце, б'ём у званы бяды, якая мае назоў п'янства і якая пагражае нашаму народу не менш страшнымі, жахлівымі наследкамі, чым чарнобыльская бяда.

Акурат гэтыя праблемы былі ў цэнтры ўвагі нашаніўскіх супрацоўнікаў і чытачоў, акурат яны спараджалі публіцыстычны напал сапраўды народнай, агульнаграмадскай, агульнанацыянальнай першай беларускай газеты.

А калі чытаеш матэрыялы пад традыцыйнымі нашаніўскімі рубрыкамі "У Думе і каля Думы", "З Беларусі і Літвы", "З усіх старон", "Рады для гаспадароў", "З заграніцы", "З нашага жыцця", "З газет" і іншымі, ды згадаеш раптам сённяшнюю "Нашу Ніву", то міжволі ці не пасміхнешся сам сабе. Сённяшняя "Наша Ніва" не мае аніякага дачынення да колішняй...

Факсімільнае выданне "Нашай Нівы" за 1910 год зроблена з паасобнікаў, якія захоўваюцца ў прыватным збораў Янкі Саламевіча і Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

Адказны за выпуск — Зміцер Санько, мастацкае афармленне Алеся Шупляцова, а выканала рэтуш і рэстаўрацыю тэксту, зрабіла дыяпазітывы Наталля Місюсчэнка.

І апошняе. Найтанней для тых, хто захоча набыць трэці выпуск "Нашай Нівы", ён абыдзецца ў краме "Тэхна" (праспект Ф. Скарыны, 81, Беларуская акадэмія мастацтваў).

М. М.

СПАДЧЫНА

# Хто ж яна, Ганна Рубацкая?

*"Гой, цымбалы, вы цымбалы,*
*Струны гучна-звонкі!*
*Шмат вякоў вы паслужылі*
*Для маёй старонкі" —*

спявае выпускніца Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага Ірына Тамковіч. Ліецца прыгожая мелодыя, якую напісала выкладчык вучылішча кампазітар Алена Атрашкевіч на цудоўныя вершы Ганны Рубацкай. "Я стварыла музыку на 5 вершаў Ганны Міхайлаўны, — гаворыць яна. — Бо мы рыхтуемся да 100-годдзя з дня нараджэння малавядомай, але вельмі таленавітай беларускай паэткі".

Хто ж яна, Ганна Рубацкая? Чаму яе вершы цікавяць маладых кампазітараў, якія жывуць сёння ў іншым часавым вымярэнні? Са сваімі пытаннямі я звярнуўся да ўнучкі паэткі — Людмілы Камінскай. Менавіта ў яе захоўваюцца сёння сшыткі вершаў, напісаных уласнай рукой Ганны Міхайлаўны, альбомы, газеты...

Разглядаю здымак, зроблены шмат гадоў таму фатографам-аматарам. З фотакарткі ўсміхаецца жанчына з добразычлівымі вачамі. Гэта пра яе, Ганну Міхайлаўну Рубацкую, пісаў у кнізе "Песню ў спадчыну" вядомы даследчык-фалькларыст Арсен Ліс, які вельмі цікава расказаў пра незвычайную душу народнай спявачкі, захавальніцы беларускай песеннай спадчыны з Валожынскага раёна. Невыпадкова яе імя ён паставіў побач з імёнамі такіх асветнікаў і дзеячаў культуры, як Міхал Клеафас Агінскі, Антон Грыневіч, Усевалад Ігнатоўскі. Больш за 100 песень запісаў Арсен Ліс ад Ганны Рубацкай. Але не шмат людзей сёння ведае, што Ганна Міхайлаўна пакінула не толькі песенную, але і паэтычную спадчыну.

Ва ўжо сталым узросце, пасля 50-ці гадоў і да канца дзён сваіх яна пісала вершы. І як пісала! Вось адзін з іх:

### Мае вянкі

*Збірала я з ніваў шырокіх*
*Блакіт васількоў сінявокіх*
*І шэпаты спелага збожжа —*
*Яны так заўсёды прыгожы!*

*Збірала вясёлкі з-пад хмары*
*І месяца ціхія чары,*
*І сонца пяшчотныя ласкі,*
*І пахі мядовае краскі.*

*Збірала я гутаркі бору,*
*І спевы птушынага хору,*
*І пахі чаромхі вясенняй,*
*Багацце ўраджаяў асенніх.*

*Збірала гасціннасць у хатах,*
*У ружах — красу і ў дзяўчатах.*
*Кахання ўзаемнага шчасце*
*І храбрасць людзей у напасці.*

*Вось гэдак я, ходзячы ўсюды,*
*Збірала тут красачкі-цуды.*
*Вясною, улетку і ў зімы*
*Вяночкі віла для Радзімы.*

Ганна Рубацкая нарадзілася ў вёсцы Журоўцы на Валожыншчыне ў 1900 годзе, як яна гаварыла — на сёмуху, у вялікай



сялянскай сям'і, і ўсяго некалькі гадоў не дажыла да новага тысячагоддзя. Закончыўшы толькі царкоўнапрыходскую школу, яна мела вельмі шырокі кругагляд. І тут нельга не ўспомніць людзей, якія паўплывалі на яе свядомасць.

Адзін з іх — брат Рыгор, быў на той час адукаваным чалавекам. Закончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Прайшоў І-ю сусветную афіцэрам, быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам, у сталінскі час зведаў рэпрэсіі.

Другі брат — Андрэй — ездзіў на заробкі ў замежжа. Ведаў іспанскую і англійскую мовы, чытаў у арыгінале Хемінгуэя. Прачытаў амаль увесь збор валожынскай бібліятэкі.

Усе падзеі 20 стагоддзя адбіліся на лёсе Ганны Міхайлаўны. Спачатку жыццё нібы ўсміхнулася ёй. У 15-гадовым узросце трапіла ў Пецярбург. Працавала на ваенным

# ТРЫ ЭЛЕГІІ ДЗЯЦІНСТВА

*(Праціг. Пачатак на стар. 9)*

Сяджу на пракапцелай, як заўжды пры чыгунцы, не мяккай, а шархоткай мураве — і ведаю: інтэрнат блінамі не сустрэне. Ды і студэнцкая сталоўка з маннай кашай — па таннасці, тэфтэлямі і жыдзенькім чаем сёння мяне не дачакаецца: пазнавата...

Ну, і такое, на маю развагу, бяды!.. Сёння ў мяне — радасць. І не маленькая, калі разабрацца сур'ёзна. Я навучыў дзяцей — цэлы клас: трыццаць пяць па журнале — чытаць словы з літарай, падобнай на брамку з вясёлым хвосцікам на левым вушаку — унізе...

Але пакуль тыя "брамка" ды "хвосцік", я "цягнуў", "выдзяляў" гук: "л-л-лапа...", потым змякчаў: "л-л-лета...". І, нарэшце, калі ўвесь клас дружна ласкатаў разам са мною "л-л-л...", я паказваў "партрэт" гэтага самага "л" — "брамку" з "хвосцікам"...

А калі — на замацаванне вывучанага — я пачаў шукаць з дзецьмі адпаведныя словы, не прамінуў спытацца: "А як называецца ваш паўстанак?", спадзеючыся, што нехта прыгадае: у навакольных вёсках яго пайменавалі Лясным... Аднак гэтага я не пачуў. І толькі адна дзяўчынка асмелілася: "А яго ніяк не завуць: ён ніякі, ён — "літарны"...

— "Літарны"? — ухапіўся я, нібы тапелец за саломінку, — ну, то і добра: "л-л-літарны" — пачаў, як гумку, расцягваць гук... І каб падахвоціць дзяўчынку і аддзячыць пэўным чынам за філалагічную падказку, спытаўся: "А як жа цябе завуць?.." Спытаўся, бо ўсяго адзін-два разы прачытаўшы па журнале іх імёны і прозвішчы, я — практыкант з педвучылішча — не мог пры ўсім маім старанні запомніць кожнага. Хоць — па законах педагогікі! — павінен быў разумець: дзеці і дапусціць не маглі, што пасля такога — па спісе — знаёмства, я раптам каго-небудзь ды не ведаю!..

Але... Але — дзяўчынка прамовіла, зноў жа, выратоўнае: "Лена"...

— Ну вось і выдатна: "Л-л-лена..." — мне — ну не бог, а нейкі таемны Ушынскі — падсоўваў прыклады "для замацавання матэрыялу"...

І цяпер я сяджу на мураве "л-л-літарнага" паўстанка, засакрэчанага адсутнасцю назвы, чакаю свайго "прыгараднага" і зусім не здагадваюся...

Ды і адкуль ім быць, тым здагадкам?..

А "замацаваная" літара ўжо займела сваё, асабістае і таемнае, жыццё...

Пра гэта даведаўся я напрыканцы навучальнага года, калі атрымаў зусім нечаканае і зусім кароценькае пісьмо, — усяго адзін сказ, які самотна — ці не шаптаў: "Мы сумуем па вас..." І подпіс — "Лена"...

Літара "Л" хацела схавацца за выратоўнае "мы"... І не магла схавацца...

Колькі гадоў — не адзін дзесятак, — хоць і зрэдку, праязджаю я гэтай чыгункай. Як і тады, ля платформы не сцішаюць разгону дальнія. У горад і з горада, як і тады, едуць, спяшаюцца людзі, — толькі ўжо іх вязе прыткая электрычка. Усё, як і тады, не відно з дарогі "літарнай" будыніны, хоць і вайскоўцаў, здаецца, там даўно няма: часткі расфармавалі.

Раз'ехаліся афіцэры-бацькі. Паехала са сваім і Лена. Пэўна ж — паехала...

Бо пісьма адтуль больш не было...

Усё, як і тады...

Як і тады, радуюся я, што навучыў першакласнікаў — і Лену таксама — чытаць словы з літараю "л"...

Усё, як і тады...

Толькі ведаю — пісем адтуль мне ніхто не напіша... Не бывае пісем з юнацтва...

*1957...99*

## Ці помніш ты?

Табе ўжо хутка дзесяць. І табе — насуперак часу і нашай старэчай развазе — вельмі хочацца быць дарослым.

І мы не пярэчым: няхай сабе дужэюць крылы...

Як не пярэчыў і ты, калі цябе аднойчы паклалі спаць і раптам ты заўважыў, што ніхто побач не кладзецца і не збіраецца класціся...

Ты не пярэчыў. Але сярод ночы я пачуў нечакана цупкае тупанне.

Так, бывала, бегаў у нас па хаце прынесены з лесу вожык: днём таіўся, а з цемнатою і соннай цішынёй пачынаў мітусіцца ад падпечча да парога, потым аж да покуці — і гэтак нястомна і настойліва, і з надакучлівым і даволі цяжкім — не па вожыкавай моцы і не па лапах ягоных, такіх мяккіх, — гоцаннем... Зрэшты, можа, так здавалася ў начной цішыні... Але вожык не спаў: ці ён вынюхваў што-кольвеч перакусіць, ці — і гэта было бліжэй да ісціны — шукаў выхаду, выведваў лаз на волю... Бо часцей — чутно было — спыняўся каля парога і стоена замаўкаў... Іншы раз прыўзнімаўся на заднія лапкі, быццам — пярэднімі — да клямкі цягнуўся...

Так і твае голыя пяткі спыніліся на зябкай падлозе — суцішыліся ля майго ложка... І гэтак спрытна, амаль нячутна шмыгнуў ты пад коўдру, абхапіўся абедвума рукамі за маю шыю... Мы ні слоўцам не абмовіліся тады... Мы так глыбінна незразумела адчувалі і — разумелі — адзін аднаго...

А назаўтра мы зноў адлучалі твой сон ад майго, адвучалі цябе ад мяне... ці наадварот?..

Як адвучаў цябе раней я, смяючыся: колькі ж ты будзеш спаць з мамай, — мужчына?..

А цяпер — во...

Табе ўжо хутка дзесяць... І перад нахлынуўшымі клопатамі "дарослымі", ты, як і ўсе дзеці, адлятаеш, адлучаешся ад тых маленькіх дробязяў, якія застаюцца з намі, у нашай старэчай памяці — светлымі агеньчыкамі развітання... Назаўсёды — і з надзеяй...

Ці помніш ты?..

Ці помніш — як усё пачалося?..

Ды не — дзе ж табе помніць, калі ў хвіліны тыя яшчэ і ўцяміць ты не мог, дзе "абыходзішся": у якім такім свеце, — і толькі чомкаў вуснамі ды падаваў голас: "Я тут, я з вамі..."

Тады і спрэчкі, відаць, былі — хоць я пра гэта, далібог, не ведаў: як найменаваць цябе, якімі зямнымі гукамі адзначыць тваю "прывязку" да нас ці нас да цябе, — ну, словам, каб ты разумеў, што ты — гэта ты і гукаем мы цябе, а не каго-небудзь іншага...

А спрэчкі, як заўсёды, канчаюцца нечакана і трывіяльна проста. Назвалі цябе Васем. Я, скажу, не тое што здзівіўся ці ўзрадаваўся, але і супраць нічога не меў: "Вася дык Вася..." — будзем цёзкамі!

Імя, як кажуць, людскае, звычайнае. Ды, зрэшты, кажуць яшчэ і так: "Не імя чалавека красіць..."

Ці помніш...

Ты спаў бестурботна, а я — свае грэшныя дні бяссонна перабіраў: каго абманіў і пакрыўдзіў, зняважыў і здрадзіў каму. Яшчэ да Суда, што Страшным завецца, далёка было, ой, далёка... А я — шукаў апраўданні, а я — можа, і праклінаў сябе...

І ў гэты час ты заплакаў. Ты моцна спаў, але ўсхліпы, бясслёзныя і сухія, цябе праціналі дрыготна...

Я гладзіў цябе па галоўцы, шаптаў нязвязныя словы, каб раптам не разбудзіць, а толькі — праз сон — супакоіць.

заводзе, але вымушаная была вярнуцца ў родную вёску да старэнькай матулі, якая неўзабаве памерла. І на плечы 17-гадовай дзяўчыны лёг увесь цяжар сялянскага жыцця. Даводзілася рабіць ад ночы да ночы і жаночую, і мужчынскую працу.

Ваенныя нягоды, смерць дачкі і 59-гадовага мужа, тры пажары, якія знішчылі нажытае цяжкай сялянскай працай, — усё вытрывала гэтая дзівосная жанчына і захавала светлае ўспрыманне жыцця, захавала добрую, шчырую душу. Яе вочы ўмелі глядзець і бачыць, а вушы — слухаць і чуць: галасы Радзімы і родных краявідаў, людзей вакол сябе.

У 1958 г. у Валожынскай газеце "Працоўная слава" ўпершыню былі надрукаваны яе вершы. Калі ёй было ўжо за 50, яна зрабілася апантаным супрацоўнікам гэтай газеты. Слухаеш, думаеш і дзіву даешся: адкуль у простай сялянскай жанчыны, змардаванай цяжкай працай, такое тонкае ўспрыманне жыцця? Паэзія Ганны Рубацкай — светлая, узвышаная. Тэмы падказаны самім жыццём. Яна пісала лірыку, апявала тэму Радзімы, складала байкі.

У сталым узросце Ганна Міхайлаўна пабывала ў Сочы, Дагестане, Летуве і гаварыла, што лепей за яе родную Беларусь на свеце нічога няма...

А колькі жыццёвай мудрасці, сакавітага гумару ў байках Ганны Рубацкай, якой "смачнай" мовай яны напісаны! І ў ніводным вершы няма скаргі на незайздросны лёс. Толькі дабрыня і цеплыня, любоў да роднай зямлі і ўсяго жывога на ёй.

*Люблю цябе, мая Радзіма,*
*Што ты на свет мяне радзіла.*
*Вадой крынічнаю купала,*
*Бялюткім лёнам спавівала.*
*На беразінцы калыхала*
*І песні родныя спявала.*
*Грудзёй зямлі сваёй карміла*
*І роднай мове навучыла.*

*Таму я вельмі ганаруся,*
*Што беларускаю завуся.*

Ці вось яшчэ:

*Люблю я дзень сонечны маю*
*І ў цвеце садок каля хаты.*
*Люблю, як гармонік зайграе*
*І песні спяваюць дзяўчаты.*

*Люблю углядацца ў аблокі,*
*Плывуць што у ясным блакіце.*
*І поле не змераеш вокам,*
*Дзе хвалі гайдаюцца ў жыце.*

*Люблю, як на лозе прысеўшы,*
*На ранку кукуе зязюля.*
*Люблю я той край, дзе раз першы*
*У грудзі паветра ўдыхнула.*

*Люблю, калі статак прыходзіць,*
*Чутно ўжо здалёку мычанне,*
*Люблю калі зоркі ўзыходзяць*
*І мілы ідзе на спатканне.*

Вельмі ўражваюць вершы, напісаныя дрыготкай рукой у апошнія дні жыцця паэткі:

*Зышліся ў клін мае дарогі.*
*Стаю на ўскрайку вечнага сяла.*
*Ў жыцці я працавала многа,*
*А што людзям пакінуць я змагла?*

Ганна Міхайлаўна пакінула вечную памяць пра сябе. Яе вершы жывуць і будуць жыць. Да іх звяртаецца самадзейны кампазітар Іосіф Сушко. І, безумоўна, ён не будзе адзіны ў гэтай справе.

І толькі застаецца здзіўляцца, чаму да гэтага дня не выдадзена спадчына гэтай легендарнай жанчыны — Ганны Міхайлаўны Рубацкай...

**Іван ЦІТАВЕЦ**

*На здымку: Ганна Рубацкая падчас выступлення ў Маладзечанскім музычным вучылішчы. Фота канца 60-х.*

---

А ты — так няўцешна плакаў. І я закрычаў — шэптам: прачніся!...

Твой сон абарваўся. Галоўку тваю на руках я трымаў. А сам... Сам — быццам... быццам гэта я прачнуўся... Не, трошкі не так: быццам гэта ты бачыў мой сон, сніў яго за мяне, і пакутаваў за мае правіны, — няхай сабе і ў сне, але — пакутаваў... Як адбываў тыя грахі, якімі я награшыў і пакінуў табе ў спадчыну, перадаў у генах...

Ты няўцямна расплюшчыў вочы. Яшчэ не ўсведамляючы: дзе ты, на якім свеце?.. І мне так карцела спытацца: што бачыў ты, што давяло цябе да слёз?.. Але — ты ўсміхнуўся шчасліва і зноў упаў на падушку...

Успомні: што бачыў ты, Вася?..

Не — лепей не ўспамінай...

А ці помніш ты — я гэта дужа добра помню: як ля самай выпадковай, маленькай елачкі, дзе грыбамі і не пахла, ты спыняўся з самым сур'ёзным намерам і чаканнем і пачынаў — не аббягаючы дрэўца, а стоячы на месцы і зазіраючы то з аднаго боку, то з другога (рыхтык у дзіцячай гульні: упільнаваць і "застукаць" з-за вугла), — пачынаў шукаць "баравіка"... Пра іншыя грыбы ў цябе і думкі не было:

***Кош не кош у грыбніка,***
***Як няма баравіка... —***

Гэта тады склалі мы на гэты конт вершык... І не адзін — а цэлую кніжку... Радок за радком, напераменку — назбіралі: па ельнічку, па бярэзнічку...

Але мэта была галоўная: баравік!.. Калі ж ён не паказваўся з-за тае елачкі ні справа, ні злева, ты пачынаў прысядаць: ты помніў навуку — глядзі пад лапкамі...

Ці помніш, як беглі мы ў далёкі — на самым небасхіле — пералесак?.. І верылі — я, стары, і ты, малы: чым далей, тым большаю будзе ўдача...

Беглі: напрасткі, цераз поле, па мокрай пасля дажджу — у пояс — пшаніцы. Табе ж — дык і па шыю было. І таму — я паставіў цябе "вядомым", а мне, "вядучаму", заставалася галоўнае: асноўную макрэчу я забіраў на сябе... Хоць хапала і на тваю долю...

А прыбеглі — узгаек той аказаўся ледзь не звалкай: за ім разбягаўся паўкружжам уніз і на два бакі "бізнесбуд" — катэджы і паўкатэджыкі, — не ў прыклад нашым, лысагорскім... А ўвесь хлам і друз прыняў пад свае злінялыя шаты бедны лясок...

Я, як мог, суцяшаў цябе, абяцаў паправіць няўдачу на новым месцы. І вучыў — наперад, каб запомніў...

Едзеш, бывае, на машыне ці глядзіш з вагоннага акна — кожная купка дрэў, кожны лясок вабяць да сябе і зелянінай, і ціхім гайданнем верхавін, калі бярэцца на вецер, і чырвоным гуканнем залётніку — іван-чаю, і жоўтым ці белым, нізавым, між альхоўніку, разлівам кураслепу...

А спыніся, зайдзі — і нярэдка пабачыш: усё гэта толькі маскіроўка — для далёкага вока... Пабачыш: шмаццё паперы ад абгортак, рэшткі балявання, схаванага — камусьці здавалася — надзейна пад кустом і расшкуматанага вараннём; пабачыш бутэлькі — добра калі яшчэ цэлыя, а то ж ёсць пачвары: ударыць аб камель ці пень, каб выбухнула, каб аж іскры шкляныя пасыпаліся... Дзе ўжо тут грыбы, дзе ўжо ягады...

І толькі засмучэнне застаецца. Надоўга, а то і на ўсё жыццё...

І бывае такое не толькі з лесам. З людзьмі таксама бывае...

Ці помніш: прыехаў я на Лысую гару, ты сустрэў мяне плачам: "Слаўка-чорнагалоўка памёрла... Шкада яе: ляжыць на спінцы —і лапкі белыя..."

Вось што ўразіла цябе — дэталь, лапкі белыя... А мяне яшчэ больш уразіла: як ты г э т а заўважыў?..

Шкада было слаўкі: пражыла ў нас птушачка з дзесятак гадоў... І ніхто не заўважаў, а раптам адкрылася: лапкі белыя...

О-о, смерць многае адкрывае... Не толькі рукі на грудзях...

У нас, як і ва ўсіх гараджан, не было з табою гарышча — з духмяным сенам і з празорынамі ў страсе, каб цікаваць начное неба... Але было ў нашай лысагорскай хаце паддашша (другі гарызонт!); і была нашая "пасцеля" (спаць, мы ўжо згадвалі, любіў ты і "ўважаў" толькі са мною — і ўсе дамашнія чамусьці дужа радаваліся гэтаму); і было на ярусе нашым акно, а праз яго — ці помніш? — кожны вечар на кожнае засыпанне нашае глядзела зорка... Не дужа яркая, але пастаянная, — наша.

Не ведаю, хоць многія зоркі спазнаў, як яна называецца, а таму і табе не мог сказаць. Як і цяпер сказаць не магу, бо ты ўжо аддаеш перавагу сну ў самастойнай адзіноце. А я ў сваёй адзіноце, хоць і прымерваюся да нашага ўтульнага ложка, пабачыць зорку тую без цябе ніяк не магу: то хмары напаўзуць на неба, то я прылягу доле, не залазячы "на куросанне", — бліжэй да зямлі...

Будзе час — ты знойдзеш зорку: сваю, і нябесную, і зямную... А мне ўсё будзе карцець пытанне: а ці помніш ты тую — нашу?..

Адкажы, калі будзе табе васемнаццаць...

*1999*

---

АДГАЛОСКІ

# "Песні з турмы" на нашым полі

Артыкул Івана Лепешава "Ён прыняў зло, або Пра Купалавы песні з турмы" ("ЛіМ", 31 снежня 1999) прымушае чытача зноў задумацца над трагічнымі старонкамі гісторыі нашай літаратуры сталінскай эпохі. Доўга мы яшчэ будзем шукаць надзейных ацэнак рэальных паводзін і творчасці кожнага пісьменніка ў час, калі няшчадны дамоклаў меч пагрозліва вісеў над галовамі не толькі дзеячаў літаратуры і мастацтва, але і любога грамадзяніна. Не ратавалі тады людзей ні вышэйшыя воінскія званні, ні партыйныя білеты, ні пацверджаныя звесткі пра ўдзел у змаганні на франтах грамадзянскай вайны за ідэалы Кастрычніка, ні дасягненні ў галіне навукі, эканомікі, вытворчасці. А што датычыць мастацкай літаратуры, як і наогул усёй ідэалагічнай сферы, дык яна знаходзілася пад асабліва пільным наглядам адпаведных службаў і інстанцый.

Было ўсё тое і ў Янкі Купалы, пра што пішацца ў артыкуле. Але ў сувязі з той гаворкай я хачу звярнуць увагу на адну купалаўскую "песню з турмы", напісаную ў 1934 годзе — на верш "На нашым полі":

*На нашым полі,*
*Полі калгасным,*
*Дзянькі праходзяць*
*Весела, ясна.*

*Дружна працуем*
*Мы грамадою,*
*Знацца не знаемся*
*З горам, з бядою.*

Вось якая ідылія! Пільнае вока надзейных ахоўнікаў абсалютнай чысціні пралетарска-калгаснай ідэалогіі нічога шкоднага тут не здолела б заўважыць, ні ў чым аўтара не магло б западозрыць. Але ці выпадкова пачатак тут такі ж самы, як і ў адным вершы, створаным яшчэ ў 1919 годзе? Вось параўнаем:

*На нашым полі*
*Растуць бадылі, —*
*Ніхто іх не поле,*
*Не вырве з зямлі.*

*Над нашай нівай*
*Крумкачуць груганы, —*
*Ніхто ў іх шчаслівай*
*Не пусціць стралы.*

*На нашым лузе*
*Гадзюкі шыпяць, —*
*Ніхто іх не хлудзіць,*
*Не гоніць у гаць.*

. . . . . . . . . . . . . . . . .

*У нашым краі*
*Пануе чужак,*
*Ніхто не парае,*
*Пазбысціся як.*

Верш гэты друкаваўся ў 1930 і затым у 1932 годзе, у выданнях, даступных чытачу на працягу ўсіх 30-х гадоў. Новы ідылічны твор усім сваім зместам небывала ўзнёсла супрацьпастаўляў найсвятлейшую калгасную яву колішняй рэчаіснасці. Але ён непазбежна адраджаў у памяці чытачоў, асвяжаў і той папярэдні верш, ратуючы яго ад забыцця. І тут кожнаму чытачу сумленне павінна было падказаць, якому вершу больш верыць. А сам аўтар меў надзейную магчымасць перад любым цэнзарам апраўдацца, калі б нават хтосьці тут што і западозрыў.

Так вось нават бездакорная для тагачаснай эпохі ідылія магла выклікаць у чытача адпаведныя асацыяцыі. А між тым у савецкі час з'яўляліся творы, у якіх можна было і сапраўды дашукацца крамолы. Такое дастаткова выразна назіраецца ў 20-я гады, асабліва ў пачатку.

Яшчэ не так даўно цэнзура называлася экзатычным слоўцам "галоўліт". І хоць яна была непараўнальна больш пільнай за сваю папярэдніцу, аднак і яна давала прамашку. Ну, скажам, у 20-я гады яна яшчэ станавілася на ногі, нарошчвала крыллі, і не адразу ёй удавалася зразумець сэнс такіх твораў, як, напрыклад, апавяданне Міхася Зарэцкага "Адна партыя ў шашкі". Тут словы "бандыт" і "пан" ужываюцца як раўназначныя. Можна падумаць, што кожны бандыт з'яўляецца панам, а кожны пан — бандытам. Але калі параўнаць постаці і паводзіны чырвонаармейскага камандзіра Асначa і палоннага пана, то азначэнне "бандыт" больш адпавядае вобліку першага з іх. Аснач застрэліў арыштаванага ім пана, бо той адважыўся выйграць у яго ў шашкі:

"Аснач прайграў. Аснач паддаўся варожаму пану...

Узняўся Аснач. Упяў погляд проста ў твар пану. У гэтым поглядзе нешта гарэла, бушавала шалёнае, лютае.

Пан таксама ўстаў. Смела глядзеў у твар Асначу, усміхаўся зларадасна".

За такую знявагу, варожую вылазку чырвонаармейскі камандзір не мог не застрэліць свайго класавага ворага.

А як такая расправа магла б ці павінна была б успрымацца нармальным чытачом, якую ступень маральнай дэградацыі Асначa яна засведчыла? І каго тут можна было б палічыць бандытам перш за ўсё? Аднак пакуль што цэнзурныя наглядчыкі яшчэ не давалі рады ўцяміць, як выглядаюць у такіх сцэнах змагары за ідэалы Кастрычніка. Або якія пачуцці ў звычайнага чытача могуць выклікаць паводзіны чэкісткі Марыны Гарновай, якая сваю ідэйную непахіснасць засведчыла тым, што падпісала смяротны прысуд роднаму брату (апавяданне "Кветка пажоўклая").

У 30—50-я гады галоўлітаўскія ястрабы ўжо надзейна апёрыліся і ўсё часцей даказвалі, што яны з вялікай адлегласці пралетарскім чуццём распазнаюць вылазкі класавага ворага. І тым не менш здрадлівы лёс не заўсёды аберагаў іх ад прамашак.

Вось мы чытаем славуты, хрэстаматыйны раман Кузьмы Чорнага "Трэцяе пакаленне". Ёсць у ім цікавая сцэна, сапраўдны сэнс якое раскрыў час. Працавіты і заможны селянін ("кулак") гаворыць чырвонаармейцу Кандрату Назарэўскаму: "Іншаму здаецца, што калі хто што мае, дык гэта з неба гатовае скінулася. Я некалі, як прыйшоў быў з салдатаў, то мне казаў сам прыстаў, каб я ў стражнікі падаваўся, але я не захацеў, бо ў мяне натура такая, што не магу з бізуном або з штыхом над чалавекам стаяць. А паліцэйскі з гэтага хлеб еў". Ды яшчэ вядома, як у савецкі час магла ўспрымацца мара Скуратовіча пра "законнае ўсталяванне": "Перш за ўсё павінна быць цвёрдая назаўсёды ўлада, каб чалавек не дрыжэў, што з'явяцца і забяруць, што ты маеш". Так пісалася праз кароткі час пасля калектывізацыі і раскулачвання. Па сутнасці Скуратовіч выносіць нечаканы прысуд усёй будучай кар'еры свайго спадарожніка. І што б такім выказванням пазней ні супрацьпастаўлялася, час даказаў, што праўда была на баку Скуратовіча. Той жа Назарэўскі ў будучым стаў не нейкім там стражнікам, а чэкістам. Праўда, толькі праз дзесяцігоддзі, пасля карэнных перамен у жыцці нашага грамадства, можна было на ўвесь голас гаварыць, хто такія чэкісты. Ды і сам аўтар праз нейкі час добра гэта адчуў, пабываўшы ў іх кіпцюрах.

Можна таксама знайсці ідэйную прамашку — у святле патрабаванняў вышэйшых прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму — у коласаўскай трылогіі "На ростанях". Сябры Лабановіч і Турсевіч вядуць дыспут пра рэвалюцыю. Турсевіч, які настойліва хоча дакапацца праўды, разважае: "Усякай праяве на свеце свой час. Дзіця не робіцца адразу дарослым чалавекам (...). Ты ведаеш апавяданне са школьнай хрэстаматыі, як хлопчык раскрываў пупышкі, бутоны кветак, каб яны хутчэй зацвілі на клумбе. Раскрыў іх не ў пору, і кветкі загінулі". Лабановіч, як герой ва ўсіх адносінах бездакорна станоўчы (чаго ніхто не стане аспрэчваць), абвяргае свайго сябра. Апошняе слова аказваецца за ім. Але бледна выглядае яго аргументацыя, хоць яна і падмацоўваецца ўзаконенымі трактоўкамі праблемы.

Гісторыя літаратуры 20—50-х і пазнейшых гадоў яшчэ чакае ўдумлівага асэнсавання. У ёй быў не толькі ружовы туман, узведзеная ў закон фальсіфікацыя. Нашым даследчыкам не шкодзіла б пазнаёміцца з кнігай Антона Адамовіча "Супраціўленне саветызацыі ў беларускай літаратуры", апублікаванай у 1958 годзе на англійскай мове. Калі б не гэтая кніга, то ці ведалі б мы сёння хоць бы такія небывала каларытныя радкі Кандрата Крапівы:

*У твае, браток, кабылы,*
*Заўважаюцца ухілы:*
*Хвост направа, служыць крыва,*
*А налева звісла грыва.*

*Што ты, браце, што ты, мілы:*
*То ж не гора — благадаць.*
*Каб не гэтыя ухілы,*
*То б і цэнтры не відаць!*

Сёння можна сцвярджаць з усёй упэўненасцю: Янка Купала сваімі "песнямі з турмы" дасягнуў таго, што сам ён застаўся ў літаратуры, у жыцці, у свядомасці людзей. Заставалася яго спадчына, найкаштоўнейшыя здабыткі мінулых дзесяцігоддзяў. А ў цэлым, як бы там ні было, але беларускамоўная літаратура зберагла ідэю беларушчыны ад небыцця, падрыхтавала аснову для грамадскіх пераўтварэнняў, якія адбыліся ў 90-я гады. І сёння ацэньваць літаратуру 30—50-х гадоў мы абавязаны з улікам тагачаснай гістарычнай сітуацыі і рэальных магчымасцей пісьменнікаў, шэрагі якіх так няшчадна працярэбліваліся злачыннай сталінскай інквізіцыяй.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

---

**Творчая суполка "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў выказвае шчырыя спачуванні сябру рады суполкі Уладзіміру КРУКОЎСКАМУ з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці бацькі.**



# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

Травень на БТ прайшоў у разнастайных прэм'ерах. Малады генеральны прадзюсер Ягор Хрусталёў наважваецца зрабіць з тэлеканала "цукерку". Але прэм'еры аказаліся так сабе. Адно што пару фільмаў небла—гіх паказалі. А вось прэм'ерныя ток-шоу "Адысея каманды Кухто" ды "Будні" з папулярным радыёвядучым Кузіным — выбачайце... Так, ідэі добрыя, хоць і зусім не арыгінальныя (у той жа Расіі такіх праграм проста процьма), і студыйны антураж быццам прыстойны і не шэры, але не глядзіцца. Напрыклад, у "Буднях" тэмы анансуюцца, ох, якія вострыя і смелыя, але на змесце перадача атрымліваецца абсалютна не надзённая...

*5 чэрвеня, панядзелак, 13.15* — да 50-годдзя драматурга Аляксея Дударава можна будзе паглядзець першую частку спектакля "Вечар" Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.

*16.05* — "Таямніца гексаграмы", тэленарыс пра мінскіх мастакоў мужа і жонку Кароткіных.

*6 чэрвеня, аўторак, 13.10*— другая частка спектакля "Вечар".

*8 чэрвеня, серада, 16.25* — "Край верасоў", тэленарыс пра вілейскага паэта Івана Лашутку.

*10 чэрвеня, субота, 12.35*— "Кнігазбор" традыцыйна пазнаёміць з беларускімі кніжнымі навінкамі. У гэты дзень расповед пойдзе пра альбом "Веткаўскі музей народнай творчасці", пра казкі і апавяданні Алеся Савіцкага "Дзівосы Лысай гары" і кнігу Віктара Скорабагатава пра старадаўнюю музыку "Зайгралі спадчынныя куранты".

*11 чэрвеня, нядзеля, 15.10* — "Беларускі дом" з сюжэтамі пра выставу партрэтаў беларускіх пісьменнікаў у Дзяржаўным літаратурным музеі; пра унікальны Мазырскі парк адпачынку; да 65-годдзя пісьменніка Васіля Зуёнка і да 100-годдзя з дня заснавання Пушкінскай бібліятэкі.

**КАНЦЭРТЫ**

*7 чэрвеня* — у Чырвоным касцёле у тэатры "Зьніч" адбудзецца вечарына-прэзентацыя песеннага альбома "Як яна і я..." і новай кнігі вершаў "Радно" паэта і барда Эдуарда Акуліна.

*9 чэрвеня* — у к/з "Мінск" выступяць Аляксей Шадзько і гурт "Сястра".

*13 чэрвеня* — у Палацы Рэспублікі канцэрт этна-рок-гурта "Плато" з удзелам тэатра пластычнага гратэску "Жэст" і Масуда Талібані з Курдыстана.

*21 чэрвеня* — у лёдавым Палацы спорту будзе граць гурт "Ляпіс Трубяцкой".

## Неба і Зямля Фердынанда

Фердынанд Рушчыц (1870—1936) унёс важкі ўклад у беларускае, польскае і літоўскае выяўленчае мастацтва канца XIX — пачатку XX ст. Мастак плённа працаваў у жывапісе, друкаванай графіцы, тэатральна-дэкаратыўным мастацтве, быў выдатным педагогам. Ф. Рушчыц застаўся непераможным лідэрам развіцця стылю "Сецэсія" ў вялікім рэгіёне Усходняй Еўропы.

Адзін з самых яскравых выпускнікоў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, вучань Куінджы і Шышкіна, прафесар Кракаўскай акадэміі мастацтваў, прафесар Віленскага універсітэта, жывапісныя і графічныя творы якога набывалі Траццякоў і Марозаў, знайшоў пачэснае месца ў мастацкай калекцыі Ватыкана. Мастак нарадзіўся недалёка ад Валожына, у Багданаве. Тут, на сваёй Радзіме, ён плённа працаваў і скончыў свой век.

У сувязі з правядзеннем у студзені—лютым 2001 года выстаўкі, прысвечанай пяцігоддзю з дня заснавання Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва (1995—2000), прэзідыум акадэміі запрашае да ўдзелу ў ёй акадэмікаў грамадскага аб'яднання, сваіх стыпендыятаў. Выстаўка будзе разгорнута ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі БСМ. Экспазіцыя пройдзе ў межах праекта "Беларускае мастацтва на мяжы тысячагоддзяў" і мае назву "Неба і зямля Фердынанда" (да 130-годдзя з дня нараджэння Фердынанда Рушчыца).

## У Доме літаратара

**8 чэрвеня.** Літаратурныя чытанні ў Палацку.

Пасяджэнне бюро секцыі прозы.

**10 чэрвеня.** Пасяджэнне прыёмнай камісіі СБП.

**15 чэрвеня.** Вечарына да 60-годдзя А. Варановіча (бібліятэка Я. Купалы).

**22 чэрвеня.** Вечарына да 100-годдзя К. Чорнага (Нацыянальная бібліятэка, 15.30)

**27 чэрвеня.** Вечарына да 75-годдзя Л. Арабей (бібліятэка імя Л. Талстога).

**27 чэрвеня.** Пасяджэнне секцыі крытыкі.

**28 чэрвеня,** 15.00, Саюз пісьменнікаў. Вечарына да 95-годдзя П. Броўкі (сумесна з музеем П. Броўкі).

## Беларускі універсітэт культуры

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ АСПІРАНТАЎ НА 2000 ГОД**

**з адрывам і без адрыву ад вытворчасці па спецыяльнасцях:**

*05.25.03* — Бібліятэказнаўства і бібліяграфазнаўства

*13.00.05* — Тэорыя, методыка і арганізацыя культурна-асветніцкай дзейнасці

*17.00.09* — Тэорыя мастацтва

*24.00.01* — Тэорыя культуры

*24.00.03* — Музеязнаўства, кансервацыя і рэстаўрацыя гісторыка-культурных аб'ектаў

***Правілы прыёму — агульныя. Прыём дакументаў да 20 верасня 2000 года. Уступныя экзамены з 1 па 30 кастрычніка 2000 года.***

***Дакументы накіроўваць па адрасе: 220001, г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17, аспірантура. Даведкі па тэлефоне 222-83-41.***






Малюнкі А. ГУРСКАГА.







## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ СТУДЭНТАЎ**

У Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі прымаюцца асобы, якія маюць сярэднюю адукацыю: грамадзяне Рэспублікі Беларусь і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, а таксама асобы, якія пастаянна пражываюць у рэспубліцы альбо маюць статус бежанца.

Абітурыенты, якія паспяхова здалі экзамены, але не прайшлі па конкурсе, а таксама грамадзяне іншых дзяржаў СНД, могуць быць залічаны ў акадэмію па кантракце на ўмовах поўнай кампенсацыі выдаткаў на навучанне.

Прыём ажыццяўляецца па спецыяльнасцях "Музыказнаўства" (спецыялізацыі музыказнаўства, музычная беларусістыка); "Кампазіцыя"; "Дырыжыраванне" (спецыялізацыі харавое дырыжыраванне, опернa-сімфанічнае дырыжыраванне); "Інструментальнае выканальніцтва" (спецыялізацыі фартэпіяна, скрыпка, альт, віяланчэль, кантрабас, арфа, флейта, габой, кларнет, фагот, саксафон, труба, валторна, трамбон, туба, барытон, ударныя інструменты, баян-акардэон, цымбалы, домра, балалайка, гітара); "Спевы" (спецыялізацыя акадэмічныя спевы).

Абітурыенты здаюць наступныя экзамены: спецыяльнасць, беларуская або руская (па выбары) мова і літаратура (пісьмовы пераказ).

Экзамен па спецыяльнасці складаецца з раздзелаў, кожны з якіх ацэньваецца асобнай адзнакай: выкананне праграмы (выканальніцкія спецыяльнасці, харавое дырыжыраванне, оперна-сімфанічнае дырыжыраванне); выкананне ўласных твораў (кампазіцыя); музычная літаратура (музыказнаўства); гармонія (усе спецыяльнасці, акрамя спеваў); элементарная тэорыя музыкі (спевы); сальфеджыа (усе спецыяльнасці); калёквіум (усе спецыяльнасці); фартэпіяна (музыказнаўства, кампазіцыя, харавое дырыжыраванне).

Права на залічэнне маюць асобы, якія вытрымалі ўступныя экзамены і прайшлі па конкурсе. Залічэнне на ўсе факультэты праводзіцца па большасці набраных балаў па раздзелах экзамена па спецыяльнасці.

Прыём на падрыхтоўчае аддзяленне спеваў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з "Приёмными требованиями по специальным дисциплинам для поступающих в Белорусскую государственную академию музыки", зацверджанымі Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. Абітурыенты здаюць адзін экзамен па спецыяльнасці. Экзамен складаецца з двух раздзелаў, кожны з якіх ацэньваецца асобнай адзнакай: першы раздзел — у класе, другі — у канцэртнай зале.

Паступаючыя на падрыхтоўчае аддзяленне кампазіцыі прадстаўляюць асабістыя творы, якія ацэньваюцца адзнакамі: "пяць" (5), "чатыры з паловай" (4,5), "чатыры" (4), "тры з паловай" (3,5), "тры" (3), "два" (2). Залічваецца абітурыент, атрымаўшы найбольш высокі бал.

Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых адзнак на экзаменах па ўсіх формах навучання залічваюцца:

— воіны-інтэрнацыяналісты;

— дзеці-сіроты і дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў;

— дзеці з сем'яў ваеннаслужачых або рабочых і служачых, што займалі штатныя пасады ў воінскіх часцях, загінуўшых (памерлых) ці стаўшых інвалідамі ў час праходжання ваеннай службы або працы ў складзе савецкіх войск на тэрыторыі дзяржаў, дзе вяліся баявыя дзеянні, а таксама дзеці з сем'яў ваеннаслужачых, загінуўшых (памерлых) у мірны час пры праходжанні ваеннай службы;

— дзеці з сем'яў асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, загінуўшых (памерлых) або стаўшых інвалідамі пры выкананні службовых абавязкаў на тэрыторыі дзяржаў, дзе вяліся баявыя дзеянні, а таксама загінуўшых (памерлых) у мірны час пры выкананні службовых абавязкаў;

— і іншыя. (З падрабязным пералікам можна азнаёміцца ў Акадэміі).

Пераважнае права на залічэнне па ўсіх формах навучання пры аднолькавай колькасці конкурсных балаў маюць (у парадку переваг): інваліды III групы пры адсутнасці медыцынскіх супрацьпаказанняў; асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасці з арт. 19, 20, 23, 24, 25 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991, N 10, ст. 111).

Абітурыенты прадстаўляюць у прыёмную камісію наступныя дакументы: *заява ўстаноўленага ўзору на імя рэктара;* дакумент дзяржаўнага ўзору аб сярэдняй адукацыі ў арыгінале; медыцынская даведка па форме 086У (абавязковым з'яўляецца праходжанне ўсіх прышчэпак); даведка ўрача-фаніятра (спецыяльнасць "Спевы", "Харавое дырыжыраванне"); выпіска з працоўнай кніжкі (для тых, хто працуе); даведка службы занятасці насельніцтва (для тых, хто знаходзіцца на яе ўліку); 6 чорна-белых фотакартак памерам 3х4 см; дакументы, якія пацвярджаюць перамогі ў музычных конкурсах у арыгінале; пашпарт і дакумент аб дачыненні да воінскай павіннасці (прадстаўляюцца асабіста).

Абітурыенты, якія паступаюць не ў год атрымання сярэдняй адукацыі, абавязаны прадставіць дакументы, якія пацвярджаюць іх вучобу ці работу за гады, *якія папярэднічалі паступленню* (дыплом, выпіска з працоўнай кніжкі або даведка службы занятасці насельніцтва ці іншае).

Прыём дакументаў на дзённую форму навучання — з 16 чэрвеня па 30 чэрвеня з 10.00 да 16.00.

Прыём дакументаў на завочнае навучанне і на спецыялізацыю оперна-сімфанічнае дырыжыраванне — з 11 верасня па 16 верасня.

Кансультацыі для абітурыентаў дзённай формы навучання — з 28 па 30 чэрвеня.

Уступныя экзамены на дзённую форму навучання — з 1 па 15 ліпеня.

На перыяд уступных экзаменаў абітурыентам дзённай формы навучання прадастаўляецца інтэрнат (з 28 чэрвеня) з аплатай кошту пражывання.

Уступныя экзамены на завочную форму навучання і на спецыялізацыю оперна-сімфанічнае дырыжыраванне — з 18 верасня; кансультацыі для абітурыентаў завочнай формы навучання — 15—16 верасня. Мэтавы прыём на завочную форму навучання ажыццяўляецца згодна адпаведнаму Палажэнню. На завочную форму навучання маюць права паступаць толькі асобы з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, працуючыя па спецыяльнасці.

*Азнаёміцца з падрабязнымі правіламі прыёму ў акадэмію і атрымаць кансультацыю па іншых пытаннях можна па адрасе: г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Тэл. прыёмнай камісіі 206-59-60.*

**БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ ажыццяўляе таксама прыём на Педагагічны факультэт акадэміі ў г. Магілёве па спецыяльнасцях:**

*"Дырыжыраванне" (спецыялізацыя харавое дырыжыраванне); "Інструментальнае выканальніцтва" (спецыялізацыі фартэпіяна, скрыпка, духавыя і ўдарныя інструменты, баян-акардэон, домра, балалайка, цымбалы). Умовы і тэрміны прыёму, як выкладзена вышэй.*

*Адрас факультэта: 212000, г. Магілёў, вул. Крыленкі, 12. Тэл. (0222)25-28-14.*




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*

**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*

**Мікола ГІЛЬ,**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**

**Яўген РАГІН,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**

**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**

**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**

**літаратурнага жыцця — 284-8462**

**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**

**паэзіі і прозы — 284-8204**

**музыкі — 284-8153**

**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-815.**

**выяўленчага мастацтва, ахovы помнікаў — 284-8462**

**навін — 284-8462**

**мастацкага афармлення — 284-8204**

**фотакарэспандэнт — 284-8462**

**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3318
Нумар падпісаны ў друк 1.06.2000 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2769.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12